

Іван Грамовіч

# ЯК ВЯСНУ РАБІЛІ

## АД АЎТАРА

Маленства! Як летняя раніца, без хмурынкі, ясная і залатая... Маленства далёкае і незабыўнае... Часам, калі ў думках нагадаеш тую раннюю пару, уяўляюцца ласкавыя рукі маці, дужыя рукі бацькі, што насілі малога ад відна да цямна. І ўсё тое ўяўляецца нібы калыскай ці то пачаткам казкі жыцця. Матчынай казкі, дзедавай казкі...

Пара, калі паўстаюць дзень за днём усё новыя і новыя, не падобныя адзін да другога, а вочы здзіўляюцца з усяго нязведанага, незнаёмага. І тваё дапытлівае: што гэта? чаму? Усё ахвота зразумець, распазнаць. Пра ўсё хочацца запытацца. Аб усім хочацца даведацца. Больш за ўсё самому. Сам! Сам! Усё хочацца самому пакратаць і пакаштаваць.

Колькі прыемнага, цікавага знаёмства! За адну толькі раніцу або вечар. За адну толькі хвіліну, калі ўкрадкі ад дарослых шмыгнеш і апынешся за парогам. Колькі шчасця і ўцехі ад гэтага, а часам і слёз!.. Горкіх, буйных дзіцячых слёз...

Колькі непаўторных прыгод, якія прамільгнуць, але не забудуцца! Памяць старанна захавае іх на ўсё жыццё, зберажэ навек.

Наша маленства працякло задоўга да Вялікай Айчыннай вайны, якую мы сустрэлі ўжо са зброяй у руках. Яно прайшло ў тыя гады, калі нашы бацькі якраз скінулі прыгнёт паноў і капіталістаў. Скінулі — і ўстанавілі ўладу Саветаў, распачалі будаваць сацыялістычнае жыццё... Я рады, што нарадзіўся ў бурлівую часіну грамадзянскай вайны і рэвалюцыі. І шчаслівы, што падрастаў, сагрэты першымі праменнямі сонца Савецкай улады. Маё маленства прайшло ў пару, калі прарасло і ўзышло, налілося і паспела першае зерне, пасеянае ў сэрцах і думках нашага народа яго правадыром і настаўнікам, заснавальнікам нашай партыі і дзяржавы, вялікім Леніным. Я на сабе ўдзячна адчуў запавет правадыра — вучыцца!.. Я на сабе адчуў подых новага жыцця, подых шчаслівай будучыні. Хоць яшчэ шмат было тады старога, несвядомага, таго, што перашкаджала ісці наперад.

І ўсё ж, мне здаецца, у маім маленстве шмат супольнага і агульнага з маленствам цяперашніх дзяцей і падлеткаў. Таму я вырашыў напісаць і падарыць ім гэтыя замалёўкі, ці навелы. Я іх назваў «Як вясну рабілі». Гэта і дзіцячыя мары аб будучыні, і ўспаміны дарослага аб сваёй пары маленства праз воблакі часу і дзён, успаміны пра тую пару, як ладзілі новае жыццё. Як пісьменнік, павінен заўважыць, што ў апісанні я выкарыстаў матэрыялы сваіх аднагодкаў, раўеснікаў, змяніў імёны і месца дзеяння ў навелах, якія, вядома, не могуць прэтэндаваць на дакладную аўтабіяграфічнасць.

Думаецца, што гэта кніжка будзе цікавай і для падлетка, і для дарослага.

# СОНЦА

Сонейка, сонца! Хто ласкавей за цябе?

Помню, крыўдзілі дарослыя. Крыўдзілі нізавошта. Хіба ім доўга пакрыўдзіць меншага?

Вось тады і бяжыш з хаты, каб сысці з вачэй. Бяжыш у сваё патаемнае, любімае схове́шча.

Праўда, яно не такое ўжо і патаемнае. Туды могуць заглянуць і певень, і кот, і сабака. А дарослыя нашы — і пагатоў. Прыйдуць і паклічуць, калі я ім спатрэблюся.

Месца гэта за паветкай, што прыбудавана да хлява з паўднёвага боку. Ад поўначы сцяна паточана шашалем і восамі. Справа — трухлявы каранік-вулей. Злева — старая каламажка. Без колаў. Я, бывала, сядаю на збуцвелае бервяно, а на мяне свеціць сонца.

Нават калі ветрана, тут цёпла. Шумяць бярозы, груша над паветкай. У вышыні плывуць імклівыя хмары. Там вецер, а тут заўсёды ўтульна. Зацішак. Сонца.

Таму і люблю я свой патаемны куток, што нада мною заўсёды ласкавае сонца.

Станеш тварам да яго, пастаіш — яно высушыць слёзы на шчоках. Пастаіш у зацішку, і крыўда на дарослых адляжа. Грэешся, і ў такую хвіліну нікога ласкавейшага за сонца няма ў цэлым свеце.

Сонца супакоіць цябе. Праменні яго так цябе гладзяць, абдымаюць, і робіцца тады цёпла-цёпла.

А вочы самі ў гэтым асветленым, сагрэтым кутку адшукваюць лісцік трыпутніку, на якім сядзіць матылёк. Таксама грэецца. Дыхае крыльцамі, залацістымі, рознакаляровымі. Позірк скіруе на лебяду, па якой паўзе «Андрэйка-братка», ці то на жвавую мурашку, якая ўзваліла на сябе кавалачак кары і цягне яе кудысьці. Сюды-туды, ніяк не абміне зялёную цявінку...

Уздыхнеш і міжволі задумаешся: куды яна, кволая, на такіх танюсенькіх ножках нясе гэткую вялікую, большую за сябе, ношу?..

І думкі твае, сагрэтыя цяплом, узнімуцца і паплывуць, паплывуць... Уявіцца вялікі нязведаны край. Свет дробненькага і жывога... Ты стаіш, марыш... І чуваць, як свішчуць шпакі на грушы. Раптам певень

акажацца на двары. Дзівак! Ён, мабыць, зайздросціць шпакам.

Мурашка ўжо, бачу, запаўзла пад вулей-каранік. Матылёк страпянуўся і паляцеў... А я стаю пад сонцам. І мне так радасна. Прыемна вось гэтак наглядаць і чуць музыку ўсяго, што жыве, грэецца, расце...

Сонейка залатое!.. Я імкнуўся разгледзець цябе як найлепш, але не здолеў. Калі ты ўсходзіш ці заходзіш — праўда, можна хоць раз зірнуць. І то пасля балюча. Перад вачыма мільгацяць зялёныя, чырвоныя, сінія шары... Мільгацяць. А я выціраю слёзы.

Без слёз на сонца можна глядзець вясною або ўвосень. Яно тады, як кажуць, нядужае. Пра гэта мы з дзедам гаварылі.

— Дзед,— запытаўся я,— чаго ты на прызбу выйшаў?

— Каб пагрэцца,— адказвае ён.

— Ты ж на печы грэешся.

— То зімою, унучак, калі сонца няма. А цяпер вясна.

І ён пачынаў расказваць, што зімою, калі надыходзяць халады, лютыя маразы, тады ўсе, і старыя і малыя, грэюцца на печы. Так вядзецца здаўна. Людзі выдумалі печ на той час, калі не бывае сонца. Усе ж любяць цяпло: і ў сяле, і ў горадзе. Без цяпла, без сонца не было б жыцця на зямлі.

— А што было б, каб сонца і ўдзень і ўначы свяціла? — запытаў я.— Каб яно грэла і ўлетку і ўзімку?

— Такога не можа быць,— адказаў дзед.— Ад холаду можна схавацца, сагрэцца. А ад спёкі нідзе, брат, не ўкрыешся. Не, не! Так людзям не трэба. Усё трэба ў меру. Лішняя цеплыня прынясе толькі шкоду.

— Якую шкоду?

Мне не верылася. Але потым я і сам пераканаўся, калі ўбачыў гэтую шкоду ў полі, пасвячы з дзедам жывёлу.

— Вось якое можа быць благое сонца,— паказаў дзед на палетак.

Было лета, гарачае, спякотнае. Кожны дзень неба зацягвалася смугою. Жоўтае сонца свяціла праз вялізны зіхатлівы круг. Над палеткамі свістаў вецер.

— Паспела,— сказаў я, гледзячы на ўзгорак збялелага жыта.

— Не,— адказаў дзед,— яно спалена сонцам. От сарві, прынясі каласок!

Я прывык бачыць, каб высокае жыта цяжкімі каласамі кланялася долу. Буйна шумела. А тут, які жах! Угару пазіралі здрацянелыя каласкі на белай нізкай саломцы. Налятаў вецер — трымцелі, хісталіся. Лёгкія. Сухія.

— Прасілі дажджу, ды так і не дачакаліся,— растлумачыў дзед.— Бач, як здараецца!

Я глядзеў, і мне было шкада палетка да слёз. Неяк пуста рабілася на душы. Пуста, як у гэтым самотным, спаленым сонцам каласку.

Я стаяў і думаў пра сонца. Якім жа неміласэрным бывае яно!

Я чуў, што яно гуляе...

Я чуў, што ў яго бываюць зацьменні...

А цяпер я бачыў, якое бывае яно да людзей іншы раз жорсткае і злоснае...

Я рад быў, што сонца ўстае і кладзецца спаць, як людзі. Пад вечар нават кветкі, мак, сланечнікі ў агародзе як бы засынаюць. Заплюшчваюць пялёсткі-вочы. Настае сон.

Мне толькі дзіўна было: як гэта дазнацца, дзе тая пасцель, куды кладзецца сонца адпачываць. Калі заходзіла сонца, я доўга глядзеў на яго. Потым узлазіў на бярозу, самую высокую каля вёскі, каб пабачыць, куды схаваецца чырвоны шар.

Увосень, калі ў лесе жаўцела лісце, мне рабілася сумна ад таго, што сонца як быццам слабела, рабілася нядужым. Вельмі надакучае быць у полі са статкам у пахмурны дзень. Воблакі плывуць, плывуць...

І раптам у поўдзень вецер разгоніць, парве іх. Зробіцца ясна, як на палянцы між лесу. На сэрцы стане радасна і весела.

У прасвеце між хмар сонца аглядае асенняе поле пукам праменняў, нібыта праз залацістую падзорную трубу. Вядзе, вядзе ёю... Вось скіравала яе на скібы ўзаранай зямлі. Па баразнах ходзяць, пералятаюць з месца на месца шпакі, вароны...

Потым бліснe ў вочы, сагрэе цябе, як улетку. Прыемна і радасна ў такія хвіліны!..

Сонейка! Я гатоў бясконца спяваць табе песню-гімн.

Бо дзе б я ні быў, кім бы я ні быў, ты заўсёды пры-

носіла і прыносіш мне радасць, уцеху, даеш мне сілы. І не толькі мне — усім людзям на ўсёй зямлі. Без цябе, сонца, няма жыцця, няма песні, няма шчасця.

## ВОБЛАКІ

Калі што ёсць найпрыгажэйшае ў свеце, то, бадай, гэта воблакі...

О, як яны збіраюцца! Як плывуць і растаюць у сіняве!.. Не наглядзецца, не налюбавацца!

...Вось мая чарада авечак збілася ў гурт. Полудзень. Спёка.

Ляжыш на пагорку. Глядзіш у неба. Над табою — позіркам не абняць — блакітная шырыня. Ты адзін перад усёй гэтай бязмежнай, нямой глыбінёй, з вока на вока, толькі, здаецца, матухна-зямля злёгку трымае цябе за плечы. Ледзь-ледзь. Здаецца, адарвешся і паляціш у гэта блакітнае бяздонне...

Аж страшна!

Страшна, а хочацца паляцець, паплысці. Хораша!

Воблакі, нібы табун на сінім полі. Адкуль яны? Куды нясуцца?

Не, яны не застылі. Яны плывуць.

Клубкамі растуць. Вырастаюць. Гэта, што было наперадзе, застаецца ззаду. Яго абганяе сярэдняе... Нібы рукой, абняло сяброўку. А сяброўка робіцца меншай, радзейшай. Ды яна ж нікне, растае! А побач белым круглым купалам шуганула, узнялася суседка-хмара...

Як цудоўна!

Не наглядзецца на воблакі ў бязветраны дзень. Яны могуць расці, вырастаць, могуць знікаць, як дым. Могуць клубіцца на адным месцы і разрастацца ўшыркі. І зрабіцца велічэзнай цяжкой хмарай. (Тады дзед кажа — збіраецца на дождж.) Гэта хмара насупліваецца, як бы згушчаецца, чарнее, і раптам грымне гром, і з яе ўмомант пасыплецца дождж. Буйныя серабрыстыя кроплі яго будуць сыпацца на зямлю, а непадалёку — глянеш — асветлены сонцам, стаіць зялёна-залаты лес. Дрэвы цешацца, пазіраючы ўгору. Ім свеціць сонца.

У ветраны дзень часцей бываюць нізкія воблакі. Яны імчацца па небе на адной вышыні, як ганцы.

Шпарка, без аглядкі, гуртам. Сонца між іх то выгляне, то схаваецца.

На балоце між густых алешын пасуцца авечкі. Тут зацішак. Дзесьці ў асацэ паскрыпвае драч... А зірнеш угору, вышэй верхавіння дрэў, туды, дзе бягуць шпаркія воблакі, бягуць здалёк ці зблізку, і падумаеш: гэта жыццё імкліва бяжыць. Якое яно імклівае!.. Дзесьці стаяць людныя гарады. Людзі там спяшаюцца, мусіць, як і гэтыя воблакі... Тут не адчуваеш тых нястрымных плыняў. Наляціць віхор, кране вяршаліну алешыны. Яна зашапаціць і супакоіцца.

Толькі воблакі могуць расказаць пра нястрымны рух жыцця.

Іх трэба навучыцца чытаць і разумець. Воблакі бываюць высокія і нізкія. У два паверхі і нават у тры. Ёсць рэдкія і суцэльныя. Ёсць воблачкі. Ёсць хмаркі. Ёсць похмаркі.

Адны прыносяць яснасць, пагоду, другія — непагадзь і навальніцу.

Воблакі ўпрыгожваюць неба, апранаюць яго. То, бывае, усё яго паб'е на груды. То воблачная града шлейфам-шалікам працягнецца ад небасхілу да небасхілу. То коўдрай зацягне ў адным баку. То серабрыстымі фіранкамі перыстыя хмаркі доўга вісяць на вялікай вышыні...

Мой дзед ведаў прыкметы надвор'я. Звечара, гледзячы ўгору, варажыў пагоду на раніцу. Зранку — на пасля абеду... І мяне прывучаў адгадваць загадку хмар на небе.

Але ў мяне, малога, з воблакамі была свая размова. Я вучыўся разумець іх, як само жыццё. І што толькі не нагадвалі яны мне! Чаго не ўяўлялі сваім выглядам! Рознае. І чалавека. І жывёлу. І страшыдла. І нават папярова-белую з пялёсткамі ружу.

Я ніколі яшчэ не бачыў гор. Дзе ім быць у нас на Міншчыне! А воблакі ў маім уяўленні малявалі стромкія кручы. З воблакаў выраставі высачэзныя хрыбты і непраходныя цясніны. Зіхацелі беласнежныя шапкі вяршынь, і цямнелі пячоры з вечным змрокам. А калі сонца хавалася за лес, статак ішоў у сяло,— на супрацьлеглым ад захаду небасхіле віднеўся цэлы ланцуг гор. Сапраўдныя хрыбты і недасягальныя пікі горных вяршынь. Так перада мной паўставалі яшчэ ніколі не бачаныя Казбек, Эльбрус, Эверэст...

Я ніколі яшчэ не бываў у заапарку або звярынцы, але слана ўпершыню чамусьці ўгледзеў у хмарах. Плыла такая гаматная шэрая хмара з галавой, з хобатам. І вочы мела. І ногі... Дзе мне бываць было ў казачнай краіне, там, дзе цёплыя воды, там, дзе растуць райскія дрэвы! Але пейзажы мора, сінь вечна бясхмарных нябёс я шмат разоў бачыў, наглядаючы воблакі...

Я не ведаў яшчэ, што такое вайна. А ўжо ў маленстве ў хмарах бачыў бойкі нашых з ворагам. Там грымелі гарматы. Імчалася чырвоная конніца. Тачанка з кулямётам. З-за пляча агромністым мячом замахваўся асілак у шлеме. А ля яго корчылася, выгіналася шэра-цёмная гадзюка. З пашчы ў яе бліскаў агонь... Потым гадзюка распадалася на кавалкі, што бруднымі плямамі яшчэ колькі часу плылі па небе...

Я не бачыў выбухаў бомб і снарадаў. А воблакі нагадвалі мне гэта. Аднойчы куст полымя і дыму вырас у небе, нібыта дзікая груша на палетку, і доўга шугаў перад маімі вачыма ў надхмар'і.

Я любіў глядзець на воблакі. Глядзець і думаць...

Найбольшая прыемнасць глядзець на воблакі ў летнія, пагодлівыя дні, калі ў небе лётаюць птушкі. Вясною — жаваранкі. А ўлетку — ластаўкі і стрыжы. Ласкава чылікаючы, з імклівым свістам яны праносіліся над галавой.

А ўвосень надта падабалася, як высока-высока плавалі буслы. Павольна, не махнуўшы крылом, яны плавалі, збіраючыся ў вырай. Плавалі па крузе, узнімаючыся вышэй і вышэй... Вышэй воблакаў!..

Тады хацелася лятаць самому.

Толькі шэрыя і пахмурна-зімнія воблакі былі не па сэрцу.

Сэрца заўсёды хвалявала навальніца...

У навальніцу ўсё трапяталася ў грудзях. Я бачыў, як хмары ляцелі ў розным кірунку. Яны страчаліся. Усё бушавала. Усё ў паветры кіпела. Усе воблачкі, усе хмары і похмаркі з-пад сонечнай вышыні. Навальнічныя перуны таўклі іх, як месіва, і секлі агністымі маланкамі. Гром адгукаўся ў сэрцы...

Страшнавата было. Асабліва ў лесе, дзе ў буру дрэвы самі ўзнімалі трэск і пошчак.

А ў сонечны дзень, бывала, сяджу, гляджу... Здаецца, такіх воблакаў, як сёння, не бачыў ніколі. І, здаецца, не ўбачу...

Цудоўна!

І так штодня.

Бо воблакі як само жыццё. Жыццё цячэ — хмаркі бягуць. То бываюць цёмнымі, то яснымі. То спакойнымі, то неспакойнымі... Не налюбуешся на іх, як на само жыццё.

Ці бачылі вы, як хаваецца сонца ў агністыя падушкі?

Або як ноччу месяц усплывае на блакітнае неба... Так, на блакітнае неба!.. І зорачку каля яго малюсенечкую на гэтым блакітным фоне ўначы бачылі? А хмары падплываюць да месяца. Белыя, серабрыстыя краі, нібыта ўдзень.

Такога дзіва не знойдзеш і ў казцы.

Хмары і воблакі — гэта мары маленства. Мары аб сталасці. Аб пазнанні нязведанага.

* * *

Калі я ўпершыню ляцеў на самалёце, пры пасадцы вельмі прасіў лётчыка праляцець скрозь воблакі. Або над самымі воблакамі, блізка-блізка...

Лётчык паслухаў мяне. Наш самалёт, у якім мы ўчацвярых, нядаўнія студэнты, ляцелі, раптам крылом дакрануўся да першага воблачка. Дзверцы кабіны пілота адчыніліся, і лётчык крыкнуў, штосьці паказваючы пальцам. Але за грукатам матора голас нельга было пачуць. Я падумаў, што нешта здарылася. Усё магло быць... Я ўстаў і падышоў да пілота.

— Бяры воблакі рукамі! — крыкнуў ён.— Бяры, ты ж хацеў...

Я зразумеў яго. Упершыню пада мной плылі лёгкія, як туман на світанні, рэдкія воблачкі. Плылі мары майго маленства. І тут я згледзеў чараду кароў на лузе. Ля іх малюсенькую кропку — пастушка.

Мы сапраўды ляцелі між хмар. Унізе воблакі маленства, а ўверсе — па-ранейшаму слаўся пласт зноў недасягальных аблокаў на вышынях.

## САДОК НАСАДЖУ

Сам не ведаю, з чаго яно пачалося. Можа, таму, што босы гайсаў па балоце за чарадой, а ішоў бесперастан-

ку золкі дождж і я моцна прамок. Можа... Хто яго ведае, ад чаго магло такое здарыцца.

Схільнасць шукаць усяму прычыну паяўляецца ў сталейшым узросце.

Я ляжу. У хаце нікога няма, я — адзін. Дзесьці старэйшыя заканчваюць работу. Канчаецца мой хворы дзень. Вечарэе...

У грудзях усё пячэ. Унутры ўсё гарыць. Я спяшаюся дыхаць, як пры бегу. Але я — не бягу. Ляжу. На бацькавым ложку. На мне коўдра, кажух.

Галава цяжкая. Пад галавой мокрая ад поту падушка.

І глядзець не хочацца і заплюшчваць вочы — таксама. Балюча...

Праз акно відаць страха на старой хаце суседа дзядзькі Антона. І не ўся страха, а палова, як дазваляе шыба ў акне. Куп'ё ярка-зялёнага, як мурава, моху. З гэтага моху вытыркаецца рог цаглянага коміна. Счарнелага ад дыму і вышчарбленага дажджом і ветрам у навальніцу. Над комінам краёк бела-белай хмаркі, ярка асветленай заходзячым сонцам. Як яна далёка ад мяне!..

Заплюшчваю вочы. Агністыя кружочкі растуць і лопаюцца. Рассыпаюцца на мноства зорачак. Усё мігціць і з балючым звонам у вушах праносіцца перада мною знізу ўверх, нібыта я правальваюся кудысьці ў бяздонне. Ой!..

Расплюшчваю вочы. Комін на Антонавай страсе стаў змрочны. Нядаўна відаць была чырванаватая цагліна ў ім, цяпер яе не відно. І краёчка хмаркі няма. Сіня-сіняе неба... Надоечы прасвечваў сонечны прамень. На шкле прыкметны былі высахлыя сляды кропель, нібы слёз, і сляды ад мух. Цяпер не разбярэш. Шыба таксама зрабілася празрыста-сіняя...

У хату заходзіць маці. Я чую, што гэта яна. Па скрыпу дзвярэй, па асцярожных кроках пазнаю. Маці ставіць вядро з вадою на лаву так, каб не парушыць цішыню.

Потым падыходзіць да мяне.

— Можа, лепш? Можа, лягчэй? — пытае.

А калі нават не пытаецца, я разумею матчын спагадлівы позірк, яе ласкавы выраз твару.

— Лепш,— адказваю я.

Дзе яно лепш! Але я цярплю. Цярплю, як дарос-

лы. Мне вельмі хочацца хутчэй стаць дарослым. Хочацца перамагчы гэту немач, якая так учэпіста мяне скруціла.

Раней я не хварэў. Я не ведаў хвароб. Яны мяне абміналі. Ну, там калена саб'еш, палец парэжаш. Асіпнеш, крычучы на цялушак у полі. Самае вялікае, што кашаль падхопіш. Хіба гэта хваробы?

Але так, каб ля мяне асцярожна хадзілі і з нейкай трывогай паглядалі, са мной яшчэ не здаралася.

Маці ціхенька паварочваецца, адыходзіць, а я застаюся адзін, зноў гляджу на столь. Хачу заплюшчыць вочы — вейкі апускаюцца. Колікі ў скроні. Ой!..

Страшна: заплюшчыць — расплюшчыць...

...Ужо ў хаце гарыць лямпа. Толькі ў мой бок святло ад яе прыкрылі хусткай. Украдкі, нячутна ступае сястра. Брат мыецца. Звоніць квартай у вядры. Ён не такі, як маці і сястра. Смела ходзіць, смела рухаецца.

«Калі я ўжо стану такім!» — думаю сабе я.

— Можа, паясі, сынок?

— Не,— ціха шапчу ў адказ.

Мяне просяць, а я толькі ледзь варушу галавой, каб мяне не чапалі. Не краталі. Мне нічога не міла.

Цярплівы, спакойны і любы твар маці аддаляецца.

Я ведаю ўсё. Я не маленькі. Што маглі зрабіць — маці, сястра, брат,— зрабілі. Але бацькі няма. І гэта галоўнае. Да доктара мяне не павязуць. Няма на чым. Бальніца далёка. А ў бальніцы дактары і лякарствы...

Вось цёплы настой ліпавага цвету. Кампрэс. Кажух... Усё!

Калі брат і сястра павячэралі — я не чуў, каб маці што-небудзь хоць у рот узяла,— мне зрабілася горш. Я пачаў думаць: «Як гэта паміраюць?»

Успомніў, як памёр дзядзька Мікалай... Ляжыць у доўгай труне. Рукі склаў на сабе. От так заплюшчыўся... А цётка Мікалаіха над ім усхліпвае. І ўсе, што стаяць у хаце, хліпаюць... А далей як загалосяць. Хорам... Галашэнне!..

Я адразу ж уцёк з дзядзькавай хаты. Каб не чуць...

Няўжо такое са мной будзе?.. Ой!

Я расплюшчваю вочы... Мама! Родная, дарагая мама! Прашу яе:

— Піць.

Яна дае мне глынуць салодкага ліпавага навару і ўгаворвае:

— Засні, сынок...

А я не магу прызнацца, што калі заплюшчваю вочы, то, здаецца, правальваюся кудысьці ў склеп. Падаю, падаю і ніяк не затрымаюся. Агнявы дождж струменіць, мільгае... Каровы не каровы, рагатыя страшыдлы накідваюцца на мяне... У грудзях душна. Спяшаюся глынуць паветра. Спяшаюся... і адкрываю павекі.

Нада мною зноў мама. На столь, на бэльку, на рог пабеленай печы кідае святло лямпа... Сястра спіць. Брат спіць. Мама не спіць, схілілася нізка...

«Няўжо так і нада мной будуць галасіць сястра і мама, як над дзядзькам, калі памру?» — мільгнула думка. Я спрабую заплюшчыцца. Зноў правальваюся ў канаву.

Ой! Калі ж гэта кончыцца?! Калі пройдзе ноч?!

— Вышэй падушку! — прашу я.

А калі маці папраўляла падушку, на сваёй шчацэ я адчуў вільготную, не халодную і не гарачую, кроплю. Непрыкметна і нячутна ўпала яна і адразу высахла на маім твары.

Адкуль яна ўпала? Я здагадаўся. Я зразумеў усё. Я стаў сачыць за родным, мілым аблічам мамы. Яно такое было спакойнае і ласкавае. Але я сачу... Ага, так і ёсць!..

— Мама! — сказаў я.— Чаго вы... плачаце? Не трэба плакаць.

— Я не плачу, сынок,— па-ранейшаму спакойна адказала мама.

— Раскажыце казку... Вы іх столькі ведаеце.

Яна маўчыць. І раптам паднесла да вачэй сваіх фартух, закрылася.

Сутаргава ўздрыгнулі плечы... Сыпнулася, мабыць, шмат-шмат такіх кропель, адну з якіх яна ўраніла мне на шчаку.

— Мама, мама... Не плачце.

Мне так горка, мацней за боль у грудзях, шкада зрабілася яе, родную, дарагую. Я помніў, як яна мяне, малога, пераносіла цераз ручай. На плячах. І правалілася ў багну. Дзіўна, як мы затрымаліся на паверхні балота і выкарабкаліся адтуль...

Яна мяне любіла як самага меншага. Яна заўсё-

ды, як нікога, клапатліва выпраўляла з хаты ў поле. Я ўжо тады адчуваў, што перад ёю павінен... Усім абавязаны.

— Мама, не плачце,— набіраючы поўныя грудзі паветра, загаварыў я.— Паслухайце, я раскажу... Як вырасту... буду дужы. Буду насіць ваду... нанашу вады...

Не, мне хацелася чым-небудзь больш значным, вялікім суцешыць яе.

— Мама, як вырасту... Насаджу садок... І яблыні, і вішні, і грушы... Як у дзядзькі Мікалая... Бэры. Насаджу садок... Густа. Вялікі... Толькі для вас...

Маці выцерла слёзы. Прыслухалася. Мая родная, дарагая!

— От пабачыце,— упэўнена сказаў я.— Праўду вам кажу. Насаджу садок... Толькі для вас. Адны будзеце хадзіць у ім... Ні ў каго такога не будзе. Вялікі. Зялёны... Як зацвіце...

Я паспрабаваў уявіць, заплюшчыў вочы. Цвітучы сад! Як гэта ён зацвіце?..

Матчына рука дакранулася да маіх валасоў на галаве, пачуўся яе радасны і даверлівы голас:

— Добра, сынок, добра...

— Насаджу садок,— паўтарыў я.

І сапраўды, вялікі сад разгарнуўся перада мною. Увесь у квецені. Цвілі яблыні, грушы. Белым, ружовым цветам.

Цвілі ўсе дрэвы. І хоць лятали агністыя сняжынкі, было прыемна ісці скрозь гэты сад... Сад, сад, кругом сад!..

От я капаю ямку, каб пасадзіць яшчэ адну яблыньку... Саджу, а яна ўжо расце. Вось ужо і зацвіла...

Сонца свеціць. Сонечныя кветкі.

...Расплюшчыў вочы. Змрочна ў хаце. Пад галавой мокрая падушка. А ў шыбы акон заглядае раніца... Ноч цяжкая прамінула.

Мама ад мяне ўвесь час не адыходзіла. Змораная бяссонніцай і маімі пакутамі, яна сядзела, але вочы яе свяціліся нейкай уцехай... Значыць, яна помніла, што я ёй дакляраваў...

— Засні яшчэ, сынок,— упрошвала яна.

А можа, гэта быў сон? Можа, нічога я маці не абяцаў? Я спаў? Пад раніцу, значыць, я заснуў? Гэта было праз сон ці наяве?..

Раніцай мне было лягчэй, але ў полудзень зноў пагоршала.

Мама падсела да мяне і ласкава папрасіла:

— Сынок, ну яшчэ раскажы... Які будзе наш садок?

Я абрадаваўся, што гэта быў не сон, і ўсхвалявана загаварыў:

— От, пабачыце, мама! Праўду кажу... Я ўжо ўсё надумаў... Насаджу!..

І калі я думаў, як дапамагчы маме, уяўляў садок, мне рабілася лягчэй. Я не адчуваў ніякага болю...

На трэці дзень да нас прыйшоў доктар. Мне ўжо было зусім добра. Ён не столькі слухаў і выстукваў мяне, колькі слухаў дарослых аб маёй хваробе. І ўсё ківаў галавой, украдкі паз іраючы на мяне праз акуляры.

Праз тыдзень я ўжо сядзеў на ложку.

Сам не ведаю, з чаго яно пачалося і як прайшло.

Схільнасць шукаць усяму прычыну з'яўляецца ў сталейшым узросце.

Мне ж было яшчэ зусім няшмнога.

І калі я часамі пасля зноў хварэў, маці, дарагая, родная мама, у самыя цяжкія прыступы хваробы садзілася побач, каля мяне, і абавязкова прасіла ўспомніць маё дакляраванне.

Не, я не мог забыцца. І цяпер яго помню.

...Даўно ўжо няма маёй роднай на свеце...

А я ўсё выконваю тое абяцанне, дадзенае ёй.

Колькі пасаджана дрэўцаў! Яны растуць... Цвітуць... І яшчэ будзе больш!

## ПЕСНЯ Ў БАРЫ

Аднойчы я даведаўся, што сястра ідзе ў ягады. У Кайкаўскі лес. Я чуў, як яна з сяброўкамі дамаўлялася ісці туды рана ў нядзельку, на купалле. Я пачаў прасіцца пайсці разам. Падгаварыў дружбака Сцяпана таксама прасіцца. І яго сястра ішла ў лес.

Нас нарэшце ўзялі з сабой. Але папярэдзілі:

— Глядзіце ж, не пагубляйцеся ў бары!.. Ваўкі з'ядуць...

З кошыкамі ў руках, я і Сцяпан, у тую раніцу ішлі па вуліцы за шумлівым, вясёлым гуртам дзяўчат і,

вядома, з дарослымі ніякіх ваўкоў не баяліся. Жарты! Але кожны крок наш быў незвычайным крокам у невядомае і небывалае.

Да гэтага мы яшчэ не былі ў Кайкаўскім лесе. Блізкі ад нашай вёскі лес, Галае балота, дзе раслі сасонкі, бярэзнік сярэдняй велічыні, лазовыя кусты, багун, мы са статкамі жывёлы абхадзілі ўдоўж і ўпоперак. Кайкаўскі лес знаходзіўся ад нас далекавата і называўся борам. У ім, праўда, можна было напаткаць драпежнага звера і заблудзіцца ў гушчары. Там стаялі дубы, ясені, адна ў адну высокія елкі, гонкія сосны, якія ў камлі мы ўдвух са Сцяпанам у абхват не абнялі б.

Мы ў гэтым цікавым падарожжы чакалі чагосьці загадкавага, таямнічага і вельмі захапляючага. Сэрца прадчувала. І сапраўды, такім захапляючым і незабыўным для мяне з'явілася песня ў бары.

Спачатку мы са Сцяпанам старанна збіралі суніцы. Колькі тут было спелых ягад! З берага чырвоныя суніцы. А далей, у густым ягадніку, пачалі трапляцца салодкія чарніцы, буйныя, як вішні. Іх мы збіралі з ахвотай: адну — у кошык, дзве — у рот... Збіраючы так, мы не адставалі ад дарослых... Пільнаваліся іх.

— Го-го-го!..— крычалі мы.

— Го-го-о-о! — кацілася ў адказ рэха.

Такога гучання свайго голасу, як у бары, я яшчэ не чуў. Хацелася спыніцца пад якім-небудзь магутным дрэвам. Прыслухацца... Як яно само сабе гамоніць!

Моўчкі драмалі кашлатыя елкі. На зялёныя лапкі папаратніку сям-там падалі праменні сонца. Летні дзень быў спякотлівы, душны. Нават у лесе.

Пасля абеду дзесьці загрымела.

— Дзевачкі, чуеце? Будзе дождж,— сказала сястра.— Хадзем бліжэй да леснічоўкі.

Дзяўчаты ведалі тут усе дзялянкі, лініі і просекі і дзе хата лесніка. Нам са Сцяпанам толькі заставалася пільнавацца іх.

Аднекуль нас даганяў дождж. Хмары не відно было, а грымоты набліжаліся.

Калі елкі і сосны зашумелі, а па лісцях арэшніку запякалі важкія кроплі, усе, хто збіраў ягады, кінуліся бегчы. І я пабег. Але мы беглі нядоўга. Наперадзе выглянула палянка, а на палянцы — леснікова хата. Пры

самым лесе стаяла адрына. Вось у гэтай адрыне лесніковай мы схаваліся.

На духмяным, мурожным сене паселі. І слухалі, як над намі праносіцца навальніца, па страсе лапоча лівень, а побач стогнуць векавыя дрэвы...

А тут, у адрыне, нам было не страшна. Дзяўчаты спявалі, смяяліся. Сцяпан, расфарбаваўшы чарніцамі губы, апаражняў свой кошык. І мяне спакушаў.

Не агледзеліся, як зноў засвяціла сонца. Ды так ярка... Раптоўна нахлынула навальніца — раптоўна прамчалася.

Мы выйшлі з адрыны, босыя, па лужынах, па роснай траве, зноў накіраваліся ў лес. Ён цяпер быў абмыты, бадзёры. А рэха аддавалася ў ім яшчэ мацней.

На папаратніку, на чарнічніку густа віселі дажджавыя кроплі. Збіраць ягады — толькі абрасіцца... І, можа, таму дзяўчатам не захацелася нагінацца, мачыць у свежай расе рукі, а ў гэтым гулкім бары, дзе як струны нацятыя сосны, елкі,— захацелася заспяваць песню. Здаецца, ён так і чакаў паслухаць яе пасля дажджу.

— Го-го-го-го!

— Дзевачкі, сёння ж купалле! — крыкнула сястра.— Заспяваем «Купалінку»!

І ўсе дружна падхапілі запявалу. Як паўгадзіны таму назад бор быў поўны грымот і навальніцы з неба, так цяпер ён напоўніўся і адгукнуўся галасамі знізу. Песня ўзнялася шырока і працяжна:

Ку-у-палінка, ку-у-упалінка-а-а...

Эх, як я любіў песні!..

Мабыць, з тае пары, як засынаў пад спеў калыханкі, я ўлавіў гэта невымоўнае адчуванне ўсім сэрцам. Яно прыносіла спакой і сон, весялосць і радасць. А пазней і слёзы. Яно непрыкметна пранікала ў душу, калі я пачынаў услухоўвацца, як спяваюць... Песня адразу апаноўвала мяне ўсяго, і я застываў, нібыта анямелы, раскрыўшы рот.

Помню, маці прадзе ля акна кудзелю. Калаўрот шуміць, а пад гэты шум ільецца песня. Песня аб тым, як браты-разбойнікі затрымалі дзяўчыну ў лесе:

Адкуль, дзеўка?
З Даўгінава.

Чыя, дзеўка?
Яўхімава...

Усё, што было ў руках, я адсоўваў убок, ішоў, садзіўся каля прасніцы і слухаў. Слухаў да канца, а тады прасіў:

— Яшчэ.

Мне надта падабалася адна песня, дзе маці спявала, што з песняй нарадзілася, з песняй вырасла...

Чаму гэта некаторыя абыякавыя да песні?

А вось мой дзед быў нейкі асаблівы. Ён спяваў, але без слоў. У яго былі розныя матывы, якія выказвалі розныя пачуцці. Калі ў дзеда добры настрой, ён спяваў: «Ля-ля-ля! Тра-ля-ля-ля!..» Калі ён што-небудзь думаў і рабіў, стругаў нажом ці плёў кашы: «Та-та-та-та! Тра-та-та-та!..» Калі што не ладзілася, ламаўся абруч, ірвалася старая хамуціна: «Гэй, да-да! Ну, да, ну!..» І шмат розных у яго было выклічнікаў: «Го-па-па...», «Дуль-дуль-дуды...». А слоў ніколі не выгаворваў. Мармытаў, бубніў сам сабе.

Пазней я зразумеў, што ёсць песні, якія люба спяваць, а ёсць такія, якія люба слухаць. Слухаць іх сардэчныя, шчырыя словы. І люба слухаць яшчэ тыя, якія не пад сілу заспяваць. Няма на іх моцы голасу. Як у мяне... Я іх мог слухаць бясконца. І разважаць...

...У полі, на жніве, слухаў жніўныя... Увечары, на пагулянках, прывольныя... А як спявалі жанкі на вяселлі! Яны цягнулі мноствам танюткіх галасоў і так доўга, што чамусьці рабілася маркотна сэрцу. Чагосьці не хапала...

Затое як усхвалявана білася яно, калі я слухаў спевы хлопцаў. Іх песні, мужныя, гераічныя, спяваліся аб подзвігах на вайне і баявых паходах.

Гэта было часта вясною. Пасля рабочага дня, увечары. Калі з капяжу сыплецца і на марозік бярэцца. А на рэчцы крыгі плывуць... Паводка. Хлопцы збіраліся ў натоўп ля Лукаша. На ўзгорку. Сюды прыходзіла не толькі моладзь. Прыходзілі і жанатыя. Запявала, напрыклад, пачынаў: «Там ўдалі ля ракі заблішчалі штыкі...» — а ўсе зладжаным дужым хорам падцягвалі. Чутно было на ўсю ваколіцу. Запявала, здаецца, адрываўся ад зямлі, імкнуўся ўвысь, угору, туды, дзе мігцелі зялёныя вячэрнія зоркі, а жанатыя мужчыны сталі шчыльнай сцяной і цягнулі басамі. Ды так цягнулі, што я аднойчы з бервяна зваліўся. Я заўсёды слу-

хаў песні, седзячы ззаду на плоце ці на бервяне. Уявіў сабе, што зоркі трымцяць ад басоў, зірнуў на неба, галава закружылася, і... зваліўся.

...Тут, на ўзгорку, гучыць адна песня, а ў тым канцы сяла — другая. Там спяваюць дзяўчаты. Чаму гэта ў нас не было хору, у якім бы разам спявалі хлопцы і дзяўчаты, не ведаю. Спявалі паасобку. Мужчыны сабе. Жанчыны сабе.

Я надта імкнуўся памагчы спяваць. Я ўжо ўмеў пераймаць свіст шпакоў, стракатанне сарокі, кукарэканне пеўня... Я пераймаў і матыў песень.

Спяваў я, калі заставаўся адзін у хаце. Спяваў у вялікую бочку або ў калодзеж. Я тым самым, чуючы рэха, спрабаваў свой голас. Каб ён гучаў як трэба. Перагнуся цераз зруб калодзежа і зацягваю: «Штобы з боем ўзяць Прымор'е...»

Праўда, не ўсе словы песні да мяне даходзілі. Некаторыя я не разумеў, а калі разумеў, то па-свойму. Слова «аплот» з песні пра амурскіх партызан я зразумеў ужо толькі ў школе. Растлумачыў наш настаўнік Алесь Мікалаевіч... Да таго я спяваў:

Штобы з боем ўзяць Прымор'е...
І белу армію... аб плот!..

Я так і разумеў сэнс гэтага, што партызанам белую армію трэба ўдарыць галавой аб плот!..

Спяваў я сам сабе, пасучы жывёлу. Надта вольна было дэманстраваць свае вакальныя здольнасці ў полі, дзе ніхто з дарослых не сварыўся:

— Сціхні, не гарлапань!

...У бары, на купалле, я ўпершыню паспрабаваў спяваць разам з дарослымі і адчуў, што патрапляю. Купалле так далёка-далёка кацілася, а ў ім чуўся мой голас. Упершыню! Як радасна!

Ой, сягоння купалле купала,
А назаўтра рана, на Івана...

...З тае пары, калі я заходжу ў лес, пачынаю спяваць. Помніцца той выпадак у бары.

Я не вырас спеваком.

Але настаўнік спеваў, наш Алесь Мікалаевіч, са старэнькай скрыпачкай сваёй, тлумачачы ў класе нотную грамату, навучыў мяне і многіх такіх, як я, пасапраўднаму спяваць у хоры. Гэта вялікае шчасце ўмець спяваць разам.

Ён казаў нам, вучням, мудрыя словы:

— Па песні можна пазнаваць людзей. Скажы мне, ці любіш ты спяваць, якую ты любіш песню, самую найлюбімейшую, і я адгадаю, хто ты такі!..

Ён яшчэ казаў:

— Трэба ўмець спяваць у хоры. Песня дужа магутная ў хоры. Яна ўсё дапаможа зрабіць чалавеку.

# ПАД СОНЦАМ УСЁ ГРАЕ...

Дзед мне сказаў, што вярба грае...

Я пайшоў на поплаў, дзе раслі чатыры вярбы. Якраз насупраць нашай сядзібы. Дзве па баках высокія, кучаравыя, а дзве, пасярэдзіне, не такія вялікія і круглыя — заціснутыя крайнімі раскошнымі сёстрамі. Яны, вясёлыя пасля зімы, зелянелі, углядаючыся ў люстра ручая, які тут, у нізіне, павольна плыў да рэчкі. За ім шырокі выган для выпасу жывёлы, і вербачкі як жываплот з ручаём — неадольнай вадзяной перашкодай — утваралі мяжу на прысядзібных сенажацях. У суседзяў рос густы алешнік, а ў нас — вербы. Дзед казаў, што яны самі вымахалі з убітых на канаве колікаў.

Я спыніўся, узіраючыся з усёй дапытлівай сур'ёзнасцю свайго тадышняга наіўнага ўзросту. Дзе, хто тут грае? Ніякага грання!

Наўкол стаяла вясна. Па выгане хадзілі каровы. Рыкалі. Авечкі бляялі. Свінні рыліся каля копанкі. Я доўга вачыма ўтарапліваўся на дрэвы, а пад босымі нагамі між пальцаў хлюпала вада. Сцюдзёна было, але я разважаў: ну, каторая з іх грае? Гэта ці гэта? Ці, можа, гуртам, як наляціць вецер?.. Але ветру не дачакаўся. Ён лёгенька дыхаў. Светла-зялёнае, ласкаванае лісцейка блішчэла, ледзь-ледзь варушылася. Між ім свяціліся бухматыя каточкі. Вербачкі на сонцы апраналі вясновы ўбор, як і ўвесь зялёны поплаў пасля паводкі.

На другі дзень я бегаў да ручая, калі дзьмуў моцны вецер. Ён гнуў бярозы, нахіляў яблыні ў садзе. Ён пабрываў каточкі на вербах, і я бачыў, як яны ціха плылі па вадзе. Я нават прытуляў вуха да крайняй вярбы,

тоўстай і шурпатай. Шумлівае лапаценне вярбовага лісця перадавалася мне ў сэрца.

Калі я дома ўсё ж неадчэпна прыстаў да дзеда, як гэта грае вярба,— я слухаў, няпраўда,— ён адказаў:

— От пагонім каровы пасвіць, тады ўсё растлумачу. Цяпер во, бачыш, гной вывозім. Няма калі!.. А прыйдзе рата, пойдзеш за падпасыча? Вось і нагадаеш!

Чакаць доўга не давялося. Прыйшла наша рата гнаць вясковы статак у поле. Звечара напярэдадні я сабраўся, падрыхтаваў абутак, світку.

І, калі мы гналі жывёлу на выган, мінаючы ручай каля паплавоў, я сказаў дзеду:

— А вуньдзека нашы вербачкі... Напамінаю.

Дзед, як бы штосьці ўспомніў, прыпыніўся. А потым кажа:

— Ідзі ўслед за каровамі на пашу, а я цябе даганю.

Дзед вярнуўся да вербачак, і я, аглядаючыся, заўважыў: ён старанна выбірае, нагінае вярбу і нажом штосьці выразае. Калі ж дагнаў мяне, я ўбачыў у ягонай руцэ роўную ладную галіну.

— Як ты думаеш? — запытаўся ён.— Што гэта будзе?

Дзед-штукар усё ўмеў змайстраваць. Я разумеў гэта і, вядома, не спяшаўся здагадвацца. Цярпліва, з цікаўнасцю чакаў.

Калі каровы разбрыліся на Скарбовым балоце, дзед прысеў на высокай купіне ля крыніцы. Нажом, якім, бывала, стругаў ракітавыя і лазовыя дубцы, плетучы кашы, ён ацерабіў галіну. Дзед яшчэ нешта выбіраў — выбіраў прадаўгаватую гладкую мясціну з роўнай зялёнай карой. Знайшоўшы такі без сучкоў ствол, ён літаральна адсек яго вастрыём нажа.

— Не здагадваешся?

У руцэ ён трымаў кусок вярбы, даўжынёю ў тры алоўкі і таўшчынёю — у два пальцы.

— Не,— адказаў я.

— Дудка будзе,— растлумачыў дзед.— Граць будзеш.

Драўлянай калодачкай нажа дзед пачаў дробненька малаціць па зялёным абрэзку. Адбіваючы асцярожна, ён час ад часу качаў яго далонямі па каленях.

— Трэба, каб адстала кара. Яна яшчэ маладая, налітая сокам.

Вострым лязом ён напалову зрэзаў адзін канец. Быццам недавастрыў яго. А з другога ж яго боку — надрэзаў, якраз насупраць таго месца, дзе пачынаўся на адвароце зрэз. Тады, падкалупнуўшы вастрыём, выбраў начыста зарубку. Ці не галоўка, як у свістульцы?.. Прыладзіўшы вярбовы ствол да сівой барады, дзед паказаў, надзімаючы шчокі — аж паднатужыўся; я адразу здагадаўся і ўявіў сабе: гэта будзе ўверсе акенца ў дудцы. Для выхаду паветра. Дзед аж губы смачна аблізаў. Яшчэ ж нельга было выйсці духу з рота — нутро ў ствале наглуха заткнута драўляным асяродкам.

— Пачакай, зараз заспявае,— супакоіў дзед.— Вось вучыся, запамінай, як спускаюць [redacted] вярбы жалейку!

Ён надрэзаў на ствале яшчэ тры вочкі, нібы зарубкі на бірцы. Яны спатрэбяцца, кажа, тады, калі пальчыкамі будзеш перабіраць па іх. І паказаў як. Чым іх больш, тым прыгажэй будзе гучаць голас, [redacted] пераліvамі, нібы ў салаўя.

Так паступова рабілася з вярбы зялёная дудка. Але пакуль што не пяяла.

Ніжні канец дзед агаліў. Кара вольна адстала. Пад ёй аказаўся зялёна-белы слізкі асяродак. Дзед заціснуў яго ў пальцах і ў далоні, другой рукой асцярожна пакруціў паверхню ствала. Потым, калі я сам навучыўся спускаць дудкі, то браў асяродак у зубы і аберуч круціў, каб сцягнуць [redacted] яго кару. Яна ж у дзеда, ледзь трэснуўшы, лёгка спаўзла.

— От, цяпер глядзі!

Усё майстэрства дудкі ў яе галаўной частцы. Да зрэзу ў акенцы ён адсек калодачку. Гэта калодачка вельмі важная дэталь. Зверху дзед адшчапаў дольку — прымераў і яшчэ нажом адстругаў трэсачку. Дзед казаў, што гэты зрэз трэба вельмі трапна адшчапаць, бо праз яго будзе [redacted] рота паступаць паветра. І як яно будзе паступаць — мацней ці слабей,— так і граць будзе: гучней ці цішэй. Адшліфаваўшы палову калодачкі, дзед намачыў яе ў крынічнай вадзе і ўставіў у галоўку. Потым усю дудку акунуў у крыніцу. Каб яна была волкая, свежая, жывая, як сама вярба.

— Разбіраць, раскручваць дудку не варта.

Доўгі і гладкі асяродак дзед уткнуў спаднізу. Ён быццам зрабіўся дзяржаннем у дудцы. Спачатку сам

паднёс да губ, набраў паветра, але адвярнуўся, потым, працягваючы мне зялёнае цуда, сказаў:

— На, лепш ты!

Нібы я такі ўжо майстар ці спрактыкаваны музыка.

Я ўзяў, уздыхнуў... Я падзьмуў, і дух з маіх грудзей нібыта ажыў. Дудка зрабілася паслухмяная. Загаварыла. Весела загучала. Усё навокал стала яшчэ больш прыгажэйшым. Алешыны слухалі. Крыніца змоўкла. Нават рабая карова паглядзела ў мой бок.

— Ты перабірай пальчыкамі! — усміхаючыся ў бараду, падказваў дзед.— Вось тут і тут!

Эге, дык дудка магла не толькі працяжна гучаць, але і на розныя лады вытылінгваць. Толькі прыслухайся да свісту ў акенцы і кіруй, мяняй яго па сэрцу, па настрою. Якая то была ўцеха!

Я пасябраваў з ёю. Я доўга на ёй іграў.

Але аднойчы раніцай я пайшоў у садок, у маліннік, каб там на адзіноце нікому не перашкаджаць граннем, і адчуў, што мая дудка не грае. Яна асіпла. Паветра праз акенца вырываецца, як вецер у сцюжу. Голас прапаў. Вочкі павысыхалі, і ўся яна неяк пакарабацілася.

Са слязамі я кінуўся да дзеда. Што здарылася? Што цяпер рабіць? Я так прывык, так бярог, шанаваў...

— А дзе ты яе хаваў? — запытаўся дзед.— Дзе яна ў цябе ляжала?

— Пад падушкай,— прызнаўся я.

— Ну, брат, дык яна ў цябе высахла. Ведама, з вярбы. Не бядуй, вярбовая дудка не вечная. Толькі грае вясной. І рабіць яе лёгка з маладой кары. А там, па часе, яна моршчыцца, высыхае... Я не папярэдзіў, трэба было класці не пад цёплую падушку, не спаць з ёю, а схаваць у каморку ці ў халодную варывеньку. Там яна доўга не высахла б... Нічога, не журыся, новую змайструеш. Я ж табе паказаў. От ты сам паспрабуй. На табе нож! Толькі асцярожна, палец не парэж!..

Колькі дудак потым я ні рабіў, доўга не ўдаваліся такія, як першая. Тая была галасістая, душой спявала. Але, вядома, адрываць дзеда ад працы дзеля вырабу новых дудак я не мог. Дзед быў заняты.

Вось, як мы ішлі за статкам у поле, тады ўжо, бывала, і намайструемся, і нагаворымся.

— Чуў, як Лазарчык на вяселлі граў? — пытаўся дзед.— Бачыў яго скрыпку?.. Антып яе сам зрабіў.

Доўга рабіў. З клёну. І клён не тутэйшай пароды. Ёсць там і яловая дошчачка. З нашага лесу Антып сам насушыў. Доўга сушыў клён... Клён — самае пявучае дрэва для майстравання скрыпкі...

— Я ведаю,— упэўнена, як знаўца, адказаў я.

— Што ты ведаеш? — пацікавіўся дзед.

— Што клён спявае... Што наша бяроза пяе. Усё чуў.

Дзед быў нечакана здзіўлены.

— Ну, як жа наша бяроза спявае? — нібыта па сакрэту запытаўся ён.— Як ты яе падслухаў?

Я сказаў, што прыкладваю вуха да кары бярозы, абнімаю дрэва і падоўгу стаю, слухаю. Усё чуваць. Як верхавіна шуміць, як голле між сабой гамоніць... Вясною слухаў. Спачатку слухаў, як вярба грае. Як дудкі рабіў. А потым і другія дрэвы стаў слухаць. Лепш дрэвы гамоняць, калі бывае ветраны дзень. Наша бяроза працяжна спявае. Песню ад песні адгартае. Доўгімі, як косы, голлямі, што апусціліся нізка, аж да зямлі, адхіліць адзін спеў і зноў пачынае... А вось тая бярозка, што стаіць на мяжы, у якой голлі ўгору пазіраюць, тая звоніць. Усімі лісцікамі... Сасна густа шуміць. Густагуста. Яе можна адрозніць у звычайны дзень. У пахмурнае надвор'е яна сумна шуміць... А елка па-свойму гамоніць. Яна, праўда, калючая, да яе падступіцца цяжка. Сухімі лапкамі шчокі коле. Але я тады выбіраю цэлы ельнік. У лесе. Там ён чуцен заўсёды... Елкі стаяць сцяной, унізе цішыня, а аднекуль — зверху — даносіцца іх спеў, спакойны, роўны. Такі прыемныпрыемны шум. Многа-многа спеву. Музыка. Я гляджу ўгору і бачу, як адтуль яна даносіцца. Там калышуцца магутныя макаўкі, абчапляныя шышкамі. Чырвонамеднымі. Там гуляе высокі вецер, а яны граюць... А тут, дзе я стаю, сціхата. Толькі думаць хочацца...

Праўда, я расказваў пра свае дзіцячыя назіранні і адчуванні як мог і як тады ўмеў, колькі маіх слоў хапала.

— Груша, што ў нашым садзе,— кажу,— у буру гудзе... А яблыня скрыпіць. Як плача...

— Яна старая, таму і скрыпіць. Сухі гук перашкаджае. Яе мой бацька яшчэ пасадзіў,— растлумачыў дзед і, уздыхнуўшы, дадаў: — Гэта ты — малайчына, што ўсё слухаць вучышся... Кожнае дрэва спявае па-

свойму. Яно і чуе, і гамоніць. І зямля гэтак жа. Яны толькі па-нашаму сказаць не могуць.

Помню, аднойчы, пад восень, калі мы пасвілі кароў на ўзлеску, дзед расказаў мне адну казку. Ці то легенду пра размову між дрэвамі. У ёй было шмат непасрэднага, такога, што дзед бачыў і тлумачыў мне (чаго даслоўна я цяпер не перадам), бо сядзелі мы на ўзгорку, а перад намі паблізу стаялі два дрэўцы. Ён і яна. Ядловец і асіна. Сусед і суседка. Ён — прысадзісты да зямлі, густы, зялёны. Яна — стройная, гонкая, барвовая. Бадай што абое аднагодкі.

Дзед, разглядаючы трапяткое, чырвонае лісце асіны і зялёны, напыжаны ядловец, сказаў:

— От, бач, растуць два дрэўцы, ядлоўчык і асінка. Аб чым спрадвеку ідзе між імі гутарка? Яны ж перамаўляюцца ўвесь год. Вясной і ўлетку, увосень і ўзімку... Вось цяпер восень, якая між імі гаворка?.. У асіны лісце дрыжыць ад сполаху, што набліжаецца холад. Асіна, мабыць, звяртаецца з крыўдай да ядлоўца: «Летняе сонца мяне спаліла, а ты зялёны. Табе хоць бы што! З мяне пачынаюць асыпацца лісцейкі, а ты маўчыш. Ну, чаму ты маўчыш? Ці ты глухі?..» — А ядловец чуе і маўчыць... І так будзе доўга — доўгі між імі дакор. І маўчанне... «Няўжо табе не сумна, калі ў небе адлятаюць жураўлі?..»— Гэты маўчыць.— «Бач, нават вераб'і асцерагаюцца на голле тваё сесці. Ты ж калючы. Ой, мне холадна!.. Ідзе зіма. Ідзе снег. Я ўся дубею. А ты ўсё маўчыш?..» — Ядловец маўчыць...— «Мая кара трэскаецца ад марозу. Галінкі стогнуць на лютым ветры. А ты маўчыш? Насуплены, глядзіш з-пад белай шапкі. Адкуль у цябе гэткі жорсткі спакой?..»— Той паважна маўчыць...— «Ну, вось і зноў прыйшла вясна. Сонца! Якая я шчаслівая! Дзе мой пяшчотны ўбор? Мае лісточкі хуценька зеляненоць. А твае іголачкі нічога не адчуваюць, нібы драцяныя. Ледзь-ледзь вытыркнуліся новыя. Яны не выказваюць ні макулінкі прыемнасці. Усё маўчыш?..» — Ядловец маўчыць...— «Як цё-ёпленька! Уся мая лістота трапечацца ад радасці. Я — квітнею, зелянею! Няўжо табе няма чаго сказаць матылькам і казюркам?» — Той — ні слова...— «Я спяваю. Ах, лета, яснае лета, ты за ўсё мілей!.. Ты чуеш навальніцу? Ці чуў ты гром? Што, ты нібы штосьці прашаптаў?.. Мінула лета. Вой, зноў робіцца сцюдзёна. Я зноў станаў-

люся агніста-чырвоная. Гэта цудоўнае ўбранне. Але ж яно ад ранніх замаразкаў. Ад туману. А табе, як і заўсёды,— хоць бы што! У цябе, бач, зялёнае футра. Цябе не праніжа, не расхрыстае дзікі вецер. Дзе яму сарваць з цябе гэта яршыстае футра?! Во, толькі адзіныя іглiцы твае апалі на дол. Які ты задаволена-маўклівы! І бессардэчны. Калючы. У цябе і душа калючая. Яна не ўмее спяваць і трапятацца, як у мяне. Чаму ты такі ўдаўся, сурміч?..» — Ядловец, як заўжды, маўчыць... — «Мне холадна. Зноў падаюць сняжынкі. Пад табой схаваўся зайчык. А наўкол мяне толькі вятры гойсаюць і скуголяць... Ну, чаму ў цябе такі характар, негаваркі?» — так лапацела неўгамонная, зайздрослівая асіна. А цярплівы ядловец маўчаў...

Але аднойчы ўвосень, асыпаўшы свае ягадкі-насенне, усё ж выказаўся: «Бо я вечназялёны. Я і мае нашчадкі будуць спрадвеку маўклівыя і зялёныя. А ты, суседка, ты ўдалася модніцай на ўсе поры года. Красуня, але баязліўка, і трапна падладжваешся на ўсе часы...»

Як цяпер падумаю (дзед тады не сказаў, ён не пабываў там, дзе мы — у Крыме, на Каўказе!), наш ядловец нібыта кіпарыс — ахоўнік паўночнай вечнай сціхаты і спакою.

Кожнае дрэва, казаў дзед, жывая істота. Яно можа гаварыць на сваёй мове. Толькі чалавек яго мовы не разумее. А можа, не хоча разумець. Бывае, што можа навучыцца, але не хоча і вухам весці. Так гаварыў дзед.

Імем свайго дзеда я назваў дуб, што рос у полі. Пад ім мы часта сядзелі, гутарылі. Даваць назвы дрэвам дзед сам прывучыў.

І я навучыўся. Рабіна — Кацярына. Бо расла пад акном Кацярыны. Граб — Кандрат, дзядзька наш. Граб бура не магла зварухнуць. А грушу-дзічку, Пераседку, бо перасядала ў горле, як еў, вецер зваліў. Вывернуў з карэннямі...

У кожнага дрэва, як любіў паўтараць дзед, свой лёс і свая песня. Кожнае дрэва грае сваю музыку.

Ці чулі вы песню ліпы, што расце ў нас над калодзежам? Адны кажуць, што яна Адамава. Другія, што Астапава. Яна — якраз на мяжы іх сядзібаў, бо на мяжы і выкапалі студню. Усе людзі бралі адтуль ваду,

вочапам закраналі галінку ліпы... Ліпа варухнецца, мядовым цветам адорыць...

Ці чулі вы ліпу, калі яна ў квецені?

Нібыта яна маўчыць. Не варухнецца. А ўся грае пад сонцам. Не толькі зблізку. І здалёк.

Падыходзіш — гудзьма гудзе ад пчол. Навокал — адна музыка... От, падыдзіце да любога дрэва, прыслухайцеся!

# САЛАЎІНАЯ ПЕСНЯ

Колькі радасці ад птушак, калі яны вясной вяртаюцца [redacted] выраю! Каля хаты, у полі, у лесе чуцен іх ласкавы спеў і гоман. Ён не змаўкае ўсю вясну.

Я заўсёды любіў і люблю слухаць шпакоў, ластавак, жаўрукоў, берасцянак...

Для шпакоў я падрыхтаваў з дошчачак домікі. Яны вісяць на бярозе і на грушы. Адтуль шпакі, як прыляцяць, абвяшчаюць цяпло.

Жаваранкі — раннія гаспадары сіняга неба.

А берасцянкі — яны звоняць і ў садку, і ў лесе. Зойдзеш у лес і пад ціхі шум сосен і бярозак чуеш, як берасцянка галасіста заліваецца, спявае. Паўтараецца яна, але слухаў бы яе і слухаў бясконца...

Я змалку прывык услухацца, сачыць, наглядаць за птушкамі. І вось што аднойчы заўважыў.

...У падстрэшшы да шалёўкі ў нашай хаце цёмнасінія, вілахвостыя ластаўкі прыляпілі круглае шэрае гняздо. Летась яны вывеліся, паляцелі ў вырай, а на наступны год майскай раніцай вярнуліся. Вярнуліся сваёй сям'ёй і здзівіліся. Устрывожыліся... Гняздо было на месцы, але там пасяліўся верабей, надзьмуты, з чорным банцікам на шыі. Сядзіць, нібыта ва ўласнай хаце.

Ластаўкі, вядома, занепакоіліся, пачалі хвалявацца. Па-мірнаму разысціся ці бойку распачынаць? Тоненькія, худзенькія, галодныя пасля доўгага пералёту цераз мора, яны хацелі правучыць нахабнага захопніка. Кружацца над нашай хатай, чылікаюць, а з іх роднага гняздзечка, зверху, са шчыліны выглядае мурлатая фанабэрыстая галава вераб'я. Ваяўніча дзюбу ра-

зяўляе: «Я тут жыў! Чыў-чыў!..» Ластаўкі, вядома, склікаюць сваіх таварышак, з крыўдай перамаўляюцца: «Чылік-чылік! У нашым гняздзечку засеў разбойнік!» Зляцелася грамада судзіць прышэльца. Несправядліва! Пыхлівы захопнік павінен быць выгнаны з чужога селішча. Пратэст!.. Звычайна ластаўкі ветліва перамаўляюцца: «Віць-віць! Віць-віць!» А то грозна свараццa трывожным клічам: «Чылік-чылік! Ціфліс!..» Сінякрылыя гаспадыні ■ разлёту пікіруюць туды, дзе атабарыўся прышэлец, а ён яшчэ апраўдваецца: «Чыў-чыў! Я тут жыў!..»

Хацеў ужо я ўмяшацца ў іх спрэчку, толькі вілы кароткія — дзе доўгую тычыну знайсці? А дзед стрымаў:

— Не чапай,— кажа,— яны самі разбяруцца. Вінаваты панясе кару. У такіх выпадках яны, бывае, свайго крыўдзіцеля замуроўваюць. Залепяць у гняздзе, каб ён там з голаду зайшоўся.

Нашы ластаўкі не ведалі, дзе начаваць. Толькі назаўтра, як бы нічога і не здарылася, пачалі ладзіць сабе новае гняздо. З другога боку закота. А неўзабаве я прыкмеціў, што яны аж два гнязды лепяць.

Дзед казаў, што ластаўкі памяркоўныя. Леташняе жытло ўступаюць дзецям. А самі будуюць новую хату. Я не мог адрозніць старую сям'ю ад маладой. Ва ўсіх былі белыя грудкі, сінія крылы і ножніцамі хвосцікі, хто іх разбярэ: у каго вастрэй, карацей — ва ўсіх ледзь ружаваты валлячок. Усе дружныя, спрытныя, працавітыя. Мігам снавалі гняздо, носячы ў дзюбках шэрую гліну.

Праз нейкі час у падстрэшшы з'явіліся, як спарышы, два гнязды. Сем'і зажылі па-суседску. Сваркі з вераб'ём як і не было. Прылятаюць, адлятаюць. Сядзе якая-небудзь на вільчык хаты і шчабеча. Ветлівыя такія: «Віць-віць! Віць-віць!»

А верабей зашыўся і маўчыць. А можа, уцёк?

Кожная ластаўка, налятаўшыся, хвілінку адпачывала каля хаты, паблізу ад сваіх гнёздаў, на страсе або на жэрдцы — дзе-небудзь высока, каб усё навокал было відаць. І пачынала спяваць сама сабе. Ды так шчыра. Мне здавалася, што ў гэтым шчэбеце ўслаўлялася сонечная раніца. Хвала зялёнаму саду і агароду! Хвала ціхаплыннай рэчцы, над якой, лятаючы, аж змарылася! Яе песня працавітым земляробам, якія ехалі з

поля на калёсах! Хвала статку кароў, што ідуць дадому!.. «Віць-віць!..» Пырхне з месца і паляцела. Летні дзень! Высокае сонца! Кароткі, нядоўгі спачынак у птушкі. Лета! У гняздзе, мабыць, скора ўжо будуць маленькія птушаняты...

Наглядаць за крылатымі не проста і не надта лёгка. Наглядаць за імі ды яшчэ нецярпліваму, няўрымслівому падлетку-непаседу вельмі цяжка. Трэба цярпенне, як рыбаку з вудай, над паплаўком.

І вось аднойчы сяджу я на лаўцы пад хатай і чую нейкі спеў. Спявае птушка, якую я ні разу не чуў. Нясмела, але, здаецца, хоча мацней і весялей зацягнуць. Нібыта ластаўка,— не — у гэтым шчабятанні чуецца свіст. Хто ж такі? Шпак? Не, у шпака галасістыя гартанныя гукі, а тут галасок слабенькі, нерашучы. Шукаю, азіраюся. Дзе, адкуль птушынае сэрца спрабуе сябе развесяліць?

Раніца вясёлая. Усё красуе, радуецца.

Такая прыгажосць, што жывой істоце сваю радасць і захапленне не выказаць немагчыма.

«Чвіць-чыў, ф-і-іў!» — зноў чую нясмелую спробу голасу.

Хто гэта? Гляджу: наш верабей! Вылез з чужога кутка і сядзіць на карнізе. Шэры франт з чорным банцікам на шыі, фарсіста, ад прыемнасці ляпеча не сваім шчабятаннем. Здаецца, засаромеўся, што я яго заўважыў, злавіў на крадзенай песні і па-свойму дадаў: «Чыў-чыў!»

Верабей! Яго голас я ведаю. Але што гэта за чужое чырыканне? Я помню, як ён у халодную зіму з чарадой такіх, як сам, свавольнікаў лез у сенцы, каб пакарміцца ў карыце, дзе мама секла вараную бульбу свінням. Пішчом яны кідаліся ўкрасці зерне, пасыпанае курам.

І вось, калі ласка! Адкуль такі мілагучны голас і пявучы настрой? Наш верабей-забіяка высвіствае ледзь не салаўіныя рулады:

«В-і-і-ю, зірк!.. В'юць!..»

Упершыню чую. Не верылася, што наш задзіра-верабей можа хоць не зусім удала, але пераймаць ластаўку або шпака.

Я расказаў дзеду, што чуў. Пытаюся: адуль у нашага шэрага разбойніка і захопніка з'явілася гэткая напеўная, не свая песня?

— Яму ў ластаўчыным гняздзе някепска жывецца. Відаць, і вераб'іха там начуе. Чаго ж не радавацца? — адказаў дзед.

Потым задумаўся і дадаў:

— Любая птушка, як і чалавек, імкнецца спяваць лепш і прыгажэй, чым умее. Усё імкнецца да прыгажосці, асабліва пад ласкавым сонцам, калі яно свеціць, грэе. Асабліва вясной, у такую пару...

І ён мне паказаў рукой, як цёплае сонца летняй раніцы ажыўляе і песціць сваімі праменнямі ўсё. Усё хоча расці, цвісці. А птушка — спяваць. Такая пара жыцця — вясна, лета! І ў кветкі, і ў птушкі, і ў жывёлы, і ў чалавека. Толькі ў чалавека сваё лета — доўгае — і свая доўгая чарга гадоў.

Сапраўды, усяму навокал хацелася аддаваць пад сонцам сваю прыгажосць, песні. І нават вераб'інае сэрца не магло вытрываць, не абысціся без будняга чырыкання...

Дзед мне яшчэ расказаў, што чуў, як сарока — вядомая траскатуха-лапатуха — у Галянішчаве зязюлькай кукавала. Ва ўсякім выпадку, кажа, спрабавала пераняць кукаванне зязюлькі. Міжволі ці не міжволі, але пераймала. Дзед тлумачыў гэта птушынай радасцю, адчуваннем лета. Ад сполаху, ад маркоты ні пеўнем, ні зязюляй не заспяваеш. Бываюць папугаі. Але не кожная птушка можа стаць папугаем... Хоць дзед чуў, як берасцянка падраблялася пад салаўя. А шпак, дык той па натуры, наогул, мастак і перасмешнік. Кошку перадражніць. Толькі і яму, казаў дзед, здаецца, што гэта прыгажэй, чым ён умее. Да таго ўсё імкнецца ў прыродзе. Усё імкнецца да прыгажосці.

— Праўда, кожная песня ў птушкі — не толькі яе настрой да прыгажосці. Песня яшчэ работа. Цяжкая, як і любая праца... Ты салаўя чуў?

— Чуў.

— Зблізку?

— Не, здалёк. Ён спявае ў кусце за ракой. Ля лазні.

Дзед і кажа:

— Ты прыслухайся і паназірай за салаўём. Ён спявае ўсю ноч. Да самае раніцы. Асмелішся падслухаць, тады зразумееш, што гэта такое...

Я парашыў зблізку паслухаць салаўя.

У нас за ракою, дзе стаіць на гэтым баку Мікалаева лазня, разросся густы высозны вербалознік. Рака ў

паводку, падмываючы наш бераг, адступала на тым баку, і з часам лазовыя кусты, ракітнік, алешнік так разбушаваліся, што стварылі непралазную гушчэчу. Ніхто яе не церабіў, і алешнік і асабліва вербы навіслі над вадой. З вады да берага не падступіцца, а з таго боку, ад сенажацяў, вымахала ў мой рост раз'юшаная крапіва. Шырокі непрыступны кут. Вось у ім і пасяліўся салавей. Але да яго ніадкуль ні падысці, ні падступіцца, ні прабрацца цераз ваду. І ні пралезці скрозь пякучую жыгучку.

Але я наважыўся. Апрануў пастушкову вопратку і, як заскрыпелі драчы на сенажацях, рушыў. Нікому не сказаў, куды іду. Рашыў перабрацца цераз раку і з таго боку пранікнуць у лазовы куст. Знарок выбраў трапны майскі вечар, калі поўны месяц. Яшчэ зарава на захадзе гарэла.

Я ведаў, што салавей — птушка надта пільная, да сябе не падпускае. Але як свішча, тады не чуе навокал сябе тупацення і шораху. Таму падкрадаўся, ціха ступаючы, асцярожна. Пачне ён спяваць, я кароткімі перабежкамі...

Раса высыпала на траву. Я намок да каленяў. А потым вышэй. Чым бліжэй падыходзіў да зарасніку, тым больш мокрым і халодным рабілася маё адзенне. Трава, асака былі па пахі.

Салаўінае спяванне то змаўкала, нібы рабіла перадышку, то зноў пачыналася пошчакам. Толькі ў ім кожны раз гучала штосьці новае. Непаўторнае. Хоць на адно каленца. Былі паўторы, як прыпеў, але я не паспяваў іх адрозніць.

Вось голас, здаецца, нібыта клікаў мяне: «Хадзі-хадзі-хадзі! Пуль-пуль-пуль-пуль!»

Я ўжо наблізіўся па лузе да самай сцяны крапівы, лапушыстай і, як дрот, жорсткай на ўскраіне зарасніку. Сам не помню, калі ногі апякло. Ну, не варушыцца ж і не шкрэбці апечанае жыгучкай месца!.. Камары пішчом лезлі ў твар, за каўнер, на рукі, хоць я ад іх ціхенька адмахваўся. Праклятыя, нібы нюхам пачулі мяне. Некаторыя асабліва злосныя метка цалялі і кідаліся проста ў вока. Усё роўна каб я не разгледзеў таго, да каго прыйшоў. Як мог матляў галавой, адганяў назойлівую камарэчу, а сам павольна і непрыкметна далей, далей праціскаўся скрозь лазовую агарожу. Толькі б падысці бліжэй. Вось дубцы, лазо-

вызя галінкі. А ён, гаспадар зарасніку, вось тут, як працягнуць рукой, спяваў...

«Клі-клі-клі, ці-і, ці-і! Хціў-хціў!»

Салавей, здаецца, штосьці хацеў вымавіць разборліва і выразна: «Ківаць, ківаць, ківаць!»

«А хто такі «ківаць»? Ці што гэта такое?» — у думках разважаў я.

«Чувік-чувік-чувік! Клю-клю-клю-клюі!..»

Да каго ён звяртаўся? Каго клікаў? А што клікаў, дык гэта было чутно, і выразна. Я падкраўся яшчэ бліжэй. Песня ўжо мяне глушыла. Гледзячы ў адну і тую ж кропку, дзе чуўся спеў, ад напружання аж навярцеліся слёзы. Камары не давалі збавення. Я крышку заварухнуўся, ледзь-ледзь перавёў позірк і... на крывой галінцы ўбачыў яго. Вось ён!

...Невялічкі. Шэры. Святло вячэрняга зарава і месяца на небе яшчэ добра яго асвятляла... З вераб'я. Бадай, меншы за вераб'я. Зграбнейшы. Дзюбка даўжэй і вастрэй. І хвост — не куртаты, як у нашага задзіракі на плоце. Стрaйнейшы. Цар птушыных спевакоў, якога я ведаў па прачытаных байках. Ён спяваў... Спяваў не помнячы сябе, самазабыўна... Валлячок ад песні дрыжаў. Светлаватыя перцы на грудках крыху натапырваліся. Ён увесь, выцінаючы трэлі, аж уздрыгваў. Вось адкуль нясецца пошчак.

«Пыр-пыр-пыр, т-р-р-р-р!» — як затрашчыць раптам. Ён мяне аглушыў.

«Т-р-р-р-р, чкі-чкі, чкі! Пці-пці-пці!»

І раптам дробненька, пявуча заліўся зноў:

«Цю-літ, пуль-пуль-пуль-пуль...»

Я анямеў. Замёр. Затаіў дыханне. Салавей сядзеў на галінцы вербалозіны бокам да мяне. Скончыў адну песню, пачаў другую. Спявае, спявае. І ўсе непаўторныя.

Я хацеў змяніць здранцвелую нагу, ды баяўся, каб што-небудзь не хруснула пад ступнёй. Камары па-звярынаму лезлі, абляпілі шчокі, лоб. Каб іх прагнаць, толькі нервова працаваў жаўлакамі. Нават міргнуць не асмельваўся. Мне хацелася заўважыць, што ён будзе рабіць, адпачываючы між песнямі? Думае, прыпамінае?..

«Лю-лю-лю-лю! Пёк-пёк-пёк!»

«Гэта штосьці зразумелае,— думаў я.— Нешта пёк... Што ён спёк у гэтым гушчары?..

І ён змоўк. О, злавіў камара! Праглынуў...

«Чыві-чыкі! Чыві-чыкі! Кчэ-кчэ-кчэ-кчэ...»

«Дык ён камара ловіць? — здзівіўся я.— Спявае і падсілкоўваецца...» Салавей заціх. Змоўк. Я баяўся, каб ён мяне не прыкмеціў. Я быў ад яго ў кроках пяці. Няўжо ён пачуў мяне ці заўважыў?

Салавей пырхнуў і пераляцеў на суседнюю галінку. Побач. І там злавіў камара. Праглынуў сваёй тоненькай дзюбкай. І зноў заліўся:

«Ю-ў-лі, ю-ў-лі! Цёх-цёх-цёх!»

«Цікава,— падумаў я.— Спяваючы так узнёсла, да самазабыцця, цар птушыных спевакоў адначасова займаецца харчамі». Вельмі на высокай ноце гучала песня, каб яе можна было сумясціць з нейкай сухой закускай насякомага. Я да здзіўлення быў уражаны. Салавей зноў спыніўся, крутнуў галавой, злавіў і праглынуў мошку, нават не пажаваў, і далей:

«Вуль-вуль-вуль! Купіў-купіў!»

Ну, гэта мне здалося ўжо недарэчным, хоць і зразумелым на нашай мове. Так спяваць, што аж разлягаецца пошчак па рэчцы, і адначасова падсілкоўвацца камарамі! Такога я не чакаў убачыць.

А славуты спявак, нібыта зразумеў мае думкі аб ім, як закрычыць на ўсю ваколіцу:

«Уйдзі-уйдзі-уйдзі-уйдзі!»

Раней, калі я здалёк чуў гэта, мне думалася, што птушка наадварот — запрашае: «Ідзі, ідзі сюды!» А цяпер выразна, здаецца, нават з гневам чулася:

«Пок-пок-пок! Уйдзі-уйдзі-уйдзі!»

Я спалохана анямеў. Хацелася разгадаць салаўіны покліч. Птушачка маленькая, а голас такі сярдзіты і дужы. Яна, здаецца, праганяла мяне са свайго ўладання. Магчыма. І адначасова, нібыта пакепліваючы з госця, звярталася:

«Купіў! Купіў! Купіў! Клю-клю-клю...»

«Ён купіў мяне,— думаў я.— Ён здольны ўгадваць».

Салавей выразна вымаўляў свае трэлі, павольна.

А потым нібы секанув:

«Чэк-чэк-чэк-чэк-чэк!..»

Аглушальна, дробным шротам панеслася навокал.

А далей зноў:

«Ць-юр, ць-юр, ці-ці-ці...»

Пасля невялічкай паўзы, як на пастуховай дудцы:

«Тру-лю-лю-лю... Плюм-плюм-плюм!»

І зноў кагосьці клікаў:

«Кцё-кцё-кцё! Поль-поль-поль-поль!»

Раптам ён пырхнуў з крывой галінкі і знік. Не, ён мяне не заўважыў і не спалохаўся. Пры яго ўладарным, усё аглушальным спеве дзе яму звяртаць увагу на каго-небудзь. Ён пераляцеў на іншае дрэўца, выбраў лепшую галінку, і там, за шырмай вербалозін з ракітай, я зноў пачуў:

«Цёх-цёх-цёх-цёх!»

Толькі па вадзе, якая падступала да ног, я не змог і не здолеў бы туды дабрацца, каб яшчэ за ім панаглядаць. Ды ўжо было не да песень. Я стаяў мокры. Ад крапівы і камароў усё цела азызла, балюча шчымела. Проста я не чуў жывога месца. Я павярнуўся і пачаў, расхінаючы гушчар, выкарабквацца з куста, а ўвушшу не змаўкала:

«Вох-ці, вох-ці... Піль-піль-піль-піль!»

Адно мяне радавала: чаго хацеў — я дасягнуў!

О, салавей! Гэта не шпак, не жаўранак, нічога такога падобнага я яшчэ не чуў... Галава была напоўнена цюрлюканнем. Там трашчала, ціўкала, чокала. І ўсё гэта зблыталася ў нейкую невядомую музыку.

Вяртаючыся і пераходзячы кладку насупраць Юркі, я плюхнуўся ў рэчку. Знарок. Увечары вада цёплая. А каб халодная была, можа, і лягчэй стала б. Пасечаныя крапівай ногі і рукі аціхлі ад свярбучага болю. Прыгаршня вады на твар, яшчэ адна прытушылі камарыныя пухіры. Няблага, што спаласнуўся! Шыя, вушы, шчокі нясцерпна гарэлі агнём. Усё цела свярбела.

Ніхто не бачыў, як у цемнаце прыйшоў дадому. Адзенне ціхенька павесіў на крук у сенях. Зайшоў у хату — астылая вячэра чакала мяне ў мыцельніку. Але я сказаў маме, што есці не хачу, хадзіў у рыбу, хачу спаць.

Гэта была бяссонная ноч.

Не заснеш, аглушаны салаўіным пошчакам...

Заплюшчыш вочы — і велічэзны шэры салавей з бусла, з такой, як у бусла, доўгай дзюбай — валляк трасецца — спявае:

«Купіў, купіў, купіў... Піль-піль-піль-піль!»

На працягу ўсяе ночы.

Назаўтра раніцай дзед здзівіўся:

— Ты нейкі апухлы.

Ад дзеда хавацца нечага. Я прызнаўся — ды ён жа мяне і падвучыў,— што хадзіў слухаць салаўя. На змярканні. Там, ля лазні, у куце. І паказаў свае рукі да локцяў, ногі да каленяў, памаленьку памацаў свае шчокі і вушы. Да ўсяго гэтага нельга было дакрануцца.

Калі мне балючыя месцы памазалі гусіным шмальцам, дзед па-змоўніцку запытаўся:

— Ну, як? Бачыў зблізку салаўя?

— Бачыў, вось як цябе.

— Чаго ж ты за хвост не ўхапіў? Злавіў бы!..

Мне было не да дзедавых жартаў.

— Ты, дзед, хлусіш... Казаў, птушкі і наш верабей спяваюць ад таго, што ім хараша, прыемна пад цёплым сонцам...А там, у густым кусце, змрок. Ламачча, крапіва, во!.. Не пралезці, вада па пояс. Ні сонца, ні святла! Дзе ж там хараство? Адкуль тая песня ў салаўя?

Дзед падумаў і, развёўшы рукамі, мусіў са мной згадзіцца:

— Ну, я ж казаў: гэта ў яго работа!

# КАВАЛАЧАК ХЛЕБА

Дзед шмат ведаў казак. Мне іх расказваў. І расказваў не тады, калі я яго прасіў, а тады, калі была нейкая прычына.

А прычына знаходзілася заўсёды.

Вось калі мы выганялі статак у поле, мне як падпаску ён даручаў насіць торбу з хлебам. У торбе апроч акрайчыка хлеба часам ляжалі скварка ці яйка, зваранае ўкрутую, соль, агурок, бутэлька малака ці хлебнага квасу. Словам, харч на цэлы дзень сухім пайком, як цяпер кажуць. Увесь гэты правіянт быў у завязанай вузлом торбе, якую мне даводзілася цягаць. Я кажу не насіць, а цягаць, бо перад абедам рука стамлялася, ноша надакучвала, і я ставіў яе дзе-небудзь пад куст або вешаў на сучок бярозы. Сам ішоў адганяць памаўзлівых кароў ад шкоды, а потым вяртаўся да бярозкі і падцягваў торбу на новае месца.

Неяк я згубіў месца схову. Забыўся, пад якім кус-

том паклаў торбу, і доўга яе шукаў. Мае пошукі дзед заўважыў, дачакаўся, калі я падыду, і пачаў пытацца, чаму я з сабой не нашу торбу? А што ж было б, каб не адшукаў ношу ці сабака яе ўкраў? Мы засталіся б без абеду, галодныя...

Гэта справядліва, але я таксама адказаў перакана́ўча і шчыра:

— Абрыдла яе цягаць.

— Эх, блазнота! — усміхнуўся дзед.— Прысядзь на купіну, паслухай, што я табе раскажу...

Вось і прычына трапілася.

Дзед, помню, расказаў тады пра аднаго дзівака, які нёс у мяшку за плячыма хлеб. Дарога была далёкая. Ішоў-ішоў дзівак, нёс-нёс хлеб, замарыўся. Спыніўся. Перакідае ношу з пляча на плячо і лаецца:

— Ох, каб на цябе ліха! Яшчэ гэты цяжар нясі на сабе!

А хлеб у мяшку за плячыма адгукаецца:

— Не, чалавеча, не ты мяне нясеш, а я цябе нясу.

— Што? — абурыўся дзівак.— Каму гэта не відно, што я цябе ўсю дарогу на сабе валаку!..

А хлеб з мяшка зноў падае голас:

— Памыляешся. Не ты мяне нясеш, а я цябе нясу.

— Паспрачайся ў мяне! — узлаваўся дзівак.— От зараз вазьму ды і кіну з плеч... Пабачым, хто каго валачэ на сваім гарбу.

— Кідай,— кажа хлеб,— але потым не кайся.

— Ах, ты будзеш у мяне аскірзацца! — разгневаўся дзівак і кінуў мяшок на ўзбочыну дарогі.

Пайшоў сабе з вольнымі рукамі. Ідзе. Без цяжару лёгка ісці. Ішоў-ішоў, а тут і ноч настае. Есці захацелася. Прысеў ды і думае: «Далей ісці трэба, але падсілкавацца не шкодзіла б... А чым? Хлеба няма...»

Так і атрымалася, што хлеб прыяў чалавеку. А чалавек? Адумаўся, дзівак, пакаяўся, ды было позна.

Калі дзед расказваў, мне было пацешна, што дзівак па сваёй дурноце выкінуў хлеб.

— Чаго ты смяешся? — сказаў дзед.— Глядзі, каб не ўпадобіўся гэтаму падарожніку... І табе ж абрыдла цягаць торбу...

Берагчы хлеб, шанаваць самы маленькі кавалачак, кожную скарыначку — прывучалі дзед і бацька.

— З'еш усё! Не пакідай! — сварылася маці.— Няможна!

— Чаму?

— Голад можа настаць...

Я не разумеў іх. Якая сувязь паміж голадам, якога ніколі я не бачыў, і палоханнем, строгасцю, з якімі дарослыя прывучалі мяне шанаваць хлеб? Ну што будзе, калі я скамячу з мякішу галачку і шпурну яе ў ночвы, дзе сястра будзе мыць бялізну?.. Паляцяць пыркі, мне будзе смешна...

Што можа здарыцца, калі я выкіну недаедзеную скібку? Падумаеш, вялікая страта! Сабака з'есць.

Аднак пасля падобных жартаў у мяне доўга балела рука. Бацька так даў па руцэ, якой я кідаўся хлебам, што навекі запомніў.

Дзед не караў мяне. Ён толькі ўгаворваў, расказваў казкі, як пра таго дзівака...

Помню пра хлеб яшчэ адно яго паданне, ці легенду.

— Пацалуй недаедзены кавалачак і пакладзі ў торбу,— сказаў ён аднойчы мне.— Эх, які ж ты неакуратны! Колькі цябе ні навучай, усё роўна расцеш бяспамятным... Відаць, як паспытаеш свой горкі кавалачак хлеба, тады зразумееш, чаго ён каштуе.

Мы абедалі каля крыніцы, што пад вярбой. Каровы нашы пасвіліся ў лагчыне... І дзед пачаў гэту легенду, якую тады я не мог запісаць, а цяпер перадам сваімі словамі.

...Людзі вельмі доўга харчаваліся травой, ягадамі, грыбамі. Елі ўсё, жылі напаўгалодныя, бедна, аж пакуль не выдумалі хлеб.

Хлеб яны выдумалі не адны. Былі ў іх памагатыя. І хто, ты думаеш? Сонца, Вецер і Вада!..

Даўно-даўно гэта было. Вецер і Вада хадзілі па зямлі, як людзі і жывёла. А Сонца, як і цяпер, плавала над зямлёй. У вышыні. І магло размаўляць чалавечай мовай.

Сонца, Вецер і Вада бачылі, як цяжка жывецца людзям. От адзін раз сабраліся і пачалі між сабой меркаваць. Як памагчы людзям жыць багацей і шчаслівей на зямлі. Разважалі-разважалі. І Сонца тады прапанавала новы харч для людзей.

— Толькі няхай яны яго вынаходзяць і здабываюць самі,— сказала Ветру і Вадзе Сонца.— А мы ім дапаможам. Будуць любіць гэтую працу — зажывуць шчасліва...

Дало Сонца Ветру некалькі зерняў жыта. Вецер па-

сеяў. Вада паліла. Цяпло прыгрэла. Зерні ўзышлі. Сонца ўсміхнулася. Жыта пачало расці ўгору.

Глядзяць людзі і дзівяцца: што гэта такое расце?

А вырасла жыта. Паспелі буйныя каласы. Людзі сабе думаюць: ну што з гэтых каласоў можна зрабіць? На што яны могуць спатрэбіцца?

Адзін чалавек сарваў каласок, расцёр яго. Узяў падпёк на агні зерне. Пакаштаваў...

Другі чалавек прыдумаў зварыць спелыя зерні ў вадзе. Таксама пакаштаваў...

Трэці чалавек прыдумаў таўчы зерні. Стоўк — атрымалася мука. З мукі жонка зварыла зацірку. Пакаштавалі...

Адна дасціпная цётка з мукі замясіла цеста. Камяк цеста паспрабавалі спячы. Спяклі. Атрымаўся румяны бохан.

Так чалавек вынайшаў хлеб.

З тае даўняй пары людзі ўсё больш і больш удасканальвалі сваё вынаходства. Выдумалі белы хлеб. Сітны хлеб. З чарнушкай. З кменам. З разынкамі. Выдумалі пірог. Святочны пірог. Вясельны каравай... Выдумалі булкі, абаранкі, розныя пернікі... З мёдам, з макам, з цукрам...

Але знайшліся ў аднае мясцовасці людзі, якія пачалі глуміць хлеб, не берaглі яго. Забыліся, што самае надзённае ў хлебе: сабраць ураджай, сабраць насенне, каб налета пасеяць зноў. Каб на новы год быў новы ўраджай... Яны занядбалі ўсё. Пачалі раскідацца хлебам. Дзе ні ступіш, валяюцца аб'едкі, кавалкі, скарынкі. Па дарогах рассыпана зерне. У засеках псуецца насенне.

Гэта здарылася таксама даўно-даўно.

Ішоў па дарозе Вецер. Ён ішоў ціха, павольна. Ішоў і чуе, што калоссе жыта шэпчацца між сабой. Прыслухаўся, аб чым гамоніць яно, нізка кланяючыся. І пачуў Вецер скаргу жыта на занядбаную сваю долю. Што яго топчуць людзі. Здзекуюцца з яго. І малыя і старыя.

Зайшоў Вецер у вёску, дзе жылі гэтыя людзі. Бачыць — праўда! На вуліцы, на дварах, пад вокнамі валяюцца кавалкі хлеба. Нават боханы. Ніхто не беражэ ані крошкі.

Раззлаваўся Вецер ды як закруціць віхрам. Толькі чорны слуп густога пылу ўзняўся над вуліцай. Кру-

ціць Вецер, змятае ўсе скарынкі, недаедкі і віхрам узнімае ўгору. Слуп расце, расце высока ў неба. Усё сабраў віхрам Вецер. І зерне рассыпанае і сухары цвілыя... Узняў аж да Сонца і кажа:

— Паглядзі, Сонца, што ж гэта робіцца?! Мы клапоцімся аб людзях, дапамагаем колькі сілы ёсць, моцы. Ты на мяне сварышся, калі шпарка хмары ганю, калі павольна крылы ў млынах кручу і хлеб ім мялю... А што яны робяць з гэтага хлеба? Бачыш, як глумяць?! Хлеб скардзіцца, што яны здзекуюцца з яго.

Нахмурылася Сонца, закрыўшыся хмараю. (Можа яно быць вельмі гнеўным!) Праз нейкі час толькі мутная, шэрая дымка распаўзлася па небе. Сонца пажаўцела. Навокал яго ўтварыўся круг. Гледзячы праз гэты круг на зямлю, Сонца сказала Ветру:

— Пашлі на іх сухавей. А я спёкі паддам...

І пачалася ў той мясцовасці неміласэрная гарачыня. Усё на полі, на агародах пасмягла. З рэк уся вада збегла ў мора. Азёры і крыніцы павысыхалі. Дрэвы без пары пажоўклі. Жыта — пабялела. Высушанае спёкай, яно дзівілася: чаму з такімі лёгкімі каласкамі расце? Дзе дождж, каму хацелася б з удзякай важка пакланіцца?.. Бясхмарна. Сухавей гайсае па полі. Звоніць пустымі каласамі...

Людзі пачалі хвалявацца, наракаць:

— Што ж гэта настала? Калі ж пойдзе дождж?..

Усе запасы харчу яны паелі. У полі ўсё пагарэла. Не тое што ўраджай сабраць, нават насенне людзі вярнуць не змаглі... І пачалі яны шукаць выкінутыя на вуліцу кавалкі хлеба. Рады былі зацвіламу сухару і чорнай скарыначцы. Людзі каяліся, што так неабдумана жылі. З болем успаміналі тую пару, калі не ашчаджалі хлеб, глумілі яго... Дзеці хварэлі, паміралі з голаду. Маткі плакалі горкімі слязьмі.

Аднойчы ўранку, калі Вецер-сухавей яшчэ драмаў за кустамі, слёзы людскія разам з расою выпарыліся, узняліся да Сонца. І яно адчула гаркату гэтых слёз...

Тут Сонца паклікала да сябе Ваду і Вецер і пытаецца:

— Ну, што там чуваць? Як цяпер жывуць людзі з тае мясцовасці?

— Дрэнна,— адказаў Вецер.— Голад па ўсёй акрузе.

— Просяць дажджу,— сказала Вада,— але я не магу паслаць без твайго дазволу.

— Ну, а што яны сабе думаюць? — пытаецца Сонца.— Што між сабою гавораць?

— Гавораць, ніколі глуміць хлеб не будуць,— адказалі Вада і Вецер.— Толькі б ураджаю новага дачакацца.

Не ўвесь час гнеўным Сонца бывае! Адхінула яно шэрую заслону. Заслону пылу ад сухой, як попел, зямлі і дыму ад пажараў на балотах. Бачыць, стаіць на ўзгорку адзін дзядзька, трымае ў прыгаршчах зерне і просіць:

— Хмарка, дай дожджыку!.. Сыпні, хоць крапельку!

— Ну, сыпні,— кажа Сонца Вадзе,— столькі крапель, колькі трэба на пасеў.

— А ты,— кажа Ветру,— пранясі хмары над палеткамі асцярожна... Градам не пабі, ліўнем не змый! — Падумала Сонца і дадае: — Пабачым, як яны зноў возьмуцца за працу...

Праз нейкі момант пайшоў роўны, спорны дождж. Такі, якога прасілі людзі...

Цяжка было, яны пакутавалі пасля голаду. Зноў харчаваліся травой-шчаўем, маладой крапіўкай. Грыбамі, ягадамі... Месцамі нават грыбоў і ягад не стала. Грыбніцы павысыхалі. Ягаднік пагарэў на балотах.

І калі зноў людзі з тае мясцовасці дачакаліся і сабралі новы ўраджай, змалолі з яго муку і напяклі хлеба, то пакляліся вечна цалаваць яго...

Сеяць і расціць, даглядаць і сабіраць, шанаваць і берагчы, як само жыццё. Так яно ёсць і зараз. Жыта — ад слова жыць...

— Цяпер ты зразумеў, чаму людзі шануюць кожны кавалачак хлеба? — запытаў мяне дзед.

Я сядзеў моўчкі і адчуваў сябе вінаватым, што не пацалаваў акрайчык хлеба. Людзі рабілі гэта, навучаныя голадам. Я ж не бачыў голаду. І не хацеў бачыць. Я сядзеў, трымаючы ў руках свой акрайчык, і адчуваў яго, як жывога. Ён быў самым дарагім з усяго, што прыдбаў чалавек для свайго жыцця.

# САРВАНЫЯ ЎРОКІ

Гэта было там, дзе я нарадзіўся. У вёсцы. Вёска наша стаяла між двух гасцінцаў. Гэтыя гасцінцы праходзілі па ўзгорках, а ў міжгор'і, дзе прасціраліся лугі, балоты, алешнікі, працякала Пціч. Рэчка, як і гасцінцы, кіравалася на поўдзень. Каб цераз яе быў мост, то вуліца нашага сяла, забудаванага на невысокім гарбатым узгорку, была б пераездам, злучала б гэтыя дзве бойкія дарогі. Але мост цераз Пціч быў уверх, кіламетры за чатыры, у Крупінах. У Крупінах знаходзіўся сельсавет, стаялі млын, крухмальня. Ля млына па мосце і пераязджалі з гасцінца на гасцінец.

Усе гэтыя каардынаты патрэбны для гісторыі, якую я намерыўся расказаць.

Мы жылі, як бачыце, у глухім кутку: на захадзе цячэ рэчка, з поўдня падступае лес, на поўнач — балота і тарфянікі. І толькі з усходу прасёлкавай, каляіністай дарогай можна было выбрацца на гасцінцавы шлях. Цераз наша сяло не магло быць вялікага руху транспарту.

У ціхі летні дзень стаіш, бывала, на бугры і чуеш, як за ракою па слуцкім гасцінцы ляскочуць падмазаныя калёсы. Іх не відно, але чуваць, як едуць абозы са Слуцка ў Мінск. Або з Мінска ў Слуцк, у Шацк.

А з кніжак я ўжо ведаў пра такія навінкі транспарту, як аўтамабілі, аўтобусы, самалёты. Аб іх чуткі хадзілі, як цяпер аб караблях на падводных крылах, аб спадарожніках у космасе.

Але вось здарыўся цуд і на нашай вясковай глухой вуліцы.

Здарылася гэта ў верасні. Я хадзіў тады ў пачатковую школу. Настаўніцай у нас працавала Яўгенія Пятроўна.

Яўгенія Пятроўна была строгая. Калі мы не ведалі ўрокаў, яна карала, ставіла ў кут, пакідала без абеду. Наша настаўніца хацела, каб малыя добра навучыліся чытаць і пісаць, авалодалі асновамі навук. Я ў Яўгеніі Пятроўны лічыўся неблагім вучнем. І яна верыла ў маю добрасумленнасць. Толькі аднойчы гэты неблагі сарваў некалькі ўрокаў.

Паслухайце, як гэта было.

Сядзім мы ў школе. Слухаем Яўгенію Пятроўну, а праз адчыненае акно даносіцца нейкае гудзенне. Такога гудзення ў сяле яшчэ не чутно было. Малатарня не малатарня, млын не млын. Слухаем урок — і не слухаем.

Раптам на вуліцу пад вокны школы выскаквае нешта зялёнае, са скрынкай, на чатырох колах. Я здагадаўся, хоць ніколі яшчэ не бачыў такога. Аўтамабіль!

Машына прамчалася каля школы, пакінуўшы за сабой пыл і сіні дымок.

— Спакойна, дзеці! Не глядзіце ў акно! — сказала настаўніца.

Але дзе там спакойна ўседзіш?! З-за вугла хаты Сцёпачкі Казла выскачыла другая машына. Такая ж зялёная, са скрынкай ззаду, і прыпынілася ля школы.

— Дзеці, усім сядзець на месцы! — строга загадала Яўгенія Пятроўна.— У нас урок!

Што мяне збіла з панталыку, самі разумееце: жаданне паглядзець на нябачаны цуд. Яно было мацнейшым за ўсё.

Пагроза Яўгеніі Пятроўны не стрымала. Я падхапіўся з месца, ускочыў на парту, потым на падаконнік расчыненага акна і — на вуліцу. З крыкам і лямантам усе рынуліся за мною. Хто, як я, праз акно, хто — праз дзверы.

— Куды вы? — крычала настаўніца.— Сядзець на месцы!

Але палова вучняў ужо выбегла са школы. Мы выскачылі паглядзець. Што гэта такое?.. Я ўбачыў за рулём чырвонаармейца, а побач ім — камандзіра. На шапках зоркі... (У тую восень нашы войскі праводзілі вучэнні — «манёўры», як казалі старэйшыя.)

Чырвоная Армія! Гэта яшчэ больш захапіла мяне. Калі камандзір зачыніў дзверцы і машына памчалася далей, я ўжо не вярнуўся ў школу. Я кінуўся за ёю, з прыемнасцю ўдыхаючы і пыл і дым. Вельмі хацелася дагнаць. Абавязкова дагнаць! Меншыя адсталі. Але таксама беглі. Разам з намі, брэшучы, імчаліся ашалелыя сабакі... З хат выбягалі старэйшыя. Дзяды і бабулі павыходзілі да варот.

Каля рэчкі, у якую адразу з бугра спускалася вуліца, аўтамабіль спыніўся. Тут ужо сабраўся натоўп ля першай машыны. Камандзір яе размаўляў з Міколам

Станіжэўскім. Падбегшы да іх, пачуў, як дзядзька Мікола казаў:

— У ампярылісцічаскую вайну тут быў мост... От, як кусты ідуць да поля, была грэбля... Але вясной у паводку яго знесла...

— Як жа дабрацца да Возера? — пазіраючы на карту, пытаўся камандзір.

— Толькі аб'ездам,— паказаў рукой на Крупіны дзядзька Мікола.— Абратна, назад... От так!.. А там мост. Цераз мост... Так і так!..

Камандзір падзякаваў. Паглядзеў на нас. Усміхнуўся. Акрамя пажылых вяскоўцаў, што пакідалі працу і прыбеглі да рэчкі, дзяцей было сама больш.

— Хочаце пакатацца? — запытаўся камандзір.— Сядайце ў кузаў!

Вось гэта было звыш усяго! Праехаць на аўтамабілі! Ніколі не ездзіўшы?.. Не, у мяне не хапала волі адмовіцца! Няхай сабе Яўгенія Пятроўна пакідае без абеду цэлы тыдзень! Няхай сабе немаведама што!..

Я ўскарабкаўся на машыну, як кот. Сябры не адставалі...

— Не стойце ў кузаве, сядайце! — загадаў камандзір.— Дрэвы на вуліцы вам галовы пазносяць!

Мы — на калені! Загад камандзіра — усё! Я ашчарэпіў рукамі скрынку, а хто трымаўся адзін за аднаго.

Мы ўсе, відаць, аднолькава перажывалі той момант. Калі машыны нырнулі пад ліпы і клёны, я адчуў, што заняло дыханне. Ад ветру. Ад таго, што невядомы цуд, які жыў толькі ў марах, магутна грыміць пад табою, імчыць па вясковай вуліцы. Казка — не казка, сон — не сон! Усё наяву. Родныя клёны шумлівымі галінамі з пажоўклым, залатым лісцем замахваліся над маёй галавой. Ліпы на вуліцы набліжаліся і кідаліся на мяне. А я і вокам не міргаў. І не прыгінаўся, калі яны імкліва праляталі міма мяне... Мне хацелася яшчэ шпарчэй імчацца наперад. І здавалася, што я не на зямлі, а ў паветры, што імчуся не па вуліцы, не па прасёлкавай дарозе, а ў будучыню. Захацелася даведацца, як кіраваць такой машынай, як яна зроблена, каб сесці і вось так імчацца... Па ўзгорках. Па нізінах. Праз палеткі. Праз лясы...

Толькі за Крупінамі спыніліся машыны. Камандзір сказаў:

— Цяпер злазьце! — І засмяяўся: — Прыгожа?.. Запомніце гэта падарожжа?

Ну, вядома! Успаміны аб падарожжы застануцца на ўсё жыццё. І не толькі прыемнасцю, якую мы мелі ўсю дарогу. Мы ж акалелі наверсе, у кузаве. Злезлі і не маглі вымавіць слова. Неапранутыя, без шапак, мы як выбеглі са школы, так і пусціліся ў гэта зачараванае падарожжа... Калені ва ўсіх былі пазбіваны да крыві. Мы толькі цяпер агледзеліся. Па калдобінах, па ямах прасёлкавай дарогі машыну падкідала, і нас у кузаве шпурляла з боку на бок. Мы качаліся, як гарбузы. І толькі цяпер гэта адчулі.

Але перш за ўсё мы падумалі пра адказнасць перад настаўніцай. Што скажа пра наш учынак Яўгенія Пятроўна? Яна ж сварылася: «У нас урок. Сядзець на месцы!» А я першы выскачыў праз акно...

Дзве дзяўчынкі, якія трапілі ў нашу кампанію, ледзь паспявалі ісці. Яны плакалі. Гэта яшчэ больш падкрэслівала наш хлапечы гонар, і мы толькі шморгалі насамі.

На машынах камандзіры правезлі кіламетраў пяць. Пяць кіламетраў да сяла пакуль дайшлі, заняткі ў школе скончыліся.

Настаўніцу спаткалі на ганку. Усіх, хто заходзіў у памяшканне, яна ставіла гуськом у кут. Адзін за адным станавіліся мы, цяжка сапучы пасля бегатні.

Калі апошні з нас, самавольшчыкаў, увайшоў у клас і зачыніў за сабою дзверы, разгневаная Яўгенія Пятроўна пачала:

— Дык як жа цяпер будзе? Чаму вы сарвалі заняткі?

Іншага, апроч строгага пакарання, чакаць не маглі. Я гэта ведаў. Што адкажаш? Вінаваты, але маўчы. Не выкажаш тое пeражытае, якое яшчэ гэтак нядаўна было з табою...

— Хто першы ўскочыў на парту?.. Хто парушыў мой загад сядзець на месцы?..

Не, адмоўчвацца нельга.

— Я.

— А-а, дык гэта ты першы выбег на вуліцу? — з гневам накінулася на мяне Яўгенія Пятроўна.— Ты падаў прыклад меншым? Ты самы прыкладны?! Не паслухаў мяне і пакінуў заняткі... Каму ж я тут дзень

пры дні гавару?! Каго я навучаю?! Дзеля чаго?! Адказвай, чаму ты гэта зрабіў?..

Я маўчаў.

— Чаму ты сарваў урокі? — паўтарыла настаўніца.

— Я не хацеў зрываць урокі,— адказаў я.

— А ты? — звярнулася Яўгенія Пятроўна да Сцяпана.

— Мы не хацелі зрываць урокі,— адказаў Сцяпан.

— Бач ты, якія яны?! А што ж вы хацелі? Паглядзець на машыну?..

— Паглядзець на машыну... і... і...— я заікаўся,— паглядзець, як яна ходзіць...

— І... і што з таго? І для чаго табе гэта?..

Я выказаў сваё жаданне проста:

— Каб ведаць, як яе вадзіць...

— Бач ты яго?! — неяк з усмешкай вымавіла Яўгенія Пятроўна.— Ён захацеў вадзіцелем стаць?! І ты захацеў? — звярнулася яна да Сцяпана.

— І я!

— І ты? — звярнулася яна да Паўла.

— Хачу!

Суровы голас Яўгеніі Пятроўны памякчэў. Мы, вядома, не чакалі ад яе літасці. Вінаватыя — пакарай!.. Але раптоўную перамену ў настроі настаўніцы мы не маглі не заўважыць. Можа, яна збянтэжылася, што мы нібыта згаварыліся? А мы ж не згаварваліся. Самыя большыя, Сцяпан, Павел і я... Настаўніца схадзіла ў свой пакойчык, дзе жыла, тут, пры школе, вярнулася і загадала:

— Усе марш дадому! Заўтра не пазніцеся на заняткі!.. А ты!.. Ты і ты,— паказала на мяне, Сцяпана і Паўла,— застаньцеся!

«Вінаваты — няхай карае!» — думаў я. Але Яўгенія Пятроўна, не гневаючыся, спакойна пачала распытваць нас, як мы ехалі на машынах. І мы па аднаму расказалі ёй усё. Што нас усхвалявала, як захацелася сесці за руль машыны і пакіраваць, як тыя камандзір і чырвонаармеец. Яўгенія Пятроўна выслухала і сказала:

— Пра гэта напішыце кантрольную работу. Напішыце, каб назаўсёды запомнілі тое, што абяцаеце... Так і назва будзе... Кім я хачу быць,— сказала настаў-

ніца.— А цяпер і вы дадому марш, свавольнікі!.. Каб гэта было апошні раз!

Настаўніца нам паверыла. І даравала. Мы пісалі, кім хочам быць. І мы яе не падманулі. Павел у Вялікую Айчынную вайну быў камандзірам танка, а Сцяпан — лётчыкам...

# ЯК ЛАВІЛІ КАРАСЯ

У нас са Сцяпанам гэты дзень быў абдуманы як нам хацелася. Кірмашовы дзень!

А што такое кірмашовы дзень ці, як яго некаторыя старыя вяскоўцы называлі,— фэст? Фэст — свята.

Фэст выпадаў у сярэдзіне лета, перад сенакосам, абавязкова каб не ў гарачую пару на полі. Так што ён, бывала, здараўся і там, і тут — у некалькіх вёсках. І найчасцей, вядома, у нядзельку.

На кірмашовы дзень дарослыя дома. Яны прыбіраліся, рыхтаваліся сустракаць гасцей, родзічаў, блізкіх — сватоў, кумоў. Увесь клопат хатні бралі на сябе. А мы, падлеткі, вызваляліся ад усіх звычайных, будніх абавязкаў. Кожны з нас мог быць сам па сабе. Як устане сонца і да захаду ты — дзе хочаш гуляй, куды хочаш ідзі, нават туды, дзе танцы, можаш наведацца, толькі не насваволь. Не нарабі шкоды!

У той чаканы дзень, які запомніўся надоўга — і мне, і Сцяпану,— нават паста, гэтая вымушаная непрыемнасць, абмінула, абышла нас.

Мы загадзя спланавалі, дзе будзем, куды пойдзем. Дамовіліся, як правядзём свой уласны фэст, без дарослых. І згаварыліся: пайсці ў саўгас. Непадалёк, за рэчкай, па суседству з вёскай быў саўгас. Мы туды часта хадзілі. Там клуб з бібліятэкай, пляцоўка, дзе гушкаюцца на арэлях, турнік, можаш «палятаць» на «гіганцкіх кроках» (таксама гушкалка на канатах). Забаў — колькі хочаш! Як пойдзеш, дык і на абед забудзешся.

Кірмаш, вядома, не звычайная нядзеля. Усе прыбіраліся па-святочнаму, дзеля сустрэчы сваякоў і родзічаў, якія прыедуць. Ну, і мы даставалі абноўку.

Нам загадвалі адзець усё крамнае, і кашулю чыстую, і штаны картовыя, каб не брыдка выглядаць перад гасцямі, і не сорамна перад людзьмі,— калі на выпадак выбежыш куды-небудзь з хаты.

Безумоўна, выгляд неяк дзейнічае на твой настрой. Ты — знешне — акуратны, ты цешыш позірк чалавека і самога сябе. Дарослыя патрабавалі ад нас берагчы крамную вопратку. Толькі ў ясную, недажджлівую нядзельку маці дазваляла апрануць абноўку, і сцеражыся — збузаваць, запэцкаць ці парваць!.. Галавой паплацішся.

«Ах ты, нягоднік! Як здарылася? Дзе здарылася? Нядбайнік ты, вісус! На цябе ніколі не накупляешся. А ты яшчэ граша не варты! Што ты нарабіў?.. Бач, парваў ужо!..»

Я, памятаю, з гонарам улез у чорныя картовыя штаны, выпрасаваныя, надзеў кашулю-матроску, якую старэйшая сястра прывезла з гарадской крамы. Каўнер у ёй адкладны, шырокі, з якарам на ражку.

Сцяпан жа таксама — картовыя штаны і цёмную кашулю з сінімі палосачкамі, падпяразаную куплёнай папружкай. Чым не святочны выгляд!.. Хлопцы — напаказ! Хоць басаног, але які фарсісты віхор валасоў у кожнага на галаве!

— Цераз кладку пойдзем ці ручаямі? — запытаўся Сцяпан, калі мы выйшлі на вуліцу.

— Цераз ручаі,— адказаў я.

Гэта — па лузе. Таму адразу, нагнуўшыся, як па камандзе, мы падкасалі свае штаны з так званай «чортавай скуры».

Нагінаючыся, мы з прыемнасцю адчувалі пах свайго крамнага гарнітура. Ад нас патыхала матчыным куфрам ці, бадай, не,— гарадской каштоўнай матэрыяй. У саўгасе «на людзях» адкасаем. Пафасонімся, паганарымся!..

Раніца. Сонца радасна плыло ў небе. Ластаўкі, звонка шчабечучы, лятаі ў паветры. Дрэвы прыслухаліся. Сяло замерла ў чаканні кірмашу. Хаты, платы і панадворкі таксама папрыбіраліся.

Яшчэ ўчора дзяўчаты прынеслі і ўсклалі на іх вянкі і букеты. На брамах, на шулах узвышаліся палявыя кветкі, па некалькі сцяблінак залаціста-жоўтага купалля, чырвона-бурачковых смалянак, блакітных васількоў...

Перад кожным ганкам роўненька стаялі прынесеныя і ўкопаныя хлопцамі бярозкі.

А ў сенцах, у любой хаце!.. У кожнага, як ступіш цераз парог, па мытай падлозе ляжаў нарэзаны зялёненькі аер. Духмяны-духмяны... Звісалі са столі ўткнутыя між бэлек бярозавыя галінкі. Навокал разносіўся водар аеру. Лесу і палявых прастораў.

Мы шпацырам ішлі па вуліцы і ніякіх будніх клопатаў не мелі. Хутчэй на пляцоўку ў саўгас!

— Куды вы, хлопчыкі, ідзяцё? — раптам пачуўся ласкавы жаночы голас.

З ганка да нас, дробненька тупаючы, набліжалася старая кабета, цётка Ганулі. Адзінокая жанчына, гарбатая, яе гаспадар даўно памёр, дачка выйшла замуж, а сын служыў у арміі.

— Нікуды,— адказаў ёй Сцяпан.

— Так сабе ідзём,— дадаў я.

Не прызнавацца ж адразу, якая ў нас мэта. Каму якая справа, куды мы накіраваліся? Аднак чамусьці прыемная думка пра саўгасныя арэлі ў гэты момант нейк абарвалася.

— Пачакайце, хлопчыкі, я вас хачу папрасіць,— сказала цётка Ганули.— Я ведаю, бацькі ў вас памяркоўныя і вы, дзеці, паслухмяныя, можа, не адмовіце мне.

Мы спыніліся ля яе варот.

— Наказала мне стрыечная сястра [redacted] Баламутавічаў, каб я сёння адведала яе. Дык от сабралася ў дарогу, бачыце!..

Сапраўды, мы толькі цяпер прыкмецілі, што выгляд у цёткі Ганулі не такі, як у будні дзень — павязаная пад бараду белая хустка, кафтанік у дробныя сінія клетачкі і спадніца доўгая, чорная, з фальбонкамі.

— Я тут, гляньце, усё пакідаю без догляду... Куры — такой бяды. Але вось цялё я навязала ў садку... Не дай бог дождж, то добра было б, дзеткі, каб хто прыйшоў адвязаў яго ды ў хлеў упусціў...

— Дажджу не будзе,— паглядзеўшы ўгору, сказаў Сцяпан.

Я зірнуў, што там у садку. У цёткі Ганулі расло пару яблынь, а на ўзмежку — шарэнга вішань. Між яблынь на вяроўцы, адганяючы мух, стаяла сівая ця-

лушка, а пляцовачка-гуменца каля агарода была зацярушана сенам — капой ці дзвюма.

— Яно паказвае на пагоду. Я гэтак сама думаю,— згаджалася, як з дарослымі, цётка Гануля.— Можа, не раздажджыцца... А калі закапае зверху, дык вы, дзеткі, цялушку заганіце ў хлеў... І сена я растрэсла, каб прасохла. Дык вы і яго пад павець схавайце!.. Зграбіце, спластуйце і пад страху! Граблі, вілы вунь стаяць!

Мы са Сцяпанам неахвотна пераглянуліся.

— Дажджу не будзе,— плюшчачыся на сонца, паўтарыў Сцяпан.

— Калі не будзе, дык і на тым увесь ваш, дзеткі, клопат. Надвячоркам цялушку адвязаць і ў хлеў. Я ўжо, як вярнуся, сама напаю. Пастараюся завідна, як будуць пастухі гнаць з поля, вярнуцца... Хлопчыкі, я ўжо гасцінца прынясу вам з Баламутавічаў. Мае міленькія!..

— Ну, добра,— згадзіўся я.

Што нам рабіць? Сцяпан маўчаў — і ён мусіў згадзіцца з просьбай Ганулі. Хто ж ёй паможа?

Стаялі, думалі, як жа паходам у саўгас?

Э-э, дзень наперадзе. Летні дзень як год. Можна схадзіць пагушкацца на саўгасаўскіх арэлях і да полудня вярнуцца ў сяло. Дарога — два кіламетры, за ракою, па лугавой сцежцы.

Аднак нешта нас затрымлівала. І адкасваць штаны мы не адкасвалі, і ісці на арэлі — не ішлі. Штосьці ў душы нас тармазіла. Калі будзе работа — зграбаць і зносіць сена,— то ці трэба пераапранацца, скідаць святочны гарнітур?

Цётка Гануля пайшла. А мы засталіся на месцы, ля яе варот. Схадзілі праверыць, ці надзейна прывязана цялушка? Яшчэ абарвецца ды ўцячэ. Не сядзець жа нам каля яе або не шукаць потым.

Не, прывязь моцную зрабіла цётка Гануля. Цялушка сумным позіркам праводзіла нас: мухі яе дапякалі... Яна — на вяроўцы. А мы?..

Назад павольна выйшлі на загуменні. Тут быў выган і глыбокія ямы, дзе капалі гліну.

Над усім даляглядам — сінява нябёс. Такога зіхатлівага сонца і чыстага блакітнага неба — ніводнае хмурынкі — даўно ўжо не дарыла лета. Адкуль той мог з'явіцца дождж? Каб хоць ветрык дыхнуў!

Сэрца рвалася ў саўгас на арэлі.

А тут — цагельня, дзе, капаючы гліну, рабілі цэглу.

Калісьці ў бытнасць нашых прадзедаў, а мо яшчэ і раней, на гэтым месцы, сапраўды, уручную выраблялі цэглу. З яе муляры складалі ў хатах печы. Толькі залежаў гліны, відаць, мелася небагата. Да нашага часу засталася адна назва. І яе празвалі: цагельня-копанка.

Пасля вясновага разводдзя і ліўневых дажджоў вады тут было цэлае азярцо. І не малое. Яно, як сажалка, стаяла ўсё лета. У вадзе рос аер. Яго ўчора дзяўчаты ахапкамі сярпамі жалі — на духмяны пах на падлозе ў хатах.

У будні дзень тут, на копанцы, мы, падлеткі, пасучы свінні, бегалі навыперадкі, куляліся з узгорка, даставалі са дна копанкі карэнні аеру — рабіць піскаўку-самаграйку.

Бывала, што і дарослыя жанчыны прыходзілі сюды папаласкаць бялізну. Асабліва калі вада свежая, поўнае азярцо.

Хтосьці клапатліва пасярэдзіне копанкі ўмацаваў два доўгія ёмкія калы, збіў іх перакладзінай, а на перакладзіну прымацаваў дошку. Выйшла не кладка — паўкладкі. На дошцы жанчыны боўталі, паласкалі бялізну і розныя анучы.

Узыходзілі мы на тую гнуткую дошку, вагаліся, плёхалі сподам па вадзе. Як яна прымацавана да перакладзіны, нас не турбавала. А на сярэдзіне копанка была глыбокая. Там, дзе дарослыя мылі палавікі, мы маглі схавацца з галавой.

Я са Сцяпанам, вядома, умелі плаваць. Але ніхто тут не купаўся, хоць азярцо не высыхала нават у спякотнае лета. У канцы сяла бегла чыстая сцюдзёная рэчка. А ў копанцы між аеру вяліся жабы, якія цяпер крэкалі на розныя лады. Стаяў такі хор, які, бадай, будзе сёння па ўсёй вёсцы, калі з'едуцца госці і пасядуць за стол абедаць.

Сонечны выган... Сонечная копанка. А нам яна зараз, нягледзячы на жабін хор, здалася нецікавай, прыкрай і нікчэмнай. Абодвух клікаў гульнямі саўгас. Мы па-святочнаму прыбраліся. Нам хацелася, каб у такім выглядзе спаткацца з саўгасаўскімі сябрамі, калі будзем разам гушкацца на арэлях. Такі быў на-

мер, замысел, і вось — гэта Ганулiна цялушка. Яна прывязала нас да сяла.

Сцяпан, нерашуча ступаючы, сказаў:

— У копанцы, чуў, карасі завяліся. Косця Юстынаў вялізнага карася бачыў.

Ён паказаў ладны памер рыбіны, з палена.

— Давай зойдзем,— зацікавіўся я.— Можа, і мы ўгледзім. Толькі што сеткі няма.

Спачатку мы абышлі бераг там, дзе падстрыжаны аер, дзе квакалі жабы. Думка пра саўгас забывалася. Але ж часу было яшчэ даволі...

У копанцы, апроч крыклівых жаб, вяліся вяртлявыя, як гадзюкі, п'яўкі. Ні жаб, ні яшчарак, ні мышэй, ні ракаў, ні розных жукоў мы са Сцяпанам не баяліся. Халодную жабуцьку бралі смела ў жменю, маглі нават пакласці сабе ў кішэню. А вось п'явак — жудасна баяліся. Мабыць, таму, што сярод малых хадзіла перасцярога: п'яўка — крывасмок. Дарослыя разнеслі страх: п'яўка ўп'ецца ў нагу ці ў руку і адтуль яе нічым не дастанеш. Толькі доктар разрэжа і дастане. У бальніцы. Нічога такога з намі яшчэ не здаралася, але... Забыўшыся, мы не раз вышэй за калена лазілі па вадзе, вядома, з берага, і калі маленькія п'яўкі прыліпалі да лыткі, з агідлівасцю хуценька збівалі іх пстрычкай. Вялікіх, пляскатых, даўжынёй з пядзю, жоўта-зялёных п'явак мы бачылі на глыбіні з дошкі на пеpакладзіне. Віляючы, яны плылі на паверхні. Такіх мы асцерагаліся, нібы сапраўдных гадзюк.

Каб падкрасціся і ўгледзець рыбіну, якая завялася ў азярцы, трэба зверху панаглядаць. І чым бліжэй да яго сярэдзіны, на глыбіні, тым надзейней спаткаць карася.

Падышлі да дошкі-кладкі. Пад ёй з беражка жаўцеў пясочак, а далей віднеўся чорны глей і ціна. Жабы, спалохана плёхнуўшы, пахаваліся ў ціну, змоўклі. А на сярэдзіне копанкі яшчэ галасней пачулася: «Крум-крум!»

Сцяпан першы ступіў на дошку. Шырокая, гладкая, яна тут ніколі не высыхала.

Сцяпан паспрабаваў ісці, дошка хілялася ў бакі і вагалася. Вось ліха! Хтосьці адарваў яе там, дзе прыбіта да перакладзіны. А можа, зламалася пярочка? Цяпер кладка ледзь трымалася. У любы момант дош-

ка магла саслізнуць і зваліцца. Хто вінаваты? Дарослыя! Нехта ад цяжару сарваў мацаванне з колікаў. Ісці было небяспечна.

Але Сцяпан пайшоў. Калі памаленьку рухацца і ступаць бокам, то можна дабрацца да сярэдзіны. А там карась на глыбінцы. Непаваротлівы карась хадзіў толькі па ілістым дне.

Мы са Сцяпанам неблагія рыбакі. З сеткай, з браднікам. З кашом — на тарфяных канавах. Мы ведалі ўсе рыбныя мясціны, і знайсці новую было такім жаданнем, як у любых рыбаловаў.

— Толькі ўзыдзем і паглядзім,— разважаў Сцяпан, павольна рухаючыся на сярэдзіну дошкі-кладкі.

— У саўгасе ўжо недзе крос аб'явілі,— напомніў я.

Крадучыся, каб не напалохаць хітрую рыбіну, Сцяпан ціхенька дайшоў да канца дошкі. Пастаяў. Сонца, якое адбівалася ў люстры-копанцы, сляпіла вочы. Ён прысеў на кукішкі, углядаючыся ўніз.

— А-я-яй! — здзівіўся.— Што робіцца тут на дне!..

— Дай мне падысці,— не стрымаўся я.

— Толькі асцярожна.

Ступаючы, як і сябра, ступня да ступні, я пачаў пасоўвацца да Сцяпана.

— Памаленьку! — перасцярог ён.

— Я памаленьку,— прашаптаў я.— Хіба ты не бачыш?

Праз нейкі час я апынуўся каля сябра. Як і ён, я прысеў на дошцы. Таксама на кукішкі.

Усё ж якое цудоўнае дно копанкі! Зялёныя шаблі аеру сцяною адлюстроўваліся ў вадзе. А мы са Сцяпанам таксама нібы ў люстэрку. Сонца пякельна смаліла і з неба, і з люстра азярца.

Глыбіня пад намі здавалася невялікая. Але яна прасвечвала тоўсты празрысты пласт вады, як шкло. Мноства казюрак і вадзяных жукоў кішэла на цёмнашэрым дне. Асабліва шмат было галавастых сініх палонікаў. Падштурхаючыся куртатымі хвосцікамі, яны ўзнімаліся са дна ўгору, каб роцікам хаўкнуць паветра ды зноў стрымгалоў кінуцца ўніз. Вілялі, як у танцы, пляскатыя п'яўкі. Зямля была ўслана мудрагеліста-скручанымі куклянкамі. Увесь гэты падводны свет жыў, варушыўся, плаваў у цёплай вадзе. Можна было бясконца ім любавацца іназіраць.

Жабы асмялелі і сталі крактаць зусім побач.

Пільна ўзіраючыся ў чорнаглеістае дно, мы чакалі рыбін. І дачакаліся. Я-то не прыкмеціў іх, а Сцяпан, ён і потым пераконваў, што заўважыў карася.

— Во, карась!

Каб ён толькі сказаў, а не зварухнуўся, усё было б нішто сабе. І я ціхенька пабачыў бы карася. А сябра, мабыць, ад радасці, што мы не марна прыйшлі і затрымаліся, ідучы па дарозе ў саўгас, патрацілі гэтулькі часу, каб падпільнаваць рыбіну ў копанцы, гукнуў і паказаў. Каб хоць пальцам, а то рукой... Ды і я, напэўна, пахінуўся ў той бок, куды ён паказваў.

Я не хачу вініць свайго сябра, ды і Сцяпан не дакараў мяне: абодва вінаваты ў тым, што здарылася.

Мы страцілі раўнавагу, а дошка-кладка саслізнула з апорак-колікаў.

Гэтага трэба было чакаць. Але мы тады не ўлічылі небяспекі.

У люстры вады мільгануў каўнер матроскі, бліснула сонца, а далей галаву і плечы агарнула штосьці не надта прыемнае, халоднае. Мы боўтнуліся з дошкі. Рот і вушы запоўніла вада. Калі я паспрабаваў стаць на ногі, то вынырнуў па шыю. Зноў зіхацеў ярка-агністы шар у небе, а ступні ног танулі ў клейкай твані.

Дзе Сцяпан? Ён плёхаўся глыбей і вынырнуў чамусьці па той бок дошкі. А можа, ратуючыся, знянацку сам нырнуў туды. Мокрыя, мы сталі карабкацца да берага. Мутнай твані было больш, чым вады. Канешне, тут, у копанцы, ніхто ніколі не ўтапіўся і не мог утапіцца. Але нас адразу апанаваў страх не ад глыбіні — мы ўмелі плаваць,— а ад п'явак, якіх тут кішма кішэла. Нават перапалоханыя жабы здзіўлена змоўклі. Яны бачылі, як мы выпаўзлі і пачалі падскокваць на беразе.

Выплёўваючы з рота мутную ваду, ногцямі саскрабаючы наліплую зялёную ціну, мы ашалела пазглядалі адзін на другога. І ён, і я з галавы да пят былі брудныя. З кожнага цякло, а рукі і твар былі ў глінянa-чорнай гразі. Вось наша святочнае адзенне! Няўжо я рачкаваў па дне, пакуль устаў на ногі? Мой сябра выглядаў не лепш...

Нам было сорамна. Мы азірнуліся: можа, хто нас убачыў? Не, у такі кірмашовы дзень ля копанкі не хадзілі нават гусі. Гэта нас нейкае ліха прыгнала сюды ў святочным адзенні.

А п'яўкі-крывасмокі! Магчыма, ужо каторая прысмакталася да цела. Можа, тая зялёна-жоўтая, што істужкай плыла-віляла ў вадзе, зараз паўзе за пазухай?

— Нас убачаць тут,— сказаў Сцяпан.— Давай уцякаць адсюль!

Сапраўды, тут, на загуменнях ля копанкі, зеленеюць градкі бульбоўніку, шыракалістай капусты, а вунь стаяць Лукашовы яблыні, можа, хто ў садку наглядае за намі, як мы, голыя бізуны, скачам на беразе. Смех на ўсё сяло!

Кожны, схапіўшы ў ахапак сваё адзенне, кінуўся стрымгалоў. Нацянькі поплавам у алешнічак. За алешнічкам, як за сцяной. Бераг рэчкі. Тут можна спаласнуцца самім і памыць святочны гарнітур.

Вось табе на̀, новенькія штаны і кашуля! Чым яны пахнуць? Жабурыннем і тванню з копанкі... Адразу ўсё пачалі паласкаць, мыць і выкручваць. Ні словам між сабой не перамаўляліся. Спяшаліся... Што гаварыць? Каго дакараць? Захацелі злавіць карася?.. Як той казаў: угледзеў карася — і казка ўся!

Але, каб жа на гэтым быў канец казкі! Ого, што чакала нас наперадзе! Кірмашовы дзень сапраўды здаўся годам.

...Сцяпан дужэйшы за мяне. Я трымаў за паясніцу штаны, а ён іх выкручваў. Выкручваў так, нібыта з калашыны віў вяроўку.

З кашуляй яшчэ горш. Мне дораг быў залацісты марскі якар. Я яго прасаваў між далоняў, хукаў, каб ён як мага хутчэй і роўненька высах. А Сцяпан вельмі шкадаваў папружку. Такой ні ў кога не было. А яна злубянела, як падпінак у конскай вупражы.

Калі ўсё сохла на траве, мы глянулі ў неба, на гарачае сонца і самі леглі на цёплы пясочак.

— Скажу, лавілі рыбу,— разважаў, лежачы, Сцяпан,— і ўваліўся ў рэчку.

— А я скажу, пераходзіў па кладцы, зачапіўся за дошку і ўваліўся ў ваду.

Сцяпан ляжаў, думаў, і я ляжаў, думаў. Нас абодвух чакала, як кажуць, лупцоўка.

— Дошка-то дошка,— сказаў сябра,— ды, брат, мы хлусім трошкі.

Шкада новага адзення. І навошта захацелася нам лавіць таго карася? Няхай бы ён там апруцянеў!

— Я не лавіць, я ўгледзець хацеў. Ты яго бачыў?
— Нешта па дне сунулася,— адказаў Сцяпан.
— Я — дык не бачыў,— прызнаўся я.— Мне сонца адсвечвала.
Раз-пораз мы ўставалі і расцягвалі мокрае ўшыркі і ўдоўжкі, каб хутчэй сохла.
...Вось і пагушкаліся на саўгасаўскіх арэлях! Вось і палятвалі ў паветры на «гіганцкіх хадулях»!
Думка не давала спакою: як растлумачыць дома? Дзе бадзяліся?..
Зноў уставалі, пераварочвалі на другі бок кашулі.
— Мы іх так выцягнем, высушым, што дома ніхто не пазнае. І не спытае, не пацікавіцца.
— Канешне,— згаджаўся я,— каб рукаво адарвалі або каўнер, тады не мінуць рэменя... А каб недасохлае надзець на сябе і пайсці ў саўгас? Там, на арэлях, пад ветрам, і выпрастаецца, і высахне...
Чаму раней не з'явілася такая цудоўная прапанова?
Сцяпан згадзіўся.
Дзень летні — не год, а цэлы век... Адзеліся. Пайшлі.
Але яшчэ крыху раней мы заўважылі, што на сінім небе пачалі з'яўляцца белыя хмаркі. Круглыя, папяровыя, яны быццам самі нараджаліся. Нараджаліся, раслі, клубіліся. Потым павялічваліся, станавіліся круглымі. Не плылі з-за далягляду і не знікалі за далягляд, а тут, над намі, непрыкметна павялічваліся, цяжэлі.
Не даходзячы да кляновых прысад перад саўгасам, раптам пачулі, як штосьці грымнула на захадзе.Данёсся гул, ад якога ўздрыгнула зямля. Аглянуліся. Потым пераглянуліся...
На захадзе, з-за гары, вырастала сіняя хмара. Ветру адтуль не было, але яна распаўзалася шырэй і шырэй.
Мы ступілі некалькі крокаў.
— А сена цёткі Ганулі? — успомніў я.
— І цялушка на прывязі,— буркнуў Сцяпан.
Заставалася ўжо некалькі крокаў да саўгаса. Блізка стаяў дуб, пад якім пляцоўка з арэлямі. Там чуўся дзіцячы смех.
Хмара гусцела. Будзе навальніца!
...Вось дык кірмашовыя прыгоды! Сцяпан і я па-

вярнулі назад. Спачатку нехаця, і аглядкай. А калі ў чорнай хмары блiснула маланка і загрымела, прыбавілі кроку. Мы ўбачылі, што сонца схавалася і больш не выгляне.

Бывае, у прыпар ветрык не дыхае, а хмары вырастаюць неяк на месцы, з лугоў і балот, з навакольных лясоў, узнімаюцца ўгору, пакуль не пральюцца адтуль на зямлю дажджом...

Як сінімі крыламі, навальніца ахінула неба з двух бакоў. Мы кінуліся бегчы...

Упалі мокрымі манетамі першыя кроплі дажджу на вуліцы. Гарачыя твары нашы ўзмакрэлі ад поту, а цяпер і ад буйных дажджынак. Цяжка дыхаючы, мы беглі да варот цёткі Ганулі.

Цялушка, заўважыўшы нас, замычэла. Але мы адразу хапіліся за сена. Зграбаць і хаваць яго.

Сцяпан — за граблі. Я — за вілы. Ссунуўшы сухі мурог у валок, я пратыкаў яго віламі і нёс пад паветку. Назад вяртаўся бягом. Сцяпан таксама. Мы ўжо не звярталі ўвагі, у чым апрануты. Не памяталі і не адчувалі, што па галаве капае кропля за кропляй. Потым сыпнуў дождж. Мы пачалі насіць яшчэ большымі ахапкамі, Сцяпан пластамі. Калі апошні пласт і ахапак сухога мурагу апынуліся пад павеццю, над сялом аглушальна грымнуў гром. Тут жа па яблынях цёткі Ганулі, па лісцях капусты, буракоў на градах залапатаў лівень...

Бедная цялушка. Яна заставалася навязаная. Цяпер мы пабеглі да яе.

Намоклы, зацiснуты вузел вяроўкі ніяк не паддаваўся. Тым часам нас траіх пачаў лупцаваць град. Падаў спачатку з гарошыну, а потым белымі ледзянымі слівамі. І такія ледзяшы малацілі нас па плячах, па галаве. Дасталося і цяляці.

Трэснуўшы бліскавіцай, раскалолася неба над сялом. Але мы цягнулі цялушку ўжо ў хлеў. Халодныя снежныя кулі сыпаліся са страхі. Ляскаючы лёдам, скочваліся пад капеж. Праз вароты мы здзіўлена пазіралі на гэту градавую навальніцу.

Балючыя гузакі ад яе ўскочылі ў нас на галаве. На нас не было сухой лапінкі. Але чамусьці мы зараз не звярталі на гэта ўвагі. Ліха з ім, з адзеннем!

Бліскала маланка. Зноў грымеў гром. Нібы ўгары каціўся цяжкі воз з жалезнымі бубнамі.

Расплываліся пенiстыя лужыны каля капяжу.

Летні лівень. Ён як раптоўна пачаўся, так і раптоўна сціх.

Мы са Сцяпанам зачынілі дзверы Ганулінага хлява і пабрылі дамоў.

Вось і канчаўся гэты наш дзень неяк недарэчна, несвяточна, не так, як мы задумалі. Хоць, праўда, на душы было пачуццё незразумелай радасці. Пасля дажджу апанаваў бадзёры, вясёлы настрой. Свежае паветра. Лёгка дыхалася...

Зноў зазіхацела сонца. Грымотная хмара адышла на поўнач. Вецер яе не праганяў — яго амаль не было. Проста яе, мабыць, пацягнула на лес, які сінеў у тым баку. І там час ад часу яшчэ грукалі далёкія выбухі.

Пад плотам градзіны хутка раставалі. Дробныя кроплі блішчэлі на лісцях дрэў у яркіх промнях. Усё так прыемна пахла духмяным водарам. І грудзям хацелася дыхаць лёгка і няўтольна.

Мы ішлі па раўчуку, які струменіў аж у рэчку. Светлай дажджавой вадой ён бруіўся па босых нагах, па каменьчыках. Зноў парыла.

Толькі кветкі купалля, смалянак размоклі і не маглі ўзняць пялёсткі.

Дзесьці зайграў гармонік. Клікаў на танцы!..

Я спыніўся каля сваіх варот і радасна агляннуўся. Мне не сорамна і не боязна было за свой мокры выгляд. На ражку якара маёй матроскі павісла травінка мокрага сена цёткі Ганулі.

— Глянь, вясёлка! — паказаў я Сцяпану.

І ён угледзеў. Нам стала смешна, нібы ўгледзелі, нарэшце, карася, якога не злавілі.

Сонца, схіліўшыся з полудня на падвячорак, збоку асвятляла чорна-сінюю хмару, якая аддалялася на поўнач. Яна аддалялася, усё цішэй і цішэй грукочучы, вытрасаючы ўвесь свой грозны градавы цяжар. І нам зрабілася зусім радасна і лёгка.

У празрыстым паветры, амаль на паўнеба, ад краю да краю небасхілу, над клёнам цёткі Ганулі, велізарнай дугой стаяла сямiколерная вясёлка.

— Дзве! — адгукнуўся Сцяпан.— Твая і мая.

Праўда, калі прыгледзецца, вышэй за першую, надта яркую, паўставала яшчэ адна, таксама сямiколерная, толькі ледзь цьмянейшая.

Значыцца, нам — на ўдачу?

# ЗНАХОДКА

Здарылася са мной такое, што доўга адчуваў сябе ніякавата. Больш таго, спачатку здавалася: я зрабіў добры ўчынак, а потым быццам гэта кепска.

Вось непрыемнасць.

Мае старэйшыя два браты касілі ў полі канюшыну, і я ім насіў полудзень у гліняных спарышах, загорнутых і завязаных маці ў белую паркалёвую хустку, каб яда, пакуль данясу, не астыла. Касілі яны аж у Востраве, самым далёкім урочышчы. Але я туды дарогу ведаў, з ахвотай пайшоў.

Прынёс.

Пакуль касцы абедалі, потныя, карычневыя ад сонечнага загару, косы адпачывалі, а я сядзеў на духмяным пракосе. Паблізу ў кустах залівалася берасцянка.

Мяне зацікавіла: як робяць копы з таўшчэзных, скошаных валкоў канюшыны? Я ўжо бываў на сенажаці і ведаў, што свежую траву варочаюць, сушаць, зграбаюць у валкі, потым пластуюць і складаюць у копы. Старэйшы брат Пятро мне адказаў, што канюшыну не зграбаюць у копы, а з валкоў яе круцяць і ставяць кучкі, у якіх яна сохне.

Мой другі брат, Алесь, ён заўсёды з мяне насміхаўся, сказаў:

— Вазьмі дома граблі і прыходзь сюды, памагай зграбаць у копы.

Такі жарт, вядома, не бракаваў Алесю сказаць мне дзякуй за прынесены полудзень, і старэйшыя зноў узяліся за косы.

Вяртаючыся дамоў, я ўсё чамусьці думаў пра граблі. Ступаючы басаног па нагрэтай пясчанай дарозе, разважаў сабе, як бы я ўпраўляўся з велізарным валком. Канюшынішча нізенькае, вельмі калючае — ногі пакалоў бы...

З пагону, дзе ездзілі з нагружанымі вазамі, а ў большасці ганялі жывёлу на пашу, я збочыў праз лаз на бакавую дарожку, наблізіўся ўжо да нашай сядзібы, аж гляджу: ляжаць граблі. Нібы знарок хто іх паклаў. Якраз на сцежцы.

У вёсцы, як вядома, сядзіба ад сядзібы аддзялялася сцежкай. Па-рознаму называлі гэтую мяжу. У нас

з аднаго боку жыў дзядзька Стапановіч. Дык нашы двары былі разгароджаны плотам. Там, дзе ўпрытык стаялі хата, хлеў, адрына, межавалі сцены, а дзе не было будынкаў — зямлю падзяляла мяжа. Вузенькая — між пасевамі, шырокая — у агародзе між градамі, і называлася яна паўмежак. Па паўмежку хадзілі мы і ўся сям'я дзядзькі Стапановіча. А воддаль на прысядзібных участках, дзе можна было праехаць з калёсамі, пралегла сцежка, парослая муравою, трыпутнікам, раннікам, малачаем і дробненькім падарожнікам. Вось на гэтым месцы адзінока ляжалі граблі. Папярок сцежкі. Частка доўгага грабільна — на нашым баку, а стаўпец з зубамі ўткнуўся ў траву на баку дзядзькі Стапановіча.

«Чые гэта? — падумаў я.— Хто мог пакласці граблі? Хіба ім тут месца?.. Калі я ішоў у Востраў, іх не было».

Спачатку я пераступіў грабільна, хацеў ісці далей, а потым спыніўся. Паглядзеў кругом — наўкол ні душы. Хоць бы хто стаяў ці наглядаў. Нікога. Прыгожыя, адмысловыя граблі валяюцца ў чыстым полі. Я паставіў на сцежку пустыя спарышы і паклаў побач загорнутыя ў хустку дзве лыжкі.

Вельмі прыгожыя граблі. Гладзенькае грабільна нехта адшліфаваў і адглянцаваў. Яно аж слізгала ў руках. Зубы, устаўленыя ў стаўпец,— планку, прымацаваную ўверсе да рагача дзяржання,— таксама точаныя, знутры завостраныя. І не са звычайнага дрэва, нейкія каштанавага колеру. Не доўгія, як часам у неахайных граблях, дзе зуб зламаўся. Я паспрабаваў імі грэбці,— грабуць, самі лезуць у траву. А каб на пракосе?..

«Нехта згубіў,— падумаў я.— Хіба абмінуць, прайсці і не падняць такую знаходку?..»

І тут мне цюкнула думка пра Сенькавы знаходкі, за якія бацька яго хваліў. З Сенькам я дружыў. А Сенькаў бацька, Саўка, жыў у канцы сяла, каля рэчкі. Дражнілі яго па-вясковаму Тарбахват. Я не надта задумваўся над гэтай мянушкай, бо сябраваў з Сенькам. Ён быў хлапчук ціхі, добры, з ім не было чаго сварыцца. З ім, бывала, доўга сядзіш на беразе і моўчкі наглядаеш, як коціцца вада ў рэчцы.

Жылі яны неяк наводшыбе і крышку на ўзгорку, дзе стаялі хата і іншыя гаспадарчыя будынкі. Агаро-

жы навокал бадай не мелі. Два калы і паўтары жэрдкі — хіба гэта плот навокал гумна і двара? Ад рэчкі ўсяго адно прасла, і тое зусім пахілілася. Калі цяпер задумацца, то гаспадар, мабыць, меркаваў, што ад такога суседа, як ціхаводная Пціч, ці варта адгароджвацца? Хто каму больш дасць, або хто ад каго больш адніме? Пціч — рэчка памяркоўная. Здараліся ў яе норавы, але не часта. Вось вясной, калі разлівалася шырока, магла пакрыўдзіць, заліць Саўкава гумно, адрыну, падысці да ганка хаты. Дык то ж вясной. Часам летам пасля дажджу вада прыбывала, падымалася і выходзіла з берагоў. Але навошта ад вады, ад грамадскіх сенажацяў адгароджвацца? Да таго ж колькі прыбытку прынесла Саўку рэчка? Чаго толькі не было ў яго пад паветкай?! Тут сховішча розных рэчаў і падарункаў Пцічы. Вось бочка, вулей, ступа... Аднойчы рака прымчала шырачэзны плыт. Вось дубовая калода, якую ўскаціў сюды Саўка са старэйшым сынам.

Сенька ўсё лавіў у рэчцы, што было яму па сіле. Часам я памагаў. Вока ў Сенькі было зоркае. Сядзім, бывала, на беразе, глядзім. Ён глядзіць, і я гляджу. Я на хвалькі, што кругамі разбягаюцца па вадзе там, дзе плёхне хвастом рыба. А Сенька, бачу, раптам устае, закасвае штаны да каленяў і спускаецца з берага да чоўна. У яго была даўгаватая жардзіна замест вясла. Яна лёгкая, ёй добра, плывучы на чоўне, адштурхнуцца па дне, папіхнуць і зnative злавіць, прыгнаць да берага дошку, што несла плынь. Гэту дошку Сенька аднясе або зацягне, калі сырая, дадому, пад паветку.

— Малайчына, сынок! — пахваліць бацька.

За ўсё, што знаходзіў Сенька на беразе, прынесенае рэчкай, Саўка хваліў сына.

— Усё нясі ў двор, малайчына! Ідзеш у хату, не ідзі з пустымі рукамі!.. Дурань той, хто нясе са свайго двара.

Аднойчы плыў па рэчцы нечы зэдаль. Я памог Сеньку яго злавіць і прынесці пад паветку.

— Малайцы, хлопцы! — пахваліў нас абодвух гаспадар.

І мне было прыемна. Наогул, каму бывае кепска ад таго, калі цябе пахваляць? Ты ганарышся, што зрабіў добрую справу.

...Адным словам, я не мог абысці і пакінуць прыгожыя граблі. Такія ёмкія і адмысловыя. Яны заўсёды

спатрэбяцца дома. За такую знаходку мне мала аддзячыць. Я ўскінуў іх, як гэта робяць дарослыя, грабільнам на плячо, зубамі ўніз. Іду, радуюся. Гэткія граблі! Чые яны, у тую хвіліну мяне нават не цікавіла. Можа, хто згубіў? Напэўна згубіў. Гэта ж далёка ад сяла, амаль каля пагону. А можа, хто зусім ад іх адрокся... Не, яны не плылі па рэчцы. Такія цудоўныя граблі! Дзяржанне аж слізгала ў руцэ.

Я быў упэўнены, што, як і Сенькаў бацька, мая мама скажа: «Малайчына».

Яна ў сенцах мыла бульбу. Увайсці да яе са знаходкай і з посудам было няёмка. Я паставіў граблі да прызбы і ўбег толькі са спарышамі.

— А я нештачка прынёс,— прызнаўся я радасна.

— Што?

Маці распытвала, ці многа касцам засталося касіць, але я ўвесь трымцеў ад сваёй прыемнай навіны. Выбег, схапіў аберуч адшліфаванае грабільна і ўнёс цераз парог у сенцы.

— Во! — працягнуў я граблі.

Мама чамусьці насупленым позіркам агледзела граблі ад зубоў да кончыка дзяржання і ціхім голасам спытала:

— Дзе ты ўзяў іх?

— Я знайшоў.

— Дзе знайшоў?

Я яшчэ не траціў надзею пачуць прыемную пахвалу, бадзёра тлумачыў:

— Іду, а яны ляжаць. Нехта згубіў. Дык я падняў, каб не валяліся, і прынёс дадому... Гляньце, якія! У нас няма такіх.

— Дзе ты іх падняў? — пачала дапытвацца маці.

— На сцежцы. Дзе пачынаецца наша паласа.

— Як яны ляжалі?

— Яны ляжалі вось так. Зубы ў траве на палавіне дзядзькі Стапановіча, а гэты канец на нашым баку. Аж каля пагону. Нехта згубіў.

— Чаму ты думаеш, што іх нехта згубіў?

— Дык нідзе нікога не было. Яны ляжалі адны, проста кінутыя на зямлю.

— А можа, іх хтосьці забыўся? — узяўшы граблі з маіх рук, разглядаючы, гаварыла мама.— Можа, паклаў на хвілінку, а зараз вернецца, прыйдзе забраць, а іх няма...

— Ніхто не прыйдзе. Я ж кажу, там нікога не было і няма.

— Як ты думаеш, чые могуць быць граблі?

— Нічые... Нехта згубіў.

— А можа, дзядзькі Стапановіча?

Я змоўк. Мне самому прыходзіла такое на думку. Але ж радасць прынесці гэткія прыгожыя граблі. З імі пагуляць, патрымаць у руках і то прыемна.

А маці ўздыхнула і сказала:

— Занясі іх і пакладзі там, дзе яны ляжалі! — І яшчэ настойліва дадала: — Аднясі назад! Пакладзі так, як ляжалі. Помніш?.. Нехта іх палажыў, забыўся, дык успомніць — прыйдзе забярэ!.. А ён, бач, знайшоў?! От дык знаходка!.. Аднясі!

— Не панясу,— упарта і пакрыўджана сказаў я.

Маці прыставіла граблі да вушака дзвярэй у сенцах, села на лаўку, узяла мяне за руку і ласкава запытала:

— Чаму не панясеш? Чаго ты, сынок, пакрыўдзіўся? Што я такое благое табе сказала?

Я мусіў прызнацца ў тым, што ў мяне карцела на душы. Я сказаў:

— Сеньку бацька, калі ён прыносіць што-небудзь дадому, па галаве гладзіць... І кажа: усё нясі ў двор. Дурань той, хто нясе са свайго двара...

— Ах, вось яно што?! — сказала мама.— А ты ведаеш, што Саўку, Сенькавага бацьку, дражняць Тарбахватам? У яго ўсё знаходка! Пакінь сякеру нанач на двары, заўтра ўжо будзе ў Саўкі. Павярнуўся ў хаце Саўка, запалак не стала. Ідзі да яго — запалкі ў Саўкі. Загледзеўся ён у цябе на што-небудзь, заўтра тое ўжо будзе ў яго ў каморы. Сцягне, і не заўважыш... Жывёлу не замыкае, каб у чужую сенажаць улезла. Усім палеткі патравіў. За тое Саўку і клічуць Тарбахватам... Дык што, ты ў яго ці ў Сенькі хочаш навучыцца?

Я маўчаў. Але на сэрцы ўжо не было зайздрасці Саўкавай пахвале. Калі ўспомніць, між Сенькам і мною, сапраўды, было нешта такое... Ён доўга насіў, не аддаваў мой ножык-складанчык, і, калі мне надакучыла чакаць, я сказаў: «Чаму ты не аддаеш сцізорык? Гэта ж не твой, а мой». Сенька спакойна адказаў: «Бяры, калі гэта твой...» Значыць, гэта — Тарбахват!

— Вось што, мне часу няма, і па галоўцы гладзіць за граблі я цябе не буду,— устаючы, сказала мама.— Але несці іх да пагону, сапраўды, далекавата... Лепш аднясі, сынок, іх дзядзьку Стапановічу. Аднясі, гэта ж блізка, цераз вуліцу, і скажы: «Вось вашы граблі. Я ішоў з Вострава і знайшоў іх на сцежцы. Каля пагону». Глядзі, так і скажы! От тады ты будзеш малайчына!.. Ідзі, аднясі!

І я панёс. Неяк неахвотна было расказваць, як я іх падняў. Але які тут сорам? Хіба я ўкраў? Злодзей?..

Самога дзядзькі не было ў хаце. Мяне спаткала цётка Стапановічыха, наша суседка. На двары яна сыпала курам зерне. Нёс я граблі ў дзвюх руках перад сабою.

— А мы шукалі, шукалі,— узрадавалася яна,— дзе ты, сынок, іх знайшоў?

Я расказаў так, як мяне мама вучыла.

Цётка ўзяла граблі і пахваліла:

— От будзем падглядаць у вуллях пчолы, соты даставаць, я табе мёду дам за гэта. Ну, малайчына!

# ЖАВАРАНАК

Успамінаючы маленства, мне хочацца расказаць пра адзін выпадак, які здарыўся са мною на пашы. Мне заўсёды, як пачую жаваранка ў небе, здаецца, нібыта я зноў у дзяцінстве, стаю на ўзгорку ў доўгай дзядзькавай світцы і слухаю спеў птушак, а перада мною шырокае, шырокае поле...

Калі здарыўся гэты выпадак, я якраз пасвіў авечкі. Пасвіць авечкі лягчэй, чым каровы. За імі не трэба надта бегаць, яны ходзяць гуртам, паслухмяныя, у шкоду не лезуць. Праз гэта, між іншым, такому пастуху не належала даваць падпаска; кожны гаспадар, у якога я бываў на чарзе, карміў і даваў мне верхнюю вопратку. Авечага пастуха і наймалі танней, хоць адказнасці тут — каб воўк не ўкраў ягняці,— бадай, больш, чым у якім статку. Я выганяў авечак на цэлы дзень. Кароў прыганялі ў сяло апоўдні падаіць, і пастух мог тым часам адпачыць. А я ўвесь дзень, у любое надвор'е, ад усходу да заходу сонца, хадзіў за авечкамі ў полі. Цэлы дзень, акрамя чарады, нікога не бачыш.

Адзінока і сумна.

Пасвіў я на папары. Гэта вялікі клін зямлі, пакінуты дзірваном да самай восені. На гэтым полі расла папарніца, трава, якую вельмі любілі авечкі. Калі яны, бывала, спрытна скублі, я ўзыходзіў на ўзгорак, глядзеў навокал і слухаў, як спявалі жаваранкі.

Нідзе так звонка не чуваць спеў жаваранка, як у чыстым полі. З высокага неба падае, льецца птушыны спеў, нібы мноства срэбных званочкаў узняло сонца аж пад воблакі. Стаіш і чуеш, як пранікае птушыная песня ў сэрца, напаўняе яго радасцю. З птушкамі не было маркотна ў полі. Я гэта адчуваў і старанна бярог крылатых сяброў. Колькі я знаходзіў іхніх гнёздаў на межах, у баразнах, пад скібай ад плуга! Я ніколі не кратаў птушыную сям'ю. Я ведаў, калі маленькія птушаняты выводзяцца, калі ў іх адрастаюць крылы. І мне здавалася, што жаваранкі, перапёлкі, курапаткі таксама ўжо ведалі мяне, прывыклі да мяне. Пырхнуўшы з гнязда, шэрае птушанё далёка не адлятала, а садзілася на галінку чарнобылю і глядзела ў мой бок па-свойску, смела.

Жаваранкі для пастуха — свой хор. Я любіў, як яны спяваюць да ўсходу. Я чуў, нават бачыў, як перад заходам сонца яны, нібы дамовіўшыся, узлятаюць высока-высока, адзін перад адным спяваюць пяшчотныя песні і, як толькі агніста-чырвоны шар патане, змаўкаюць, хаваюцца на спачынак. Дабранач! Гэтую пару — дадому — я і мае авечкі добра ведалі. Наўкол наступала вячэрняя цішыня.

Аднойчы ў поўдзень я стаяў на ўзгорку і глядзеў у неба, шукаючы ў блакітнай вышыні таго, хто заліваўся песняй. Сонца было ў зеніце. У такую пару дня большая палова птушак вісіць між небам і полем,— спявае самы магутны хор.

Авечкі хадзілі ў лагчыне. Я іх бачыў перад сабою, а сам стаяў, як паўнаўладны гаспадар іх лёсу, у шырокай світцы з саматканага сукна, жакетцы аднаго дзядзькі, у якога я быў на чарзе. Яна мне была да пят, і насіць яе можна было толькі расшпіленай, каб не паваліцца на хаду.

Я стаяў, а ветрык дзьмуў мне пад жакетку, і прыемны халадок асвяжаў цела. Рукавы ў жакетцы былі закасаны, у правай руцэ я трымаў пугу.

Я глядзеў угору, але ў залатым паднябессі заўва-

жыў не жаваранка, а каршуна. Гэтага драпежніка я таксама ведаў і бачыў не раз. Ляціць ён, бывала, над палеткамі, махае гэтак паважна крыламі, а потым спыніцца на адным месцы і пачынае выглядаць на зямлі птушак або мышэй. Нагледзіць і кідаецца на ахвяру, са свістам рассякаючы паветра.

Каршун лунаў высока-высока і нібы глядзеў адтуль на мяне. Я зацікавіўся: каго ж ён высочвае, куды кінецца? Я спачатку і не прыкмеціў, як ад самай зямлі з песняй пачаў узнімацца мой сябрук-жаўрук. Срэбны званочак падымаў сваю песню ўсё вышэй і вышэй.

А каршун застыў на месцы. Ён быў ■ боку ад зыркага сляпучага сонца. Заўважыўшы, што драпежнік не кратаецца, я насцярожыўся. Няўжо ён цэліцца на жаваранка? Няўжо гэты званочак, захоплены ўласнай песняй, не бачыць, што ён сам набліжаецца ў кіпцюры да смерці! Я глядзеў затаіўшы дыханне.

І хоць адлегласць была яшчэ вялікая, драпежнік не вытрымаў, кінуўся ўніз. Уніз! Я тут жа страціў жаваранка ■ вачэй. Каршун, адзін каршун быў для мяне ў небе. Ён, як маланка, рассек паветра. Потым імклівы палёт пераламаўся. Драпежнік кінуўся ўбок, яшчэ ўбок. Вось ён амаль прыпаў да зямлі. І раптам над зямлёю палёт яго выраўняўся. Я аслупянеў. Каршун ляцеў на мяне.

І толькі калі драпежнік быў ужо зусім непадалёк, я ўбачыў, як спераду ў яго ляціць, кідаецца ў бакі шэры камочак. Я аж уздрыгнуў, калі ён, як куля, шмыгнуў мне пад крысо. Так хутка, смела і даверліва знайшла сабе птушка схованку! Я спачатку нават не мог зразумець, як гэта здарылася, і міжволі замахнуўся на драпежніка пугай. Гнеўны крык вырваўся ў мяне з грудзей. У ім быў і гонар за давер'е жаваранка, і праклён драпежніку. Я і цяпер яшчэ бачу лютыя каршуновыя вочы, разяўленую дзюбу і растапыраныя кіпцюры. Ах, як ён неахвотна ўздымаўся ўгору!

Я не магу знайсці словы, каб перадаць пачуццё, якое тады ахапіла мяне. Дзесьці тут, пад крысом жакеткі, сядзеў трапяткі жаваранак. Ён перадаў мне разгон свайго палёту. Нейкі час я адчуваў сябе акрыленым, і на сэрцы было так лёгка, што мне здавалася, вось-вось я палячу.

Я апамятаўся. Дзе ж ён там засеў у маёй світце? Дзе жаваранак, якога я выратаваў ад смерці?

І толькі я зварухнуўся, як шэрая птушка пырхнула ў мяне з-пад крыса і паляцела пры самай зямлі. А неўзабаве зноў узвілася ў неба. Я стаяў радасны, узнагароджаны птушыным давер'ем. Дарагі жавараначак, будзь упэўнены, я заўсёды цябе абараню!

## КРЫНІЦЫ

Пад гарою расла вярба. Пад вярбою было люстранае акно ў зялёнай траве. Тут пачынаўся і бег да рэчкі малы ручаёк. З узгорка да вярбы вытапталі шырокую сцежку. Усе прыходзілі сюды піць ваду, і цэлае лета сіняе неба ўглядалася ў гэта акно. Увосень берагі яго чарнелі ад дажджу, і на вадзе плавала лісце вярбы. Зімою акно не замярзала. Рэдкая пара, як з міскі, клубілася над ім у глыбокім снезе. А дзед казаў, што гэта зямля дыхае тут. Крыніца...

Летам мы часта адпачывалі пад вярбою. Дзед шмат апавядаў, а ў крыніцы, на дне, бесперастанку бурліла вада. Чыстая, халодная, яна біла з-пад зямлі, пампавала ўгору, толькі на паверхні прыкметна спакайнела і павольна цякла ў ручаёк. Ён спачатку бег адным руслам, а далей разліваўся між куп'я, знікаў, хаваўся ў высокай асацэ.

Увесну да крыніцы цяжка было падступіцца. Гайдаліся, асядалі яе берагі. І дзед, беручы з сабою рыдлёўку і вядро, казаў мне:

— Сёння будзем працаць пад вербамі крыніцу.

Я наглядаў адзін за статкам, а дзед чысціў крыніцу. Разуўшыся, ён лез босымі нагамі ў халодную багну. Рыдлёўкай са дна даставаў тарфяністую гразь, вядром выліваў калатушу, пакуль не дабіраўся да белага глею. Урэшце абкладаў дзёрнам акно і рабіў кладачку да вады. Дзеля гэтага я з поля прыносіў вялізнае каменне.

— Выпраталі,— казаў дзед.— От, цяпер чыстая жыла... Дужэй заструменіцца...

— Дзед, а чаму ты кажаш... пад вербамі? — пытаўся я, гледзячы на залацістыя, расцвіўшыя галінкі дрэва, на якіх звінелі пчолы.— Тут усяго адна вярба.

— А некалі дзве раслі,— адказваў дзед.— Другую ссеклі. І гэту хацелі ссекчы... Бачыш!

На вярбе сапраўды было абсечана голле. Ад гэтага яна неяк пахілілася ўбок. І адзін сук служыў крукам. На гэты крук дзед вешаў берасцяны карэц, якім усе пілі ваду з крыніцы.

Нап'ешся новым карцом сцюдзёнай вады, і запахне бярозавым сокам. Дзед за вясну рабіў не адзін такі берасцяны карэц, бо не адна крыніца была ў нас на прыкмеце.

Была яшчэ крыніца ў так званых Лісіных гарах. Дзед уставіў туды дубовую бочку без дна. Укапаў глыбока і прасвідраваў клёпку ўверсе. Да дзіркі прыладзіў латок і падставіў выдаўбленае карыта. Вада падымалася ў бочцы і пачынала пералівацца па латку ў карыта. Плюскочучы, яна бегла струменьчыкам, а каровы, чуючы гэты звонкі плёскат, самі брылі сюды на вадапой.

А была адна, як яе называлі, Воўчая крыніца. У балоце, між крывых нізенькіх сасонак, расплылася халодная лужына. Ледзяная вада тут была стаячая і ніколі не высыхала. Хадзілі аб ёй розныя паданні. Дзед казаў, што некалі тут ліхі пан утапіўся. Коней ваўкі загрызлі, а яго з вазком праглынула зямля.

А там, дзе ў адным месцы навісаў абрывісты бераг над рэчкай, з-пад каменя біў празрысты струменьчык. Таксама крыніца. Ручай ад яе каціўся па каменнях, дробненькіх, пакрытых іржою. Возьмеш у рукі такі каменьчык — і пальцы фарбуюцца ў рыжы колер. Вада ў крыніцы была надта халодная, рэзкая, аж у горле пяршыла. Калі мы, бывала, пілі тут, дзед казаў:

— Чуеш, як пахне жалезам?.. Багатая наша зямля! Чаго толькі ў ёй няма!..

Напіўшыся з крыніцы, я потым украдкам, каб дзед не заўважыў, даставаў з кішэні свой складанчык і нюхаў лязо, але нічога падобнага да паху вады не знаходзіў. Мне здавалася, што жалеза нічым не пахне, але пярэчыць дзеду я не асмельваўся.

Ведалі мы яшчэ крыніцу на тарфяніку са смешнай назвай «Бабка». Так і гаварылі між сабою: «Пагонім на Бабку», «Пасвілі пад Бабкай». Адзін смех!.. У гэтай крыніцы толькі жабы вяліся. З разгону давалі ў ваду нырца, аж пырскі ляцелі ў бакі... Вада заўсёды мутная, і дна не відаць.

Шмат было ў полі крыніц.

Мяне здзіўляла, што дзед іх так многа ведае і ўмее знаходзіць новыя.

— О, тут ёсць крынічка! — казаў ён, босымі нагамі тупаючы па балоце. І радасна ўсміхаўся. У той дзень або назаўтра ён пачынаў капаць, «пратаць жылу», увіхацца да тае пары, пакуль вока зямное, як ён казаў, не стане глядзець светлай кропляй.

— Крынічкам трэба памагаць выбіцца з-пад зямлі,— казаў дзед.— З крынічкі можна зрабіць вялікую крыніцу. Можна калодзеж выкапаць, ручай пусціць...

Так гаварыў дзед, шукаючы крыніцы, даглядаючы іх кожную вясну. Здаралася, што ў іх хто-небудзь панакідае куп'я або жывёла абтопча бераг. Аднаўляючы крыніцу, дзед казаў мне:

— Калі не даглядаць, зямля перастане дыхаць... Высахне... зробіцца як пустыня...

— А што, дзед, гэта праўда? — падхопліваў я яго думку.— Могуць перастаць усе крыніцы біць? Заплывуць... Што тады будзе?

— Ну, не! — адказваў дзед.— Хто ж гэта дапусціць? Чалавек гэтага не дазволіць! Чалавеку трэба крыніцы...

Аднойчы ў невыносную летнюю спёку, калі смага ўсё перасушыла ў роце, мы набліжаліся да крыніцы пад вербамі. Тут нас са статкам заўсёды сустракаў поўдзень. Змораныя, спацелыя, мы ледзь ішлі. Дзед падышоў першы, зняў свой берасцяны карэц, напіўся і даў мне.

Ох, як прыемна стала пасля некалькіх глыткоў вады! Сцюдзёны, асвяжаючы струмень разліўся па ўсім целе. Свет адразу зрабіўся святлейшы. Жаваранкі званчэй заспявалі. Стомленыя ногі зноў сталі дужыя... Мы сядзелі пад вярбою, і дзед гаварыў:

— От гэты берасцяны карэц, што я зрабіў і павесіў на сучок... Спытай яго, колькі людзей напілося з крыніцы? Дарожкай на ўзгорак ходзяць усе. А на ўзгорку гасцінец. Хто стоміцца ці смага апануе, ідзе сюды!.. Нап'ецца, павесіць карэц і падзякуе ў душы крыніцы... А хто-небудзь і песню складзе... Хто што сэрцам адчуе, той тое і выкажа. Аддзякуе крыніцы!.. Гэта яшчэ няскора будзе, але будзе...

Я заўсёды ўспамінаю дзедавы словы, калі сустракаю крыніцу.

# ГУЛЬТАЙ

У дзядзькі Антона былі надта сярдзітыя сабакі, ды затое разумныя, умелі пільна сцерагчы двор. Самы большы з іх, якога звалі Дунай, мог пусціць незнаёмага чалавека нават у хату, не гыркаў, не брахаў, але не выпускаў на вуліцу да прыходу дзядзькі Антона.

Мне вельмі спадабаліся малыя шчаняты. Дзядзька Антон збіраўся іх тапіць, але я выпрасіў сабе самага лепшага шчанюка. Увесь чорны: і лапы, і хвост, і вушы, а наперадзе і пад жыватом поўсць рыжая, нібыта ён у камізэльцы. Хоць і быў ён яшчэ зусім маленькі, але поўсць на ім ужо тапырылася і кучаравілася, як у Дуная. Я пачаў яго гладзіць, і ён адразу прывязаўся да мяне: бяжыць услед, мызкай тыкаецца, шукае, дзе я.

Я яго паклаў сабе ў прыпол, прынёс дадому. І таксама назваў Дунаем.

Пакуль я рабіў яму будку пад ганкам, Дунай спаў на анучы ў сенцах. Ён прывык да свайго чарапка, з якога еў тое, што я яму прыносіў. А яды хапала якой хочаш. Усё, што можна было ўхапіць са стала, я нёс Дунаю. Ён ласаваўся ўволю і рос.

Мы з ім пасябравалі так, што ніколі не разлучаліся. У агарод, на рэчку, у сяло — усюды я браў яго з сабою. Дунай заўсёды бег і лашчыўся да мяне, ад радасці гатоў быў, здаецца, падскочыць і лізнуць мне твар. Толькі рост не дазваляў яму. Аднак сваю шчырасць і ўдзячнасць да мяне ён умеў выказваць хвастом; так і віляў, так і віляў.

— Не песці яго,— казаў мне дзядзька Антон.— Вазьмі ланцужок і навяжы каля будкі.

— Ён яшчэ малы на ланцугу бегаць,— адказваў я.

І я даглядаў яго, як сам хацеў. Дунай рос, не ведаючы ніякай прывязі. Як гэта я мог разлучыцца з Дунаем? Я садзіўся на лаўку, і Дунай лез да мяне на калені. Тут я памагаў яму хутчэй ускарабкацца і цягнуў за лапы. Прыемна было прыгарнуць да грудзей Дуная, шчакой прытуліцца да яго калматай поўсці. Хацеў ён у хату — я яму адчыняў дзверы. Маці за гэта сварылася, але я даказваў, што сабака не павінен скуголіць

пад дзвярыма. Бывала, я клаўся на посцілцы, і Дунай быў у мяне пад рукой, збоку, каля галавы...

— Што ты ўсё няньчышся з гэтай псінай? — у злосці дакарала маці.— Вунь куры грабуць каноплі... Нацкаваў бы сабаку на іх, прагнаў!..

Я бег узмежкам да канапель са сваім Дунаем і крычаў: «Дунай! Узяць іх, Дунай!» І ён слухаў мяне, кулём імчаўся і брахаў што ёсць моцы. Але як толькі я спыняўся, спыняўся і Дунай. Ён падбягаў да мяне, глядзеў мне ў вочы і віляў хвастом. «Падрасце — паразумнее,— думаў я.— Ён яшчэ малы, нічога не цяміць».

Так і не пасадзіў я Дуная на ланцуг, гуляў з ім, пакуль ён не падрос. Дунай падужэў. Брэх яго разлягаўся па ўсёй вуліцы.

Неяк пад восень нашы выпусцілі ў двор свінню з парасятамі. Усё лета яна была ў хляве. Там і апарасілася. Дзевяць парасятак, беленькіх, тоўсценькіх, спалі каля маткі на саломе, а яна ляжала і з задавальненнем рохкала. І вось яе з парасяткамі выпусцілі з хлява пагуляць. Вароты на вуліцу зачынілі, а з другога боку, каб свіння не ішла ў садок, прыставілі пільнаваць мяне. Тым часам праз плот я кідаў свінні яблыкі-падалкі, якія яна, са смакам чвякаючы, ела. Малы яблык кінеш — тут жа з'есць і зноў просіць, рохкае... Пацеха! Ну, залезеш на яблыню, дастанеш вялікую-вялікую антонаўку... Свіння хоча яе адразу глымануць. Закіне лыч угору, качае, качае яблык, а мне відаць яе чырвоны язык, белыя іклы і зубы. Я сяджу на дрэве і рагачу, пакуль яна раскусіць. Потым зноў з самага верху кіну ёй ласунак. Вядома, з аглядкаю, каб не бачылі дарослыя.

Дунай хутка падружыўся з парасятамі. Свіння на яго нават не звяртала ўвагі. Парасяты акружылі яго, нюхаліся з ім, дурэлі. Дунай, хоць і быў большы за іх, знаходзіў з імі нейкую гульню. То ён іх лапай чапаў, то скакаў цераз іх, а яны лаўчыліся ўхапіць яго за хвост.

Я якраз быў на яблыні, калі пачуў, як піснула парася. Відаць, Дунай незнарок кіпцюром дрэпнуў яго. Што тут здарылася, цяжка перадаць!.. Свіння кінула недаедзены яблык, поўсць у яе на хрыбце стала дыбам. Грозна рохкаючы, яна кінулася да парасят. Парасяты — да яе. А Дунай, дурань, думаў, што з ім усе бу-

дуць дурэць гэтак, як я. Ён лёг на спіну і задраў ногі ўгору. Свіння падбегла, разявіла пашчу і, не доўга думаючы, схапіла яго за жывот. Дунай заскавытаў на ўвесь двор. Я таксама закрычаў немым голасам і зваліўся з яблыні. На двары ўзняўся лямант. Сабака скавытаў, свіння раз'юшана рохкала, парасяты вішчалі...

Я ўжо думаў, што Дунаю не жыць. Свіння магла яго загрызці. Сабаку проста пашанцавала, што свіння не хапіла яго як след за жывот, а толькі злёгку падрапала ікламі. Я падбег і адагнаў азвярэлую жывёліну.

Бедны Дунай!.. Цяпер ён зразумеў: са свіннёй жарты кепскія. Ён затуліў хвост і, ціхенька скавычучы, палез да сябе ў будку. З таго часу ён больш ніколі не гуляў з парасятамі, а на свіней не хацеў глядзець.

Іншы раз чужыя свінні рылі бульбу на агародзе. Я выбягаў з хаты і крычаў:

— Дунай! Кусі іх!..

Але ён, згледзеўшы свіны лыч, палахліва падгінаў хвост і хаваўся куды-небудзь. Ён, мабыць, разумеў, чаго ад яго хочуць, але не мог забыцца пра той першы страх.

І ніякай помачы мне ад яго больш не было. Толькі што лашчыўся...

— Які ён Дунай! — сказаў дзядзька Антон.— Гэта Гультай, а не Дунай. Гаварыў — не песці! Вось і выгадаваў гультая і лежабока.

## ДЗІВА

Цяпер пра розныя здарэнні з жахлівымі прывідамі, слухаючы якія, адчуваеш, як валасы становяцца дыба і мурашкі паўзуць па спіне, зусім не чуваць.

Праўда, перажыткі сякія-такія ёсць. І калі ўспамінаюць пра нячыстую сілу, пра цуды і страхоцці, то і я міжволі ўспамінаю, як калісьці быў сведкам дзіва. Усё сяло тады ў яго паверыла.

Жыў у нашай вёсцы дзядзька Юрка, а жонку яго звалі Крыста. Дзівакаваты чалавек, але здатны на ўсе рукі. Што ні возьме — змайструе. Малатарні рабіў, млын на Пцічы збудаваў.

Яго ўся мясцовасць ведала. Усе запрашалі да сябе.

То той, то другі клікаў на сталярку, і ён увесь час хадзіў па ваколіцы. Крыста нават дакарала яго за гэта:

— Куды ты цягнешся? Дома даглядаўся б...

А ён:

— Бывай, Крысціна з дзеткамі!

Яшчэ, праўду кажучы, любіў ён глынуць чарку. Але так, каб не астацца без памяці. Ніколі яго такім не бачылі. Быў ён кемлівы і дужы. Прывад ад малатарні аберуч падымаў.

Аднойчы сталярыў ён у суседнім сяле Зарэчча. Непадалёк ад нас. Калі ісці нацянькі, грэбляй, будзе кіламетры тры, а калі аб'ездам, дарогай, то будзе больш. Перасыпаў ён там хату, і, як водзіцца, у канцы работы запрасілі яго за стол. Не адмовіўся — такі звычай. Заплацілі яму, пачаставалі, аднак начаваць не ўгаварылі.

Развітаўся ён і пайшоў. Цягнула яго дадому.

Ідзе. А ўжо звечарэла. І наважыў ён ісці нізам, нацянькі. А там каля рэчкі — кусты алешніку, хмызняк. Словам, такія месцы, дзе ўпоцемку хадзіць баяліся. Ваўка можна было спаткаць, страхі розныя нападалі. Але ён надумаўся і пайшоў. Каб бліжэй. Да таго ж чалавек з сякерай. Што яму?!

Ідзе. Раптам бачыць: каля грэблі на той бок рова — баран. Стаіць, бляе. Праходзіць Юрка, а баран на яго: «Мэ-э-э!» Чорны, кудлаты і рогі пакручастыя.

«Чый жа гэта пастух згубіў барана?» — здзівіўся Юрка. А баран, як пачуў чалавека, яшчэ мацней забляяў. Хацеў ён абысці яго, але скаціна, бедная, ажно просіцца: «Не пакідай мяне!» Юрка спыніўся, падумаў: «Можа, гэта зарачанскі, а можа, і загор'еўскі... Давай забяру. Занясу дадому, бо ўсё роўна ноччу яго воўк зарэжа».

Пераступіў гэта ён роў, падышоў да барана, а той сціх. Паманіў яго да сябе, паклікаў, узяўся за рог — не ўцякае. А рогі пакручастыя — уверх, уніз. Бывае ж парода!

Юрка — сякеру за пояс, пачаў падымаць на сябе барана. Не падняць! Такі цяжкі, што ледзь-ледзь узваліў на плечы.

Закінуў і панёс. Дацягнуў дадому, у хляўчук і — туды, дзе стаялі ўсе авечкі. Зачыніў на жалезную засаўку.

Пакуль прынёс — змардаваўся. Ды было позна.

Ён, нікога не будзячы, зайшоў у хату, распрануў світку, лёг і заснуў.

Раніцай прачынаецца і кажа:

— Ну, маці, вастры нож!

А Крыста пячэ бліны і насуплена маўчыць. Гневаецца, што муж учора вясёлы прыйшоў.

— Чуеш, вастры нож! — зноў кажа.

— Ды ўжо ж, як так сп'яна валачыцца, дык ці не лепш дурное што выдумаць,— злосна адказвае Крыста.

— На свежаніну вастры нож! — гукае ён.— Барана зарэжам!

— Якога барана? У нас адны авечкі. Ты ўжо не помніш, што ў цябе ў хляве ёсць.

— Я ўчора,— кажа Юрка,— знайшоў барана. У калюзе, на грэблі. Адбіўся, відаць, ад нечага статка. Іду, ведаеш, а ён бляе. Мабыць, зарачанскі ці загор'еўскі. Цёмна ўжо, ноч... Што рабіць? Не пакідаць жа ваўкам... Я за яго і прынёс. А цяжкі-цяжкі! І мяса, і кажух будзе...

Крыста зноў не верыць, а Юрка апрануўся, узяў нож, павастрыў яго.

Пайшлі да хлява.

Адчынілі яны дзверы. Напуджаныя авечкі адна за адной — быццам іх за шкірку хто выкідае з хлеўчука — на двор павыскоквалі. Жанчына жахнулася, а муж толькі развёў рукамі і крэкнуў:

— Гэ!

Дзіва ўмомант абляцела ўсё сяло. Жонка пераказала Юркавы словы суседцы, а суседка другой суседцы, і так з канца ў канец...

Тым часам Юрка, нікому нічога не кажучы, зачыніў хляўчук і, панурыўшы галаву, пайшоў да балота, быццам ён там учора згубіў штосьці. А ўсе шэпчуць пра тое, што здарылася...

І я чую, як напалоханыя кабеты адна адной перадаюць Юркавы словы:

— ...Ідзе, кажа, па грэблі... Глядзіць... баран падбягае да яго. Бляе авечым голасам. Чорны, кудлаты. Вочы гарыць, і з рота не то пара, не то дым клубамі валіць. Бе-е-е! — і агеньчык бліс-бліс! Рогі жалезныя, пакручастыя.

— Ах, божа мой! Што яму ў галаву ўзбрыло чапаць нячыстую сілу?

— Бачыце ж дурня!.. Кажа, на плечы і прынёс аж

дадому. І вы толькі падумайце, пусціў да сваіх авечак!.. А сёння ўстаў паглядзець, дык от...

Бабы з жахам пазіраюць на Юркаў хлеў.

— А божачка! — кажа хтосьці з дакорам.— Ці ён не бачыў сваімі вачыма?

— А ён дзе цяпер?

— Пайшоў на тое месца.

— Ой, што ж гэта будзе?

І такі страх усіх апаноўвае, што я ўжо сам баюся да Юркавага хлеўчука падыходзіць.

Жанчыны са двара не разыходзяцца. І «знахарка» з імі. Гэтулькі страхоццяў прынёс Юрка.

Тут якраз ён паказаўся. Ідзе! У хату чагосьці глянуў, запытаўся, дзе Крыста, і падышоў да натоўпу. Увесь мокры ад поту. Збегаў на тое месца, дзе ўчора лавіў барана.

— Чаго тут сабраліся? — пытае ва ўсіх.

А ўсе насцярожана патупіліся і пазіраюць на яго баязліва, хоць ён вясёлы і смяецца. І толькі Жыхарыха грозна загаварыла:

— Каго ты ўчора прынёс у свой хлеў?

— Цьфу! — плюнуў Юрка.— Вось прычапілася... Прэч адсюль, «знахарка»! Людзі добрыя, разыходзьцеся!.. Што я прынёс, ад таго ў мяне плечы ў сіняках. Бачыце! Учора я мог там алешыну вывернуць і сюды ў двор прывалачы... Чаго вы не бачылі?..

Крыста трымае Юркаву світку. Плечы ў ёй запэцканы ў тарфяную гразь... А з хлеўчука... тарчыць прынесены Юркам рагаты корч.

Вось дык было дзіва!..

## ГУСЕЛЬ

Быў у нас благі, кусылівы гусак. Ён кідаўся на ўсіх, нават на мяне, хоць я яго, можна сказаць, выгадаваў, пасвіў разам з усімі гусямі на выгане. Бывала, як зашыпіць ды як кінецца, выцягнуўшы доўгую шыю, несучы глюгу нізенька пры зямлі, каб за штаніну ўхапіць ці за лытку ўшчыпнуць,— асцерагайся!.. Ён быў дужы. Малога мог крыламі ўдарыць і паваліць. Усе яго баяліся.

І, як кожны задзіра, з выгляду ён быў фарсісты, характарам — ганарлівы. Ідзе, ростам вышэй за ўсіх гусей, пер'е на ім белае, гладкае, валляк і грудзі дугой, а чырвоную глюгу нясе высока, грозна, і лоб шышкай, як абух у сякеры. Заўсёды ступае павольна, наперадзе і хітра паглядае на бакі. А то галасіста крычыць, каб здалёк усе чулі, што ён чараду вядзе: «гу-сель». За ім следам нізенькія, таксама белыя, адна за адной клыпаюць гусі, смела і задаволена перамаўляючыся між сабой: «Гэ-гэ! гэ-гэ!..» Ён быў важаком у іх, вадзіў чараду на рэчку, а пасля гэтага вёў назад цераз усю вуліцу дадому. Часам, калі я загуляюся з сябрамі, ён мог і ў шкоду гусей завесці: у чый-небудзь агарод. Тады ўжо за гэта пападала і яму і мне.

А гусак умеў адбівацца. Ён нікога не баяўся. Неяк, пад вечар, ён вёў чараду з рэчкі, а насустрач ішоў да вады статак кароў, на ўсю вуліцу, ад плота да плота. Наш гусак не збочыў, не саступіў ім, а нават схапіўся біцца з быком. Бык толькі рогі на яго наставіў і абышоў. Гусі за гусаком збіліся ў кучу, ды так і перачакалі, пакуль пройдзе статак.

Ну і фарсіў ён пасля гэтай перамогі. Крыку было на ўсё сяло. Як толькі заявіцца ў двор, то на ўвесь голас:

— Гу-сель!.. Гу-сель!..

Гэта азначае: адчыняй яму гусятнік, хутчэй давай есці!.. Сам сцеражыся, каб штаніна засталася цэлай. Усе асцерагайцеся! Кот — уцякай! Сабака — хавайся ў будку!

— Гу-у-сель!

Я яго так і дражніў. Ганарлівы быў гусак-забіяка!

Але вось здарыўся выпадак, пасля якога страціў Гусель свой фарсісты выгляд. Як гэта ўсё адбылося, я раскажу па парадку, бо вінаваты ва ўсім быў я.

Летам, калі паспелі вішні, маці загадала мне аднойчы наабіраць іх і засыпала цукрам у вялікай шкляной бутэльцы, якую ў нас называюць «буслам». Гэты «бусел» не даваў мне спакою. Я кожны дзень паглядаў, як бутэлька напаўняецца чырвоным сокам.

— Не чапай! — казала маці.— Гэта настойка!

Калі на кастрычніцкія святы прыехалі да нас у госці дзядзька з цёткай, на стол паставілі настойку, чырвоную, густую. Давалі і мне пакаштаваць, але гор-

кага я не любіў піць. Я не ведаў, чаго вішні згорклі.

Назаўтра настойкі ў «бусле» ўжо не было.

Я ўзяў «бусел», перакуліў дном уверх і натрос праз рыльца поўную міску набрынялых, карычневых вішань. Пах ад іх ішоў нейкі падобны да гарэлкі. Пакаштаваў — горкія... Я выплюнуў і скрывіўся. Што з імі рабіць? Куды падзець?

З поўнай міскай вішань я выйшаў на ганак. Ужо хацеў высыпаць за плот, як на вочы трапіўся гусак. Гусі былі ля садка, а ён адзін пахаджваў па двары, цікаўна пазіраў на мяне.

Я паклікаў яго:

— Це-це-це-це!

— Гу-сель! — закрычаў ён у адказ.

Я кінуў яму мяккую пульхную вішню. Гусак адразу праглынуў. Я нават падумаў сабе: як гэта ён не скрывіцца ад гаркаты? Гусак падышоў бліжэй, нібыта прасіў яшчэ. Я кінуў больш. Ён праглынуў. І зноў глядзіць на мяне.

— Ге-ге! — адклікаецца так мірна, ціха.

Тут я паставіў перад ім усю міску. Гусак ахвотна пачаў кляваць. А я з пацехай пазіраў. Бывала, ён, калі што знойдзе, дык, як певень, кліча да сябе гусей. А то адзін так заўзята ўвіхаецца, што аж хвост падскаквае. Я збегаў у хату ды высыпаў астатнія ягады з «бусла» ў міску.

Мне было прыемна і нават смешна, што гусак харчуецца горкімі ягадамі. Мне і ў галаву не прыходзіла думка, што гэтак я магу пагубіць Гуселя. Я пад канец прыкмеціў, што крылы ў гусака неяк аслабелі і звіслі амаль да зямлі.

Тут мяне паклікаў Сцяпан, мой прыяцель.

— Не бачыў, якога Мірон злавіў шчупака? — крыкнуў ён.— Во, на ўсе ночвы. Хадзем паглядзім!

Глядзець на такія цуды было заўсёды спакусай. Не кожны дзень гэта здаралася. Умомант я схаваў міску, зачыніў хату і пабег з двара.

Мы падзівіліся на шчупака, потым разам пабеглі да рэчкі, дзе Мірон лавіў рыбу. Там крыху забавіліся: памагалі вытрасаць куль невада, за гэта нам дасталося па плотачцы. Пасля памагалі развешваць невад на плот для прасушкі. Той дзень пасля паўдня праляцеў непрыкметна. Я забыўся пра хатнія справы і з мокрымі штанамі амаль пад вечар прыйшоў дамоў.

Пераступіў парог і аслупянеў: каля печы ляжаў абскублены Гусель, і доўгая голая шыя яго перавісала цераз палена дроў. Маці хадзіла па хаце, збіраючыся смаліць гусака. На ім шмат яшчэ тырчала пер'я, а крылы і хвост былі зусім цэлыя.

Я спытаў, што гэта зрабілася Гуселю. Маці расказала, што гусак спачатку кідаўся на людзей, а потым упаў і зайшоўся. Што было рабіць? Кілаграмаў шэсць важыў гусак, сыты, яшчэ цёплы...

Маці пабедавала ды села на прызбу скубці гусака. Заціснула яго між каленяў, і, як снег, з яго пачаў сыпацца пух.

— Дзе ты бадзяўся? — урэшце запытала маці.— Вось напасвіў гусей! Бачыш, што з гусаком. Мусіць, нехта атруты падкінуў.

Я ўспомніў усё, як было, і супакоіў яе:

— Гэта не атрута. Гэта вішні.

— Якія вішні?

Маці здзіўлена паглядзела на мяне, потым на парожні «бусел».

— Ён аб'еўся,— сказаў я нясмела і вінавата.— Я даваў яму есці... вішні.

Мне было шкада гусака. Я крануў яго, і Гусель, нібыта пачуўшы мой голас, трэпнуў нагой і паварушыўся.

— Божухна! — хапілася за галаву маці.— Ах ты, лайдак!.. Вішні ж убражалі... Хмель ад іх... Што ж ты нарабіў?!. Я ж нічога пра гэта не ведала. Во!.. Божухна! Ну, як жа цяпер!..

А ў гэты час, амаль абшчыпаны, хістаючыся, гусак падняўся і пайшоў па хаце. Спачатку ён крэкаў, а потым, як і раней, закрычаў:

— Гу-у-сель!

Мы яго выпусцілі ў двор. Ён кінуўся да гусей, але тыя пачалі ўцякаць ад яго — не пазнавалі...

Але характарам гусак застаўся, як і быў,— забіякам. На другі дзень ён дзеўбануў мне ў пяту. І яшчэ мерыўся, але я ўзбег на ганак.

Маці не ведала, што з ім рабіць. Была ўжо восень. Вырашылі прадаць некалькі гусей.

У наступную суботу Гусель паехаў на рынак. Казала маці, што яго ніхто не хацеў купляць.

— Чаму ён голы? — пытаюцца.— Э-э, п'яніца, прапіў вопратку... Нам такога не трэба...

А гусак сядзіць у кашалі, крычыць ад злосці на ўвесь рынак.

Сяк-так купілі яго, забіяку...

# ДРАПЕЖНІКІ

Наша рэчка разлівалася аж да ўзгоркаў, што на тым баку, і падступала да самых агародаў на гэтым баку. Вада затоплівала на берагах лазовыя і альховыя кусты, якія ў разводдзе вытыркаліся астраўкамі на шырокай вадзяной паверхні.

Звычайна летам рэчка, абагнуўшы наша сяло, яшчэ рабіла некалькі лукатак, утвараючы на лузе куткі. Адзін з іх называўся «Ткачоў куток», другі — «Доўгая лука» і трэці — «Малы брод». Луг быў заліўны, у разводдзе рачныя хвалі не выбіралі дарогі, а каціліся напрамік, затопліваючы ўсе куткі, усю нізіну. Нават крыгі часамі плылі па абалоні. Здаралася, што якаянебудзь тоўстая крыга, наскочыўшы на грудок або зачапіўшыся за бераг з кустамі, затрымлівалася, асядала. Яна яшчэ пасля крыгаходу доўга ляжала і паволі раставала. На лузе былі грудкі, былі яміны, напоўненыя вадой ад паводкі. Асабліва шмат вады заставалася ў старым рэчышчы, якое так і звалі — Старое. Калісьці рэчка, размыўшы бераг, выраўняла свой шлях і пайшла па новаму руслу, а ранейшае, старое рэчышча засталося, як пустое рукаво. Гэта было даўно-даўно. К таму часу, калі я са сваім дружбаком Сцяпанам хадзіў лавіць рыбу на Старым, гэта было непралазнае, парослае аерам, плюшчам і чаротам, багністае месца. Але траляліся тут і даволі глыбокія рыбныя затокі.

Вядома, у паводку ўся рыба ішла гуляць на абалонь, а потым вада пачынала спадаць, рыба вярталася ў свае норы, пад карчы, у віры. Але не ўся рыба вярталася ў рэчку. Заставалася і ў канавах, у ямах на лузе, асабліва на Старым. Тады мы ішлі туды і лавілі яе рукамі. Мы плёхаліся ў лужынах, што засталіся ад паводкі. У красавіку яны яшчэ былі шырокія, як азёркі. Але ўжо ў маі, калі густа-густа пачынала расці

трава, цвілі кветкі, вокны з вадою на лузе звужаліся, меншалі і да сенакосу зусім высыхалі.

Пакуль цвіла лотаць, вада ў азёрах была халодная, а потым штодня ўсё больш награвалася, цяплела. На дне лужын, як і на ўсім беразе, зелянела трава. Яна расла, хоць і была пад вадою. Калі глядзець на яе ў сонечны дзень, то відаць было, як травінкі дыхалі, іскрыліся, нібы жывым срэбрам, кропелькамі паветра. Прыемна было, падкасаўшыся, босаму, улезці ў лужыну і адчуваць, як пад нагамі, між пальцаў, шумліва струменяць і вырываюцца на паверхню маленькія бурбалачкі. А яшчэ прыемней было, нават радасць апаноўвала, калі ў яме раптам штосьці мільгала, кідалася ў бакі, падымаючы каламуту. Вядома, хто мог хавацца ў азёрках. Жабы тут не вяліся: яны ўвечары спраўлялі хоры на брудных копанках, там, дзе некалі выбралі торф. А тут, ля рэчкі, у лужынах, можна было знайсці плотку, акуня, а то і шчупака. Тады мы раздзяваліся і пачыналі боўтаць у лужыне нагамі да тае пары, пакуль стомленая рыбіна не выплывала з вады ўверх жыватом. Здаралася, што замест сеткі-таптухі мы лавілі кашулямі ўзацяжку. Сонца грэла, і да вечара адзенне можна было высушыць.

Аднак самыя рыбныя мясціны, хоць і самыя глыбокія, трапляліся на Старым. Там мы са Сцяпанам ведалі такія яміны, аб якіх нікому было няўцям. Адзін раз мы нагледзелі месца, дзе было шмат шчупакоў, больш двух дзесяткаў. Шмыгалі між імі і плоткі-чырванапёркі.

Лезці лавіць рыбу мы не адважыліся. Дно тваністае, чорнае. А куток гэты надзейна быў схаваны ў чароце і аеры. Мы ведалі, што ямы на Старым не высыхалі часамі да глыбокага лета. Але ў самую спёку тут маглі скакаць па дне нават ластаўкі. Яны купаліся, а над імі кружыліся пчолы. Мы думалі, што пчолы бяруць цёплую ваду на мёд.

Знайшоўшы гэта месца, мы доўга любаваліся на сваю сакрэтную рыбную гаспадарку.

— О, тая вялікая! — казаў Сцяпан.— Во дала муці! Бачыш!

— Лавіць не будзем,— адказваў я.— Няхай падрастуць! Нідзе не дзенуцца. Будзем прыходзіць наглядам. Неўзабаве вада спадзе, можна будзе смела ўлезці.

Так і вырашылі. Праз кожныя два дні, асабліва

ў нядзелю, мы ўкрадкам бегалі да сваёй патаемнай сажалкі на Старым.

Пагода стаяла спякотная, дажджоў даўно не было. Мы былі вельмі рады, што наша яма штодня мялее, нават сталі рабіць корчыкам паметкі. Уткнеш з берага —праз два дні вада адступіла на пядзю-дзве...

Толькі што было дзіўна! Рыбная сям'я, як нам здавалася, меншае, хоць мы кармілі яе, сыпалі крошкі. Мы падкрадаліся з-за куста, каб палічыць шчупакоў. Адзін, два, тры... Іх з кожным днём станавілася ўсё менш. Не было відаць, каб і хто ўнадзіўся красці.

І вось нарэшце мы сабраліся палавіць рыбу. Узялі з сабою вядро. Ідзём лугам да рэчкі. А ў паветры духата... Збіраецца на дождж.

Прыйшлі на Старое. І ад здзіўлення сталі і стаім. У нашай яміне, як на хату велічынёй, побач, адзін ля аднаго, плаваюць сем шчупакоў. Задыхаюцца ў цёплай вадзе, млява варушацца, павытыркаўшы насы ўгору. Хакаюць жабрамі, нібыта не ў вадзе.

Мы іх лёгка пералавілі. Аднолькавыя, адзін у адзін, сонныя, сем штук... І больш ні вока! А колькі іх кішэла, калі вада яшчэ падступала да алешыны! Чаму адны шчупакі? Мы бачылі тут серабрыстую луску плотачак. Дзе яны?

Больш нічога мы не злавілі. Сем шчупакоў! Роўныя, адзін у адзін... Трэба было аднаго шчупака падзяліць. Роўны клопат — пароўну здабыча.

Прынеслі дадому вядро з рыбай. Разрэзалі сёмага шчупака, а ў ім адны рыбкі. Сталі патрашыць іншых — ва ўсіх меншыя за сябе рыбіны. І тут мы здагадаліся: іх засталося сем, бо ўсе сем роўныя. Не маглі даць рады адзін аднаму...

— Ах, драпежнікі! — сказаў мой старэйшы брат.— Пераглыталі адзін аднаго!..

## ЯК Я ВУЧЫЎСЯ СКАКАЦЬ НА КАНІ

Летам у час канікул я памагаў дзядзьку Антону, які працаваў на канюшні. Прагнаць коней на выган, пад вечар зганяць табун да рэчкі. Памагаць дзядзьку ўпраўляцца — было маім самым лепшым заняткам.

Памятаю, першы раз дзядзька Антон падсадзіў мяне на лысага каня, якога і звалі Лысаносам.

— Ён рахманы,— сказаў дзядзька.— Малых любіць, слухае. Вучыся ездзіць на ім...

Сяджу я на кані, трымаюся рукамі за грыву, а ён, сапраўды, быццам даўно мяне ведае і таму не звяртае ўвагі — скубе сабе траву. Пераступіць з нагі на нагу і зноў скубе. Я сяджу высока, усё навокал відаць, і мне крышку боязна. Асабліва калі, ухапіўшыся адной рукой за грыву, а другой не выпускаючы павадоў, паехаў я следам за дзядзькам. Надта страшна здалося мне сядзець гэтак высока над зямлёю ды яшчэ ехаць.

Пазней я больш асвойтаўся з Лысаносам. Неяк ён стаяў на шырокім двары на прывязі, адзінокі, апусціўшы галаву. Дзядзькі Антона паблізу не было. Мне тады захацелася хоць адным пальцам дакрануцца да сівай аксамітнай конскай мызы. Я крыху баяўся. Ажно нічога страшнага не здарылася. Мяккія конскія губы варухнуліся; праўда, вушы стрыганулі наперад, і вялікія вочы ўтаропіліся на мяне. Мы тады нібы зразумелі адзін аднаго! Здаецца, я тады ўпершыню адчуў у сабе смеласць дарослага.

Я хутка прызвычаіўся да каня і нават стаў паганяць Лысаноса: «Но-о!» Крану павады аброці — ён слухае, нават бяжыць. Яшчэ мацней паганю — бяжыць так, што ў мяне аж зубы ляскацяць. Аднойчы дзядзька Антон ссадзіў мяне з каня, а я ступіць не магу — ногі ў бакі раскарачыліся ад доўгага катання.

Неяк раз мне захацелася праехаць на Лысаносе так, як дзядзька Антон. Было гэта надвячоркам пасля дажджу. Калгасны табун якраз пасвілі на скошаным лузе. Перад заходам сонца дзядзька падсадзіў мяне на Лысаноса і загадаў ехаць ззаду. Ён свіснуў на коней, ляснуў пугай і пагнаў іх дадому. Вось тут мне і прыйшла думка: непрыкметна затрымацца, пачакаць, каб дзядзька ад'ехаўся, а потым пусціць Лысаноса галопам і дагнаць табун на скаку. Я ўжо ўмеў ездзіць трушком і, вядома, павінен быў паспрабаваць галопам.

Я прыпыніў каня, і табун неўзабаве пачаў аддаляцца. Лысанос спакойна скуб траву.

Конскі тупат ужо быў ледзь чуваць, тады я крыкнуў на каня: «Но-о!» Ён спачатку не хацеў адрывацца ад расістай пакошы, хрумстаў і не спяшаўся падняць галавы.

— Но-о! — выцяў я яго пяткамі пад бакі. Лысанос неахвотна адарваўся ад травы, пайшоў.— Но-о! — пачаў я падганяць. Лысанос пабег дробна, як заўсёды, трушком. Але сёння мне гэта было мала.— Но-о! — крыкнуў я.— Рыссю! — Мне хацелася праехаць так, як дзядзька Антон. Хоць конь пабег шпарчэй і шпарчэй, я крыкнуў: — Но, у галоп!

Конь кульдыкнуў раз, другі і памчаў.

Ого, як прыемна і хораша імчацца галопам! Не трасе цябе, не падкідае на цвёрдым хрыбце, толькі вецер свішча ў вушах. Ты імчышся, прыпаўшы да конскай грывы, у напорным імклівым галопе. Павады ў руках напяты, у кашулі поўна паветра. Вось і табун паказаўся за паваротам рэчкі...

Але раптам... што гэта? Я заўважыў ручай. Учора яго не было. У спёку ён перасыхаў зусім. І толькі сёння, пасля навальніцы і дажджу, калі рэчка выйшла з берагоў, ён напоўніўся і разліўся па лузе.

«Як жа ехаць па вадзе?» — мільганула ў мяне трывожная думка. І тут я зрабіў вялікую памылку — пусціў павады і ўхапіўся за грыву.

Лысанос адчуў мой спалох. Ён дабег да ручая і перад самай лужынай,— а можа, ён захацеў напіцца,— супуціўся. Нагнуўся, а я потырч паляцеў цераз яго галаву і пляснуўся ў ваду. Ручай быў неглыбокі, і конь абыякава і спакойна перайшоў цераз яго. А выйшаўшы з вады, зноў стаў скубці траву.

Дзядзька Антон, які вярнуўся дапамагчы мне, сказаў так, каб я запомніў на ўсё жыццё:

— Трэба быць смелым... І ніколі не выпускай павадоў, калі сядзіш на кані.

## НІКОГА НЕ БЫЛО ДОМА...

Раніцай усе паехалі на поле, а мяне пакінулі дома.

Пакінулі за вартаўніка: пільнуй хату, пільнуй агарод, каб свінні грады не парылі. Апоўдні з пашы прыйдзе карова — загані ў хлеў. Пастух будзе гнаць статак на падвячорак — выгані карову за вароты. Як выганіш, накапай кошык бульбы на заўтра. Вось і ўсе даручэнні.

Але ў тое лета, памятаю, яшчэ адна адказнасць лягла на мяне: гадаваць малое гусяня.

Вясною маці пазычыла некалькі гусіных яек і пасадзіла ў рэшаце квактуху. Квактуха доўга сядзела, а калі настаў час выходзіць гусянятам, то яны амаль усе аказаліся заморкамі. Жывых было ўсяго двое, ды і з іх адно праз дзень зайшлося.

Апошняе гусяня было жоўценькае, прыгожанькае. Пакуль яно было малое, то бегала ў хаце, лавіла мух, збірала крошкі хлеба і сыру. Мне штодня загадвалі нарваць і нарэзаць гусяняці зялёнай травы і падліваць у спадачак вады.

Гэта быў дадатак да ўсіх маіх даручэнняў, калі не лічыць таго, што я яшчэ даглядаў трусоў.

Да гусяняці я хутка прывык. Яно таксама пазнавала мяне і, калі я заходзіў у хату, звонка ціўкала — «ціў-ціў-ціў» — і бегла пад ногі.

У той дзень, калі з ім здарылася бяда, дома нікога не было.

Я наразаў гусяняці траву дробненька, каб яно не папярхнулася травінкай. І ў гэты час пачуў, як за акном зарыкалі каровы. Наша карова ішла з пашы — мне трэба было бегчы адчыніць ёй вароты. Я хуценька выскачыў на ганак, але тут жа падаўся назад. За каровай ішоў чорны рагаты бык. Гэтага лютага быка баяліся ўсе вясковыя дзеці. Калі ён праходзіў па вуліцы, мы спалохана ўзлазілі на платы і адтуль дражнілі яго Макухай — так звалі яго гаспадара.

Убачыўшы гэта страшыдла, мне нічога не заставалася рабіць, як вярнуцца ў сенцы.

Я ўбег у хату, узлез на лаву, адчыніў у двор акно і з усяе сілы закрычаў:

— Куды, Макуха! Макуха, назад!

Бык нават галавы не павярнуў у мой бок. Тады я клікнуў на дапамогу сабаку:

— Дунай, кусі яго!

Але сабака, мабыць, сам збаяўся Макухі. Ён нясмела пазіраў на мяне і віляў хвастом, седзячы на прызбе. Відаць, яму страшна было адтуль саскочыць.

Я сам займаў надзейнае месца. Праз акно я, колькі хацеў, мог крычаць і пагражаць, ведаючы, што бычыны рог тут мяне не дастане.

Карова адразу пайшла ў хлеў. Бык спыніўся, нібы раздумваючы. Пасля ні з таго ні з сяго ён рогам пад-

чапіў плот, але, відаць, яму не пад сілу было яго зламаць. Тады ён гнеўна рыкнуў і павярнуў назад. Макуха, мабыць, зразумеў, што не туды трапіў, і пайшоў назад на вуліцу. Калі ён ішоў ля акна, я шпурнуў у яго падстаўкай ад вазона. І якраз папаў. Я быў рад сваёй перамозе. Як толькі бык сышоў з двара, я стаў злазіць з лавы.

Лавы ў нашай хаце былі высокія, мне амаль да барады. Так што я злазіў, трымаючыся ля сцяны за край, і не мог бачыць, куды ступяць мае ногі.

Толькі на гэты раз, узрадаваны сваёй перамогай над быком, пагарачыўся. Я саскочыў і адчуў пад нагой нешта мяккае і жывое. Калі я зірнуў пад ногі, то ажно атрупянеў: на падлозе, трэпаючы ножкай, ляжала гусяня. Саскокваючы, я незнарок пятой наступіў яму на галаву.

Я падняў з падлогі цёплы пуховы камячок і адчуў, як ён б'ецца ў маіх руках. Мяне апанаваў пякучы жаль. Стоячы пасярод хаты, я гушкаў на руках гусяня, клікаў: «Вуць-вуць», але яно ледзь варушылася. Гусяняціна вока зацягнулася белай плёнкай. Галава схілілася мне на далонь.

Я ўсё гайдаў яго, як малое дзіця, паіў з рота вадой. Потым вынес яго ў двор, і ніхто — ні сабака Дунай, ні кот,— ніхто не разумеў майго гора.

Але ўсё ж мае слёзы і жаданне, каб гусяня ажыло, былі не дарэмныя. Гусяня ачомалася, заківала галоўкай. Ціўкнула. Я пусціў яго на падлогу — якая радасць! — яно пайшло. Праўда, галоўку трымала набок, пазірала адным вокам угору, прыпадала на нагу, але ўсё ж хадзіла. Гэта былі нязграбныя кругі... Ды я быў рады і таму.

У той дзень, адчуваючы сваю віну, я акуратна выканаў усе даручэнні, усё старанна дагледзеў.

Увечары вярнуліся з поля дарослыя. Было ўжо цёмна, і маці запаліла лямпу. Абудзіліся мухі ў качарэжніку. Прачнулася і гусяня. Яно вылезла з рэшата, заціўкала і пачало недарэчна кружыцца па хаце. Я стаяў збянтэжаны.

— Што гэта? — запыталася ў мяне маці.— Што з ім здарылася? Гусянятка маё!..

— Трусы выскачылі з-пад печы,— схлусіў я.— Адзін ухапіў яго за галаву, і я ледзь адбараніў.

Я пачаў расказваць, як вадой ратаваў гусяня.

Гэта ўжо была шчырая праўда, і маці, відаць, паверыла.

— Абрыдлі мне гэтыя трусы,— сказала яна.— Заўтра ж трэба будзе іх парэзаць. Усіх, да аднаго!..

Вось табе і на! Парэзаць трусоў, маіх трусоў, якія для мяне былі даражэй за ўсё на свеце. Не, з гэтым я ніяк не мог згадзіцца. Я доўга не спаў, а назаўтра ўстаў раненька і пачаў упрошваць маці не чапаць маіх гадаванцаў. Яна ўважыла маю просьбу, усё абышлося добра, і мяне зноў аднаго пакінулі дома...

А гусяня вырасла і пачало несці вялікія яйкі.

Толькі хадзіла [illegible] галавой набок. І пры сустрэчы заўсёды гусь нібы сарамаціла мяне: «Гэ-гэ!..»

Калі я пайшоў у школу, гэты сорам стала цяжка таіць. Неяк, вярнуўшыся дадому, я сеў абедаць. Маці паставіла на стол яечню. Я еў і слухаў, як яна хваліць суседцы добрую нясушку-ґусь.

— Бач ты, а калека ж! — здзівілася суседка.— Галава скрыўлена...

— Наш трус выскачыў з-пад печы і хацеў яе задушыць. Вось каб не ён...— паказала на мяне маці...

І тут мне, як школьніку, ні ў якім разе нельга было далей маніць.

— Я схлусіў тады, мама,— прызнаўся я.— Трус не вінаваты.

І я расказаў усё, як было.

— Так і ведала, што ты нешта выдумляеш,— сказала маці.— Але чакала, калі прызнаешся сам... Думала, хто смялейшы: ці ты, ці трус?..

Маці пераглянулася з суседкай, і яны засмяяліся.

## ВЫПАЎ СНЕГ

Аднойчы раніцай я прахапіўся і ад нечаканасці аж прысеў на ложку. «Няўжо заспаў?» — мільганула трывожная думка.

У хаце было зусім светла.

Гэтымі асеннімі досвіткамі, доўгімі і цёмнымі, я прывык раненька ўставаць, паўтараць урокі і выходзіць з дому так, каб паспець на заняткі.

Яркае святло дня мяне напалохала. Няўжо спазніўся ў школу?

Але над ложкам гадзіннік [redacted] паржавелай гіраю, якую я, устаючы, заўсёды падцягваў, мерна чэкаў, і стрэлка яго паказвала яшчэ не позні час. Ад чаго ж гэта пабялелі столь, ляжанка і печ і сцены адсвечваюць белізной? Я прынік да шыбы падвойнага акна і ўсё зразумеў.

На двары ўчарашнія змрочныя будынкі, сад, платы стаялі аснежаныя, і ў хату ад іх лілося белае мяккае святло. Зямля, стрэхі, агарод накрыліся белым покрывам. Лёгкія пушынкіляталі, кружыліся ў паветры і асядалі на дрэвы, на аголены куст бэзу ў нашым агародчыку пад акном.

Мяне адразу пацягнула з хаты: я надта люблю гэту часіну...

Я хуценька сабраўся, схапіў кніжкі і пабег.

Яшчэ з парога на мяне дыхнула зіма спакойным халодным подыхам. Наўкол сцішылася ўсё. Сырыя вятры доўгай восені, якія штодня надакучліва шумелі ў галлі бярозы і секлі мне ў твар кроплямі дажджу, сёння замоўклі. Шчокі цяпер прыемна шчыпаў бадзёры марозік. А снежная бель адбірала вочы, і на сэрцы ад гэтага рабілася светла і радасна.

Сам сабою набег у думках і завярцеўся на языку верш — леташні ўрок, які наша настаўніца, Ліда Васільеўна, загадвала вывучыць на памяць. Я вывучыў яго і дэкламаваў. І цяпер помню словы:

Мяккі снег лятае пухам,
І канца яму няма.
І нясе сярдзітым духам,
Дзікім сіверам зіма...

З кніжкамі пад пахай я спяшаўся ў школу і глядзеў, як кружацца гэтыя белыя пушынкі, і чамусьці мне яшчэ ўявілася тое, што было летась.

Летась зіма была надта снежная. На вуліцы намяло вялікія гурбы. Платы схаваліся пад снегам, і стрэхі зраўняла з сумётамі.

Я аднае раніцы ішоў у школу па тых гурбах, што вышэй акон, вышэй брамаў. Ішоў на ўзроўні са стрэхамі хат, дзе дымелі коміны, разносячы прыемныя пахі снедання. А дарослыя выходзілі на ганак з вёдрамі і глядзелі на мяне, малога, знізу ўгору. Крочыў з кніжкамі вышэй за ўсіх...

Я нават зачапіўся шапкай за сук Мікітавай ліпы. А Мікітава ліпа стаяла высачэзная, як хмара, над усім сялом. Улетку яе разлапістых галін нельга было дастаць, нават праязджаючы па вуліцы з высокім возам сена. Яна пышна ўздымалася ўгору, а ў той самы дзень пасля мяцеліцы ніжняй галінай сарвала з мяне аблавушку...

У класе Ліда Васільеўна чытала нам пра першы дзень зімы. А я сабе, паглядаючы ў акно, дзе відаць была Мікітава ліпа, сядзеў і думаў, што гэта ж учора яшчэ была восень. А сёння ўжо зіма. Гэта ж ніколі так не адчуеш перамену, як у гэты дзень. Як вясну лета змяняе, не заўважыш. Як лета восень — таксама. А вось як настае зіма — адразу відно з самага світання... Выпаў снег!..

Мы вярталіся са школы, а снег не пераставаў буйнымі пушынкамі сыпацца на дол. Кругом было прывolle белых палёў і прастораў. Мае сябры крычалі пра санкі, пра лыжы. Мы кідаліся снежкамі, смяяліся. Нам было весела разам з гэтай мяцеліцай, і мне ад радасці хацелася пад разгалістай ліпай співаць пра снег, пра зіму...

Зіма, зіма! Ідзі хутчэй, сцялі снягі на поле, на дарогі, на нашу вуліцу! Сып, мяцеліца, круці гурбы, каб я зноў даставаў шапкай дрэвы. Вось якія яны высокія, а заўтра мы памераемся!.. Ідзі, зіма-матуля, каб я хутчэй пабольшаў, каб я падрос!..

Вось так я думаў, бегучы са школы, у той дзень, калі выпаў першы снег, калі ўжо сэрцам адчуў, што нешта мінуў, перажыў, а сустракаю хоць знаёмае, але штосьці такое новае-новае...

## ІРЫНКА

Помню, калі я першы раз ездзіў у горад. Ён быў далёка ад нас. Ехаць збіраліся загадзя. Старанна рыхтавалі драбіны, падмазвалі колы, кармілі каня і выязджалі звечара, каб назаўтра днём быць там.

Паехаць у горад было найвышэйшым жаданнем, вялікай марай для ўсіх нас, вясковых хлапчукоў.

Нарэшце і мне пашанцавала. Маці сказала, што ка-

лі я буду паслухмяны, то ў суботу мяне возьмуць у горад.

Я не мог дачакацца тае суботы. Зборы занялі ўвесь дзень, аж пакуль я не сеў на воз побач з маці. У мяне быў такі намер: не міргнуць вокам, запомніць кожную дробязь за час падарожжа. І ўсё ж, як ні вялікая была мая цікавасць да паездкі, ледзь толькі мы выехалі за сяло, я адразу заснуў.

Прачнуўся, калі ўжо ўзыходзіла сонца і спявалі раннія птушкі. Калёсы нашы каціліся ўзбоч брукаванай шашы, над якою расцягнуліся ад слупа да слупа цэлыя ніты тэлеграфных дратоў.

— А вунь і горад відаць,— сказала маці, калі мы ўз'ехалі на ўзгорак.

Мяне ўсяго пасля сну неяк скаланула ад ранішняй свежасці. Сапраўды, удалечыні я заўважыў белыя будынкі, якія выглядалі надта прыгожа. Там дымелі, як я здагадаўся, коміны фабрык і заводаў, узвышаўся нейкі чырвоны вастраверхі гмах. З гэтае хвіліны я так і не міргнуў вокам.

Чым бліжэй пад'язджалі мы да горада, размінаючыся з машынамі, пераязджаючы жалезны мост, тым усё больш і больш я згінаўся, седзячы на калёсах, што скакалі па бруку. Я аглух, прыціх і не мог вымавіць ні слова. Між высокіх камяніц па вуліцы, нібыта між берагоў ракі, я набліжаўся да чагосьці новага, незнаёмага, што нават палохала. Я моўчкі трымаўся рукой за біла. Палахлівае здзіўленне расло і расло: такога мноства людзей я яшчэ ніколі не бачыў.

Потым маці скіравала каня ўбок, і мы паехалі нейкім завулкам. Затым уз'ехалі на двор, і між высачэзных дамоў хмарка на небе мне здалася далёкай-далёкай. Было як на дне ў калодзежы.

— Прыехалі,— сказала маці.— Вунь, бачыш, акно з краю? Там жыве наш дзядзька...

Я ўжо ведаў, што ў горадзе жывуць нашы дзядзька і цётка, і помніў, як яны прыязджалі да нас у вішні. У іх ёсць Ірынка, стрыечная сястра. Я яшчэ ніколі не бачыў яе, але яна ўжо не раз прысылала мне з братам гасцінцы і прывітанні. Уласна кажучы, мяне і ўзялі таму, што дзядзька з Ірынкай хацелі, каб я прыехаў. Аднак усё незвычайнае і дзівоснае так мяне напалохала, што я глянуў угору, на тыя вокны ў доме і вырашыў не кратацца з месца. Стракатлівым выгля-

дала тут усё — і двор, дзе нерухома стаялі такія шустрыя на вуліцах машыны, і гэтыя высачэзныя дамы.

— Чаго ты сядзіш? — сказала маці.— Падкінуў бы каню сена.

Але я нават не крануўся з месца, і мама сама дагледзела каня.

— Спалохаўся?.. Вось табе і маеш! — сказала яна.— А яшчэ прасіўся ехаць, галаву ўсім адурыў...

— Я пасяджу тут,— нясмела прамовіў я.— Папільную каня.

— Што яго пільнаваць! Нікуды ён не дзенецца, я прывязала... Сынок, не бойся, хадзем! Пазнаёмішся з Ірынкай...

Я не мог сабе прызнацца, што спалохаўся. Магчыма, мне проста хацелася пабыць аднаму, агледзецца вакол. Пасяджу, асвойтаюся, а тады і сам пайду, не трэба мяне за руку весці.

— Ну, не несці ж мне такога байбуса на руках. Сядзі сабе!

Я падняў вочы і заўважыў, што маці пайшла да дзвярэй у высокім доме. Вокны ў ім былі адзін рад над другім, аж у чатыры рады.

Праз нейкі час з тых дзвярэй выбегла дзяўчынка, крыху большая за мяне. З самага парога дзяўчынка закрычала на ўвесь двор маё імя. Што гэта? Можа, яна клікала каго-небудзь другога?.. Не, падбегла да воза і схапіла мяне за руку.

— Добры дзень! Добры дзень! Я Ірка! Будзем знаёмы!..

Дзяўчынка ўвесь час падскоквала, усміхалася. Яна была зусім беленькая, незагарэлая. Кароценькую сукеначку яе раздзімаў ветрык, а коскі, заплеценыя каснічкамі, як два хвосцікі, матляліся за плячыма.

— Вой, які прыгожы хлопчык! Мама, ён вельмі прыгожы!..

Я хацеў адштурхнуць яе ад калёс пасля такой заўвагі, але ў гэты час убачыў цётку, якая ішла да воза. Вушы мае загарэліся ад сораму, бо ніякі я не быў такі, як абзывала мяне Ірка, і ніколі да мяне ніхто так не звяртаўся. Вось яшчэ пахвала!

Цётка была добрая, ветлівая. Я помню яе з таго часу, як яна прыязджала да нас.

Ідучы па лесвіцы, Ірка ўсё тарахцела:

— Ты быў у звярынцы? Ніколі не быў? Хочаш, я цябе павяду ў звярынец? Мама, я схаджу з хлопчыкам у звярынец!..

Хлопчык ды хлопчык! Які я ёй хлопчык? У мяне было імя. Яшчэ дома я ад брата даведаўся, што я ніколькі не меншы за Ірынку. Яна проста важнічае, звяртаючыся да мяне, як да малога. Ірка мне страшэнна не спадабалася. Адразу. Яна то ўвесь час выхвалялася перада мной, то ўсім ганарылася: як яна шмат ведае, якая яна смелая, што яна ўмее.

— Ты ўмееш катацца на веласіпедзе?

Я стаяў і маўчаў.

— Не ўмееш?.. Эх ты! Хадзем на балкон! У вас ёсць балкон?

Але я, як глянуў зверху на двор і ўбачыў прадаўгаватую, у вупражы спіну каня, адразу падаўся назад.

Я не збаяўся, не! Я лазіў на бярозы і не на такую вышыню. Праўда, там было густое голле, а тут — пляцовачка, як ластаўчына гняздо...

— Мама! — закрычала Ірка.— Ён баіцца выходзіць на балкон! Які ён смешны!

Я пачынаў злавацца на яе. Мне зусім не хацелася размаўляць з ёю. Ірка паказвала сваю спрытнасць, а мой кожны крок выходзіў нязграбным. Я адчуваў сябе так няёмка, што на калідоры незнарок зачапіўся і паваліў бляшаную балею, якая стаяла бокам, і нарабіў бразгату.

Выбеглі цётка, маці. А Ірка смяялася з мяне:

— Мама, ён не ўмее выключыць кран. Баіцца крутнуць, бо вада льецца.

Ірка сказала, што я хацеў напіцца вады. Тады цётка ласкава звярнулася да нас:

— Дык вы схадзіце ў сад і напіцеся хлебнага квасу. Вось грошы... Схадзіце, пагуляйце!

Я не хацеў ісці. Але цётка і маці сілком нас выправілі ў сад.

— Хадзем, хадзем! — цягнула за руку Ірка.— Я куплю табе марожанага!

Калі мы ўдваіх пераходзілі вуліцу, Ірка мяне павучала:

— Хлопчык, стой! Ісці няможна! Міліцыянер сварыцца будзе.

А калі я спыніўся і пачаў думаць, за што на мяне

могуць сварыцца, яна раптам з усяе сілы пацягнула далей.

— Пайшлі! Бяжым, бяжы хутчэй! Ты ўсё роўна як казёл... Ой!..

Мне не было калі нават адказаць ёй на абразу. Званілі трамваі, гудзелі машыны. Сонца сляпіла. Ад розных фарбаў на сценах пamаляваных дамоў пярэсціла ў вачах.

Мы ішлі ў сад, а прыйшлі пад тоўстыя, дуплістыя дрэвы, на голлях якіх сядзелі і каркалі адны вароны. Дзе ж тут яблыкі, грушы? Які ж гэта сад?..

Ірка зноў кудысьці мяне цягнула. Навокал стаяў гармідар, што я не мог ні ў чым разабрацца. Паспрабаваў вызваліць сваю руку і ледзь не заблудзіўся. Каб не Ірка, ніколі не трапіў бы на дзядзькаў двор. Аж страх на мяне напаў. Я ўзрадаваўся, пабачыўшы нашага спакойнага каня над ахапкам сена.

— Ой, ты нейкі зусім дурны,— нарэшце сказала Ірка.— Мама, я стамілася. Не магу я больш займацца з гэтым хлопчыкам.

А хто яе прасіў гэта рабіць? Чаго яна прычапілася да мяне? Я глядзець не мог на гэтую ляльку. Усё круцілася і круцілася перад вачыма... Я ўжо не ведаў, куды ад яе схавацца. Мне хацелася пабыць аднаму, разгледзецца, асмеліцца. Я так і зрабіў.

Горад — незнаёмы і чароўны — выглядаў такім жа мітуслівым, як і Ірынка. Я ўжо яго пачынаў не любіць. Ну, ніяк тут нельга было сабрацца з думкамі. Крыўдна рабілася, што выйшла не так, як у маіх сяброў-аднавяскоўцаў. Як яны хораша ўспаміналі пра горад! А што я ім пахвалюся ці раскажу? І ўсё гэта праз Ірку! Яна мне засланіла ўвесь свет.

Аднак гэтай бяды яшчэ было мала.

Пачалі збірацца ад'язджаць дадому, і я пачуў матчын голас:

— Ірынка!

— Ірка, дзе ты? — падхапіў цётчын голас за дзвярыма.

— Ты прасілася паехаць у вёску. Калі хочаш, збірайся, паедзеш!

— А можа, баішся? — пытаўся дзядзька.— Глядзі, каб не каялася...

Ого, дзе там! Ірка ўсюды хацела паказаць, што яна значыць! Забылася нават пра тое, што нядаўна мы хоць

і не пасварыліся, але разышліся назаўсёды, што ніякіх гульняў у нас з ёю і быць не магло!

Пасля дзядзькавых слоў яна як апантаная ўляцела ў пакой, дзе я стаяў ля акна. Ірка схапіла мяне за вушы і, хоць я з усяе моцы ўпіраўся рукамі, пачала цалавацца. Ад сораму і злосці я ледзь не заплакаў.

— Паедзем! Паедзем! Паедзем! — спявала яна адно слова, збіраючы свае ўборы.

Мне здалося, што пасля гэтай паездкі ў горад усё маё прывольнае жыццё закацілася, як сонца за высокія дамы. Прапала маё шчасце, і я нават не мог прыдумаць, як пазбавіцца ад гэтай Іркі. Я з жахам уяўляў сабе, што скажуць сябры, што скажа Сцяпан, калі пабачыць Ірку з яе кароценькай сукеначкай вышэй каленяў. Мяне асмяюць за яе. Гарадская пстрычка!

Мы селі на возе побач. Так пасадзілі нас цётка і мама.

Як толькі выехалі за горад, Ірка адразу пачала прыставаць да мяне. Што гэта? А што гэта? Нават на пень пры дарозе яна сказала:

— Якое цікавае крэсла. Хто тут на ім сядзіць, кандуктар?

Мама растлумачыла, што гэта спілавалі бярозу, і штурхнула мяне — чаму я маўклівы, нібы сыч? Пасля гэтага я спахмурнеў яшчэ больш. Хіба яна не бачыла, што я цярпець не мог яе, фарсуху?

Мы вярнуліся позна ўначы. Ірка спала, а я толькі драмаў, рабіў выгляд, што сплю. Як толькі я сцінаў павекі, мне ўсё здавалася, што калёсы бягуць не наперад, дадому, а коцяцца назад, у горад, які так даўся мне ў знакі.

Назаўтра раніцай Ірка прачнулася раней за ўсіх. Прыбралася, абула чырвоненькія чаравікі і пачала мяне будзіць.

Яна была такая ж, як і ўчора,— зноў цягнула мяне за руку, на двор, у садок.

Першы дзень я сяк-так цярпеў, хадзіў з ёю, а потым сказаў:

— Не буду я з ёю цягацца.

— Як гэта не буду? Чаму? — спыталася маці.

— Не буду, і ўсё!

— Добра ж! — пагразіла мама.— Так цяпер я і вазьму цябе ў горад. Чакай. Не бываць табе ніколі ў дзядзькі і гасцінца не бачыць...

З гэтага часу Ірка хадзіла толькі з мамай. Ці палоць, ці па ваду — яны ішлі ўдзвюх. І спала Ірка разам з мамай. А выдумляць Ірка не праставала, нават жывучы ў нашай хаце. Па-ранейшаму выхвалялася, што яна ўсё ўмее.

— Цётка, давайце я паганю свінні пасвіць.

З якой упэўненасцю і смеласцю яна бралася за абавязкі і клопаты, якія належалі толькі мне! Я хоць і абураўся, але маўчаў. Калі ласка, гані! Я з нянавісцю глядзеў, як яна ўзяла пугу і пагнала са двара на зарэчча нашу свінню з двума падсвінкамі.

Ну, што ж? Для мяне таксама знайшлася работа — я сушыў сена на ўзмежку.

Пад полудзень маці паклікала мяне і сказала:

— Схадзі на зарэчча, глянь, дзе Ірынка. Памажы ёй свіней прыгнаць.

Спачатку я хацеў адмовіцца, але потым перадумаў і пайшоў.

На зарэччы пасвіліся свінні і усяго сяла. У вялікіх лужынах плавалі гусі, качкі.

Выйшаў я на ўзгорак, пашукаў вачыма Ірку. Доўгі час я не мог зразумець, што з ёю здарылася.

Ірка стаяла ля копанкі і плакала наўзрыд. Воддаль са спалохам паглядалі на яе Насця і Галя, дзяўчынкі з суседняга двара, з якімі яна паспела пасябраваць. Я не разумеў, што тут рабілася.

— Чаго ты плачаш? — падбегшы, запытаў я.

Ногі Іркі па самыя калені былі ў чорнай гразі. Чырвоных чаравічкаў, у якіх цётка выпраўляла Ірку, было не пазнаць.

— Хто цябе піхнуў у гразь? — запытаў я.

Але Ірка не магла вымавіць ні слова, толькі кулачкамі выцірала слёзы. У адной руцэ яна трымала пугаўё.

— Кажы, Ірынка! Хто цябе гэтак?..— дапытваўся я.

— Сама,— плачучы, адказала яна.

— Сама? Навошта ж ты запэцкала чаравічкі?

— Свіней шукала... Цё-о-ціны свінні прапалі.

Я глянуў на лужыну, дзе плёхаліся свінні амаль з усяго канца нашай вуліцы, і сярод іх пазнаў сваю Рабую. Праўда, пазнаць яе было цяжка, нават вушы і лыч Рабой былі ў гразі. І цяпер назваць яе Рабой ніяк нельга было. Бакі падсвінкаў блішчалі на сонцы. Іх

таксама цяжка было адрозніць ад іншых. А наша свіння ляжала і, слухаючы размову з Ірынкай, задаволена рохкала. Відаць, што ёй вельмі прыемна было ляжаць у копанцы.

— Нашы свінні тут,— сказаў я.— Не плач, Ірынка! Хадзем памыемся...

Ірка, паслухмяная на дзіва, пайшла за мною. Ішла, але плакаць не пераставала.

Уся мая нянавісць да яе адразу прапала: Ірынка ўжо не была ўсязнайкай. Пад нашымі вербамі над копанкай, на ўсім зялёным, залітым сонцам зарэччы, дзе пасвілі вясковыя дзеці, яна выглядала кволенькай і разгубленай. Адзін я мог ёй памагчы, выручыць і падбадзёрыць. І я памог, як толькі ўмеў. Ірынка адчула тут маю сілу і перавагу.

Я памог ёй разуцца і абмыў чаравікі. Яны зноў сталі чырвоныя і бліскучыя. Затым я прымусіў Ірынку абуцца.

— Я тут не застануся жыць,— сказала Ірынка, усхліпваючы, хоць слёзы і перасталі каціцца па яе шчоках.— Я хачу ў горад.

А мне пасля гэтага здарэння Ірынка, наадварот, зрабілася такой роднай, што я гатоў быў усюды вадзіць яе за сабой. Няхай бы яна аставалася назаўсёды жыць у нас.

Не! Наважыла дадому, і старэйшы брат у суботу завёз яе ў горад. Ірынка пабыла ў нас адзін толькі тыдзень.

З горада брат вярнуўся і сказаў:

— А гэта падарунак табе ад цёткі... Што ты Ірынку пільнаваў. Прывітанне ад яе!..

І паставіў перада мною аўтамабіль. Такі ж, як і сапраўдны, з сядзеннем для шафёра, з кузавам для паклажы. Толькі што маленькі. Але ні ў кога з маіх сяброў такой цацкі не было.

...І зноў у маіх думках горад узнік, такі казачны і прыгожы.

# НАВЫПЕРАДКІ З ІРЫНКАЙ

На другое лета Ірынка зноў прыехала да нас. Разам з цёткай. І прыехала надоўга: пагасціць, памагчы ababраць вішні, як паспеюць.

А вішань у нас шмат і ў садзе, і ў агародзе. Вясной, як цвілі, стаялі белапеністымі дрэўцамі. Пчолы аж раіліся за мёдам, і ўрадзіла ягад чырвана-чырвана.

Ірынка, апранутая па-гарадскому, узлезла на самую большую вішню каля свірна і адтуль пачала кідаць крылатыя самалёцікі з паперы. Іх навыразала яна шмат, папрасіўшы ў мяне спісаны сшытак за мінулы навучальны год. Паперкі, складзеныя аэрапланікамі, латалі, кружыліся, плануючы, пакуль не асядалі на двары або на агародзе. Адзін павіс на суку вішні.

Цётка, як убачыла Ірынчын занятак, што яна высока ўзлезла на дрэва, пачала сварыцца:

— Куды палезла? Што ты робіш?

— Самалёцікі пускаю.

— Што за глупства?! — закрычала цётка.— Гэта ж не наш балкон у горадзе, дзе ты за поручні трымаешся і шарыкі пускаеш. Яшчэ звалішся, злазь! Накідала абрэзкаў. Хто ёй даў паперы?

Усюды валяліся папяровыя самалёцікі са сшытка, спісанага маім почыркам; няёмка было наглядаць, як яна кідае смецце на двор, але ў гэтай забаве я ёй не мог пярэчыць: Ірынка — госця і, наогул, лічылася старэйшай і большай па ўзросту.

— Хто падмятае, каб тут чыста было? — строга спыталася цётка.

— Я,— прызнаўся я.

— Дык чаго ж ты стаіш, апусціў рукавы? Чаму дазволіў ёй засмечваць двор?.. Ты глядзі, а то яна табе на галаве пачне хадзіць! Ты ёй нічога не дазваляй!

Цётка лаянку перавяла на мяне. Нібыта я вінаваты і што сшытак даў, і што дазволіў Ірынцы так высока ўзлезці на дрэва.

Калі яна злезла, гнеўна панурыўшыся, я стаў венікам падмятаць смецце. Цётка зноў закрычала:

— Стой, не пылі! Пасля падмяцеш,— і пачала да мяне крыху ласкавей: — Ты ж вясковы хлопчык. Спрактыкаваны. Твая мама казала, што ты ўсё ўмееш,

ты любую работу робіш. А яна што? У горадзе жыве, усё на гатовым... Падружыся з ёй. Ну, будзьце сябрамі. Навучы яе так, як ты ўмееш. Ну, скажы, што ты ўмееш рабіць?

Я разгубіўся.

— Усё ўмею, што загадаюць.

— Ну, што? Што?

Гэта пытанне, на якое я знянацку і коратка адказаць не мог.

— Усё раблю, што дарослыя робяць... Памагаю маме ва ўсім, што яна скажа... З самага ранку, кожны дзень.

— Ну, што кожны дзень?

— ...Раніцай гусей з гусянятамі на рэчку выгнаць, каб плавалі,— нясмела пачаў пералічваць я.— А ўвечары іх прыгнаць дамоў... У полудзень бульбы накапаць у агародзе. Памыць яе... Падрыхтаваць да заўтрашняга снедання... Дроў насекчы і нанасіць у хату... Карове, як ідзе з поля, вароты адчыніць. А як пастух на чарзе, быць з ім за падпаска. І са свіннямі, і з авечкамі... Усе вясковыя дзеці так могуць, не толькі я... Магу яшчэ і каня пакупаць у рэчцы, калі брат скажа,— пахваліўся я нарэшце.

Цётка пайшла на ганак, а я ўзяў венік — прыбраць двор і вуліцу мой абавязак — і пачаў змятаць нарваныя Ірынкай паперкі. А Ірынка стаяла і майстравала новы самалёцік.

Як паснедалі, мая мама сказала:

— Схадзі, сынок, назбірай шчаўя. Заўтра зварым шчаўя з рабрынкамі.

— Ірынка, чуеш? І ты ідзі збіраць шчаўе! — загадала цётка.— Няхай і яна вучыцца, як трэба збіраць шчаўе.

Я ўзяў сваю торбачку.

— Дайце і ёй торбачку,— загадала цётка.

Мама пашукала і дала торбачку Ірынцы.

Шчаўе збіралі на лузе. Мы з Ірынкай пайшлі разам да кладкі, потым цераз рэчку. Я ішоў, а Ірынка беспярастанку ўсё расказвала. Яна часта любіла выхваляцца, таму я, па праўдзе кажучы, не надта звяртаў увагу на яе гаворку. От, калі яна сама чым-небудзь цікавілася, чаго-небудзь сама не ведала і пыталася, тады я мусіў ёй тлумачыць. Тут я адчуваў свой абавязак перад ёй і цёткай.

— Шчаўе і радыску ў нас купляюць на Чэрвеньскім рынку... На рынку ўжо ёсць памідоры... У нас на рынку прадаюць спелыя ігрушы... Што гэта? Як завецца гэта кветачка?

Там, дзе ляжала кладка цераз рэчку, сярод асакі, над вадой, раслі маленькімі, сіне-бэзавымі гарлачыкамі берагавыя кветкі. Сапраўднай назвы іх я не ведаў, але мы са Сцяпанам называлі гэтыя кветачкі «смактушкі».

— Чаму смактушкі?

— Калі кветачку-гарлачык пасмактаць, соладка ў роце.

— Я хачу смактушку,— папрасіла Ірынка.— Вырві мне смактушку.

Я падкасаўся і палез у ваду, дастаў сцяблінку з сіне-бэзавымі мядовымі гарлачыкамі.

— Соладка, праўда,— пасмактаўшы, сказала Ірынка і ласкава звярнулася: — А гэта што расце?

— Парэчкі.

— Я хачу парэчак.

— Яны яшчэ зялёныя.

— Я хачу зялёных.

— Ад іх аскоміна ў роце,— запярэчыў я.— Так і шчаўя не назбіраем.

— А дзе шчаўе?

— Хадзем пакажу.

Перад намі рассцілаўся заліўны луг, шырокі, з мноствам розных кветак. Яшчэ не настала пара сенакосу, і трава была амаль у наш рост.

— Вось глядзі! — пачаў паказваць я.— Гэтыя цыбуры з дробненькім чырвanaватым цветам і ёсць шчаўе. Яно цвіце. На цыбурах лісточкі. Дык ты зрывай іх каля кораня. Ірві самыя большыя, унізе, самыя лапушыстыя і сакавітыя...

Я сарваў некалькі буйных зялёных лісточкаў шчаўя, згарнуў у трубачку, як гэта я любіў рабіць, і працягнуў Ірынцы. Зрабіўшы і сабе скрутак, я таксама пачаў есці.

— Ну, як?

— Кісленькія,— пакаштаваўшы, сказала Ірынка.— Дай яшчэ.

— Дык ты сама збірай! Я ж паказаў. На, вось!.. А ты жменяй — і ў торбу. Збірай маладыя лісточкі. З дзірачкамі, паедзеныя смаўжамі, не бяры!

— Гэта марудна,— сказала Ірынка.— Я лепш у рот.

— Спачатку назапась дадому, а потым — у рот... Давай, хто хутчэй напоўніць сваю торбу. Ты — сабе, я — сабе!.. Не хадзі за мной па пятах. Вось, вазьмі сабе дзялянку, шукай і збірай!.. Хто больш назбірае!..

Праз нейкі момант я пачуў:

— А што гэта за кветачка чырвоненькая? Во я вырвала.

— Смаляначка.

— Як шмат смаляначак! А гэта што?

— Рамонкі.

— Рамонкі? Гэта на іх можна варажыць?

— Збірай шчаўе.

— А ты ў карты ўмееш гуляць і варажыць?

— Не, не ўмею.

— А я ўмею. Я ўмею ў кінга.

Луг быў усыпаны рознакаляровымі пахучымі кветкамі. Усё цвіло. Чмялі і пчолы лcraталі з кветкі на кветку.

— Ай, жаба! — закрычала Ірынка.— Я жабы баюся.

— Не бойся, яна не кусаецца,— супакоіў я.— Збірай шчаўе!

Але Ірынка не слухалася. Яна або стаяла на месцы, або зрывала якую-небудзь кветку і нюхала. Потым крычала на ўвесь луг:

— Што гэта?

— Не ведаю.

— А гэта што?

— Кураслеп. Ён не пахне.

Тады яна нагіналася, вышчыквала малачайны дзьмухавец. Пухнатыя галоўкі яго ўжо саспелі, надзьмуліся бурбалкамі. Ірынка хукала на іх. Яны тут жа рассыпаліся і белымі пушынкамі разляталіся ў паветры.

Прыпякала сонца. Я бачыў, што з Ірынкі невялікая памочніца ў зборы шчаўя, і стараўся сам і за яе напоўніць торбу.

— Што гэта такое сіненькае? — звярталася Ірынка.— З жоўтым асяродкам.

— Не ведаю.

— А гэта шчаўе ці не шчаўе?

— Шчавук! Ён горкі, пакаштуй і выплюнь. Яго не збірай. Збірай лісточкі, якія табе я паказваў.

Раптам Ірынка закрычала. Расхінаючы траву, я кінуўся да яе. Калі я падбег і зірнуў, то ўбачыў, што яна ледзь не наступіла на птушку. Над дзяўчынкай узляцеў і кружыўся даўганогі бакас. Птушка адна, а потым з'явілася другая, яны то ўсхвалявана ўзвіваліся ўгору, то падалі ўніз. Крык у паветры нагадваў жаласнае кігіканне кнігавак.

— Тут недзе іх гняздо. Асцярожна.

Калі я наблізіўся, то, сапраўды, угледзеў між травы на купіне птушынае гняздзечка, а ў ім чацвёра птушанят, якія варушыліся і раскрывалі роцікі... Дзве дарослыя птушкі кружыліся ў паветры, кідаючыся амаль нам на галовы. Яны ратавалі дзяцей.

— Хадзем! — сказаў я Ірынцы.— Гэта бакасы. Бачыш, яны хвалююцца за сваіх дзетак. Ты шчаслівая. Знайшла іх гняздо. Яны добрыя птушкі. Знішчаюць чарвякоў, слімакоў...

Іле Ірынка не хацела адыходзіць, хацела пакратаць рукой птушанят.

— Не можна! — забараніў я.— Ты бачыш, як птушкі плачуць, хвалююцца. Нашто кратаць дзяцей? Не дазволена чапаць гняздо.

— Чаму? Я знайшла.

— Ты знайшла, малайчына. Але хадзем адсюль! Дзе тваё шчаўе?

У Ірынчынай торбачцы шчаўя было не больш жменькі. І то, калі я пачаў разглядаць, што яна там назбірала, то знайшоў больш лісцікаў шчавуку.

— Хто больш? — запытаўся я.— Што скажам цётцы?

Ірынка маўчала.

Дома госця была гераіня: птушынае гняздо знайшла. Знайшла месца, дзе бакасы вядуцца.

— А дзе тваё шчаўе? — запытала цётка.

— Мы збіралі ў адну торбу,— схлусіла яна.

Яна ўсё расказвала пра птушак з доўгімі нагамі, з доўгімі дзюбамі і як яна знайшла іх дзетак.

У мае звычайныя абавязкі ўваходзіла яшчэ адна марудная работа — назбіраўшы шчаўя, перабраць яго.

— Ат, ты і адзін перабярэш,— сказала Ірынка.

І пабегла на двор гуляць.

Вось тут я зразумеў, што Ірынка — лянуецца. Яна наогул ні за якую не хоча брацца работу.

Селі ўсе за стол і паабедалі. Пасля абеду ў мае штодзённыя абавязкі ўваходзіла назбіраць свінням травы. І не якой-небудзь, а той, якую яны любяць. А любілі яны маладую крапіву, пякучае верхавінне. Я браў кош або ладны мяшок, часам серп і адпраўляўся ў кусты алешнічку, дзікага малінніку, дзе раскошна бушавала крапіва.

— І ты збірайся! — загадала цётка Ірынцы.— Ідзі вучыся, прывыкай да сапраўднай работы.

— Крапіва пячэцца,— усхліпнула Ірынка.

— Крапіва ёсць крапіва. Гэта не пахучая мята.

Слухаючы цётку, я думаў, што і мне даводзілася не соладка ад зялёнай пякучкі. Гледзячы на Ірынчыны рукі і ногі, мне стала шкада яе:

— Дык жа няма другой пары рукавіц. А без рукавіц нельга рваць крапіву.

— Няхай мяшок носіць! — загадала цётка.— Апрані куртачку!

Калі мы выйшлі, я сказаў:

— Не плач, мы ў крапіву не пойдзем. Мы назбіраем другой травы. Свінні яе любяць лепш за крапіву.

Толькі Ірынка і малачай і асот пайшла збіраць так, для прыліку. Яна бегала па дарожцы, клікала сходзіць да гнязда бакаса. Я павучаў яе, як мне дзед казаў, што птушка можа вырачыся свайго гнязда. І дзеткі застануцца сіроткамі.

— А ў нас, у горадзе, у звярынцы пеліканаў і пеліканят глядзі колькі хочаш. Хоць дзесяць разоў на дзень.

— Але ж іх рукамі не чапаюць.

Ірынка мусіла пагадзіцца.

Каля рэчкі яна назбірала каменьчыкаў і там, дзе Сцяпан з вудай лавіў рыбу, пачала плёхаць, кідаць іх у ваду. Мой сябар перайшоў на другое месца. Як да нас прыехала цётка з Ірынкай, наша сяброўства неяк разладзілася.

Я падышоў з мяшком травы да Ірынкі і запытаўся:

— Нашто ты кідаеш камяні?

— Там была рыба.

— Навошта яе палохаць? Няхай гуляе!.. Ты ж бачыла, там сядзеў рыбак з вудай.

— Я хацела забіць рыбіну.

— Каменем рыбу не заб'еш. Яна ўцячэ,— сказаў я.— А калі ты хочаш лавіць, вудзіць рыбу, то ў нядзелю я дам табе вуду і мы пойдзем на рэчку... Наловім плотак, акунёў...

— Давай сёння!

— Сёння — калі ж? Яшчэ бульбы накапаць і начысціць трэба к заўтрашняму снеданню.

Цётка спаткала зноў пытаннем:

— Памагала табе Ірка? Дай ёй несці мяшок. Няхай не ідзе ■ пустымі рукамі! Я казала табе вучыць Ірку, а ты яе не вучыш.

Як яе вучыць, я сам не ведаў. Адказаў цётцы, што няхай Ірка робіць тое, што я раблю. Прымушаць я не буду.

— Ты што зараз будзеш рабіць? — строга запытала цётка.

Ні дзеда, ні мамы, ні сястры, ні брата ў хаце не было — яны, як заўсёды, працавалі на полі. Я павінен быў накапаць, намыць і начысціць бульбы. Ды хутчэй, бо зараз пастух статак прыгоніць з поля.

— За пастуха не турбуйся, я тут каля дому,— сказала цётка.— А бульбы накапайце ўдваіх. Колькі трэба?

— Кош.

— Кош — дык от пароўну. Паўкаша Ірка, паўкаша — ты. Няхай вучыцца! Дай ёй рыдлёўку, дай ёй кош! Пакажы, як намыць, як наскрэбці... Хто хутчэй управіцца, навыперадкі спаборнічайце!

Кашоў у нас хапала, дзед наплёў. Дзве рыдлёўкі былі. Ідучы, я тлумачыў ёй, а яна мяне не слухала. Яна гаварыла сама сабе:

— Мы на рынку купляем толькі маладую бульбу. І смажым, і варым. На рынку ёсць ужо кавуны. Агуркоў колькі хочаш... А ў вас агуркоў яшчэ няма?

— Скора будуць.

Я падышоў да градкі, паставіў кош, аберуч узяўся за дзяржанне рыдлёўкі і пачаў вучыць Ірынку. Я тлумачыў, што буду нагой капаць пад куст бульбы, выварочваць яго з градкі, а яна няхай рукамі разграбае, растрасае і кідае бульбіны ў кош. Так будзе спарней і дружней... Не! Ірынка захацела капаць сама. Адна.

Пачалі навыперадкі, як цётка параіла.

Вядома, я яе апярэдзіў. Ірынка насупілася.

Мылі бульбу ля сяла. Гэта быў брод, і на бродзе мелка і плынь струменіць быстра. Тут плавалі гусі, качкі. Тут, вяртаючыся з поля, пілі ваду каровы. Вада светлая, чыстая бегла па дробненькім жвіры. Яна хутка-хутка змывала чорную зямлю, што наліпла на бульбе ў кашы. Уставіш кош у ваду да краёў, рукамі пабоўтаеш, змыеш, а потым страсянеш на быстранцы. Брудная вада і шалупінне — паплылі. Так зробіш некалькі разоў — у кашы белыя круглыя клубні. Дома толькі вастранькім нажыкам саскрабай і выкалупвай з вочак непаслухмянае шалупінне маладой бульбачкі.

Я так рабіў заўсёды.

...Ірынка спазнілася. Я яе апярэдзіў. Яна, змораная, незадаволеная, не змагла мяне дагнаць.

Ды яшчэ дома, калі мы нажыкамі даскрабалі начыста, Ірынка выслухала ад цёткі вымову:

— Бачыш, у яго бульбіны кругленькія, роўненькія, усё роўна як на рынку купленыя... А ў цябе парэзаныя, пасечаныя нейкія. І ты адстала, спазнілася!.. Табе кепская адзнака.

Затое назаўтра, каб апярэдзіць мяне, Ірынка раней пабегла пад паветку, узяла кош, рыдлёўку, і пакуль я прыйшоў на бульбянішча, яна ўжо сваю бульбу несла на рэчку.

— Паглядзім, хто сёння ўправіцца хутчэй,— ганарліва сказала яна.

Я накапаў у свой кош, прыйшоў на рэчку, калі яна, сапраўды, ужо канчала ўпраўляцца. Ірынка пяткай босай нагі, як таўкачом, мясіла сваю бульбу ў кашы. Таўкла з усёй сілы, пасыпала пяском, потым зноў таўкла і паласкала ў вадзе. Для мяне гэта была навіна. Я бачыў, як шалупінне маладой скараспелкі само адставала і ўсплывала наверх.

Назаўтра снедалі. Міска разварыстай бульбы клубкамі парыла на стале. Усе бралі і елі.

Сядзела Ірынка. Сядзеў і я. І мне, калі браў бульбіну ў рот, папаўся на зуб каменьчык.

Нарэшце брат Пятро ўзяў таксама штосьці з языка, памацаў пальцамі. Затым гнеўна ўпікнуў мяне:

— У нас такога пяску ў агародзе няма. Гэта жвір з рэчкі. Ты што, у вадзе бульбу ў прыцірку са жвірам мыеш? Ну і дадумаўся!

— Не ва ўсіх бульбінах,— сказала цётка.

Ірынка сядзела моўчкі. І я таксама. І яна, і я, і

цётка, а мабыць, і мама ведалі, як Ірынка мяне апярэдзіла.

Ірынка наогул была вынаходлівая.

І школу раней за мяне скончыла. І ў інстытут паступіла.

Але калі тое лета госці ад'язджалі ў горад, мама як сваёй радні сказала цётцы:

— Ірыначка з розумам!.. Толькі трэба яе прывучаць да працы. Няхай вучыцца працаваць. Бо што ў горадзе?! Яна там ходзіць, туляецца, шукае, як кажуць, пятага кутка ў хаце.

# ВАВЁРКА ВЕРАЧКА

Мой брат Пятро ездзіў у лес і прывёз вавёрачку. Зімою вясковыя мужчыны ездзілі ў пушчу Чырвонку, секлі, пілавалі дрэвы і вазілі бярвенне на чыгуначную станцыю Ціханавічы. Гэта былі ў іх лесанарыхтоўкі.

Брат аднойчы, вярнуўшыся, распрог каня, прыйшоў у хату і кажа мне:

— Сёння лісічка хлеба не прыслала. Да цябе сёння лясная госця прыехала. Вавёрачка,— і паказвае адтапыраны кажух на грудзях.— Толькі вавёрка хворая. Яна ўпала з дрэва і моцна выцялася. Будзеш лячыць яе?

Які ж я доктар? Я не ведаў, як лячыць вавёрачку, але, глянуўшы на ляснога звярка, згадзіўся.

— Ёй ножка баліць. Вось ачуняе, тады адвязу яе назад у лес,— казаў Пятро. Асцярожна расперазаўся, расшпіліў кажух.— Вавёрачка ляжала ў гурбе, бегчы не магла. Я думаў, забілася. Узяў у рукі — жывая... Дай, думаю, прывязу табе, можа, вылечыш.

У хаце гарэла лямпа. Напалоханы лясны рыжы камячок прыліп да вязанай рубашкі брата, ніяк не хацеў аднімаць вострыя кіпцюрыкі ад шарсцяных нітак. Маленькая, пушыстая, яна жаласна пішчала.

Калі вавёрачка апынулася ў прыгаршчах брата, то нават пры цьмяным лямпавым святле можна было яе добра разгледзець. Яна ўся ярка-рыжая, а хвосцік шэры, вушкі вострыя і вочкі — два чорныя гузічкі.

Глядзела і нібы нічога не бачыла. Ад сполаху яны не міргалі, ці то лямпа іх асляпіла.

Мне яна адразу спадабалася. Мая дружба з катом і сабакам тут жа прапала. Цяпер яна з'явілася да ваверачкі.

— На! — падаў мне брат лясную госцю.

А калі яна, баязлівая, супакоілася ў маіх руках, я ад радасці разгубіўся. Ваверка суцішылася. Пятро сказаў, што маўчала ўсю дарогу. Ножка папала пад галіну сасны. Бедная, параненая... Мне чутно было, як у звярка калоціцца сэрца. Я прыгарнуў ваверачку да твару, але яна жаласліва запішчала.

— Не чапай, ёй баліць,— сказаў Пятро.— Ёй трэба спакой, прытулак. Зрабі цёпленькае гняздо... І паспрабуй накарміць.

— Яна, як кот, любіць малако,— падказала мама.

Вось з гэтага я і пачаў.

На сподачак з малаком ваверачка не глянула. Затое кот, які швэндаўся па падлозе, хацеў паласавацца ім, але я адштурхнуў нагой, бо ваверка яго спалохалася. Усё не пераставала дрыжаць, хоць у нашай хаце, здаецца, цёпла, печ нагрэта.

— Не рабі гнязда на ляжанцы,— сказала мама.— Звярок прывык жыць у лесе, у холадзе.

Я збіраўся паслаць ваверцы сваю світу за шафай, бліжэй да акна. Мама дала рэшата. Але тут зноў ваверкай зацікавіўся кот. Прэч ката! Я прагнаў яго з хаты. І брат сказаў, што ваверкі з катамі і сабакамі не дружаць. Яе можа падпільнаваць бяда.

Лёг спаць на сваім палку, лямпу патушылі, але сон не браў. Мне ўсё здавалася: ваверка за шафай варушыцца, вылазіць з рэшата, дзе яе пасадзіў на падушачку, укрыў, утуліў старым мяккім ватнікам.

Як у хаце ўсе заснулі, устаў. Босы, навобмацак, дабраўся да шафы. Не, ваверка не варушылася пад ватнікам. Можа, яна памірае?.. Аберуч стаў даставаць яе з гнязда, яна запішчала. Вішчала, пакуль я не прынёс на свой сяннік, лёг пад коўдру і прытуліў да сябе. Ваверачка дрыжала, а сэрца маё таксама грукала.

Потым крыху супакоілася, а я ўсё ляжаў і ўяўляў лес, высокія елкі, сосны. Адна з іх валіцца, а на галінцы сядзіць маленькая ваверачка. Мая ваверачка... Дрэва ўпала ў снег. І ўзняло завіруху. Мяцеліца, мяцеліца...

Я драмаў. І кожную хвіліну прачынаўся...

Раненька, ад'язджаючы ў пушчу, брат Пятро запытаў:

— Як жа ты назваў яе?

— Верачка.

— Верка?

— Ага.

Цяпер Верка не хацела адставаць ад маёй кашулі на грудзях, нібы ўчора ад брата. Пішчала і драпалася. Стала вырывацца, уцякаць. Насілу захутаў у ватнік, пасадзіў у рэшата.

Мне ж трэба ісці ў школу. І я спяшаўся...

Наліў у сподачак свежага малака і паставіў перад Верачкай. Лясны звярок нават не зварухнуўся пад ватнікам. Верачка, чаго ж ты пакрыўдзілася на мяне?..

Адкуль мне ведаць, як вавёрку карміць? Ды яшчэ хворую. У школе ў настаўніцы папрасіў кніжку, дзе пісалася б пра вавёрак. Але такой кніжкі ў бібліятэцы не знайшлося. Была кніжка пра малпачку. Давайце пра малпачку! Настаўніца, даведаўшыся, што мяне хвалюе, расказала: вавёркі любяць арэхі, сушаныя грыбы, яны робяць запасы іх на ўсю зіму.

Я не прызнаваўся сябрам, навошта мне спатрэбіліся арэхі, спытаў усіх. Дома ў Сцяпана ёсць арэхі. І сушаныя грыбы — таксама.

— Мне жменьку. Дай, калі ёсць! — прасіў я.— Шмат не трэба.

— Магу поўную кішэню. Нашто?

— Сакрэт, потым раскажу.

Прыйшоў дадому са школы. Кішэня арэхаў і грыбоў.

Мама абрадавала мяне.

— Выжыве твая Верка. Усё малако выхлебтала.

Я — у куток, дзе стаяла шафа. З рэшата вытыркаліся два вострыя вушкі з карычневай поўсцінкай на самых кончыках і чорненькая мызка. Я дастаў з кішэні грыбок і арэх, паклаў ёй перад носам. Яна чмых — і схавалася.

Ад шчасця, вядома, быў на сёмым небе. Але надта радавацца — рана. Вавёрка не вылазіла з-пад ватніка. Гасцінцаў не брала. Яна быццам не чула мяне. А я ўпрошваў яе. Колькі ні клікаў, падсоўваў найбольшыя арэхі, карычневы баравічок, Верка нерухома сядзела ў рэшаце.

— Вера... Верка... Верачка!

Лясны звярок, насуплены, дзікі, не вылазіў увесь дзень і на вячэру да сподачка з малаком.

Прыехаў з лесу брат. Прывёз тры яловыя шышкі. Шурпатыя, спелыя. Рэшата напоўнілася да краёў. Цяпер тут ляжала многа ўсяго, чаго вавёрчына душа магла жадаць. З гарышча мама дастала і прынесла гарбузікаў, пра якія ніхто, нават я, не ведаў. Усё цяпер перад ёй выглядала, як на рынку, на стале, перад капрызнай пакупніцай. Але госця нічога не кратала. Адно малачко ў сподачку пакаштавала. І то — балазе. Я, седзячы над кніжкай за сталом, нават не прыкмеціў.

— Эх ты, фелчар! — сказаў дзед.— Давай, Пятро, агледзім ёй лапкі. Можа, яна скалечана, не мае сілы вылазіць.

У мамы папрасіў чыстай крамніны перавязаць лапку. Нітак, нажніцы, як для «аперацыі». Брат выстругаў дзве лучынкі, на выпадак пералому касцей. Сапраўды, правая задняя ножка ў Веркі матлялася, як нежывая. Вавёрачка ёю не рухала і не ступала на яе. Жаласна пішчала, калі я браў на рукі. Пры дотыку ў час «аперацыі» яна ўзняла немы піск. Аж кот і сабака прыбеглі. Адкуль яны з'явіліся? Тут жа іх выправадзіў у сенцы.

— Верка, Вера, Верачка,— суцяшаў я вавёрку.

«Аперацыя» была зроблена, ножка ўзята ў ціскі і завязана. Перавязку рабіў Пятро, дзед трымаў у руках звярка. Верка ўкусіла яго за палец, а брата пааб-дзірала да крыві. Я ім пахваліўся, што ў мяне такіх драпін поўна і на руках, і на грудзях.

— Не бяры за пазуху.

— А як ты сюды прывёз? — апраўдваўся перад братам.

І ўсё ж я зноў нанач вавёрку ўзяў да сябе, прыгарнуў, каб сагрэць і ёй цяплей стала. На гэты раз яна менш парывалася ўцячы.

Вавёрка з гэтага дня пацішэла. Мінула яшчэ некалькі дзён.

Неяк, вярнуўшыся са школы, я не ўбачыў Верку ў рэшаце. Які цуд! Вавёрачка ўзлезла на шафу. Сядзела там і пазірала сваімі вочкамі-гузічкамі. Пазірала неяк абыякава, але не сумна. Хацеў дакрануцца — не далася. Наогул, Верка не любіла, каб яе гладзілі. Гэта не кот.

З таго часу Верка пакінула гняздо ў рэшаце. На трох лапках магла ўскарабкацца на шафу. Лезла туды і хворую ножку, забінтаваную ў лучынках, несла нерухома, асцярожна, як не сваю. А злезці адтуль — ні блізка!

Ёй спадабалася на шафе.

Здароўе Верачкі паляпшалася. Лучынкі ёй перашкаджалі. Я хацеў адвязаць — дзед не дазволіў.

Здаецца, усё пайшло весялей. Аднак узніклі новыя нелады. Верачка і не думала злазіць зверху. У хаце — не холадна, хоць на дварэ лютавала зіма. Я старанна паліў ляжанку. Вавёрка скокне па падлозе і зноў карабкаецца ўверх, пад столь. Шкрэбае кіпцюрыкамі па шафе. Сястра гэта заўважыла.

Вавёрка на шафе наладзіла і сталоўку і сметнік. Сталоўка — няхай сабе, а вось другое — сястры не падабалася. Не спадабалася, што ўсё сваё багацце, якое можна было перацягнуць з рэшата, Верка ўзнесла наверх, нават яловыя шышкі.

Ёй там здавалася вельмі добра. Верачка сядзела, пазіраючы на ўсіх чорнымі пацерачкамі. Пушысты хвосцік тарчаў над ёй, нібыта пытальнік. У двух пярэдніх спрытненькіх лапках трымала арэх і час ад часу падносіла яго да роціка. Тады ад вострых вавёрчыных зубак чулася шкрабаценне, быццам дзесьці ў запечку гаспадарылі мышы. Вавёрчына мызка пацешна варушылася.

— Ах, як смачна! — радасна шаптаў я.

На шафе павялічвалася куча смецця. Шалупінне з-пад гарбузікаў і арэхаў, яловых шышак, нават дробныя кавалачкі парванай паперы з майго сшытка. Што ж будзе далей? Яшчэ на шафу паставіць сподачак з малаком? А без малака (вавёрка па кропельцы піла і ваду) хворай нельга. За гармідар на шафе не Верцы, а мне пападзе. Ад дарослых. Асабліва ад сястры. Гэта яе шафа.

Я спрабаваў падмануць Верачку. Злавіў, пасадзіў на падушку ў рэшаце, дык яна мяне зубкамі ўшчыпнула і тут жа, кульгаючы, ускарабкалася на шафу. Штосьці іншае трэба прыдумаць. І я прыдумаў.

Каля печы ў кутку вісела шырокая чатырохвугольная бляха. Мама ў ёй да свята пякла коржыкі. Я папрасіў гэты посуд, каб палажыць на шафу. Няхай ён

будзе пляцоўкай для харчавання Веркі! Размесціцца там і сподачак з малаком.

Пасля гэтага сястра не сварылася за бруд на шафе.

Цяпер Верка зусім не хацела злазіць з шафы і выраклася рэшата. І не ішла да мяне, пад коўдру. Нават калі запрашаў якім-небудзь ласункам. Аднойчы злавіў, нёс... Колькі было піску... Вырвалася з рук, скочыла на падлогу, на трох нагах дачыкільгала да шафы і, скрабучы кіпцюрыкамі, зноў ускарабкалася наверх.

Мне стала крыўдна. Чаго чужаецца? Стаў разважаць сабе. І здагадаўся. Там, у рэшаце, на падлозе, у яе з'явіліся непрыяцелі. А можа, і ворагі. Гэта быў кот. Калі кот недзе быў паблізу, вавёрка на шафе трывожна фыркала і кідалася з аднаго кутка шафы ў другі. Ён ёй не падабаўся. А кот, сапраўды, прыплюшчваючы вочы, неяк хітра паглядаў. Адзін раз пачаў падкрадацца, быццам хацеў злавіць вераб'я. Ён быў вораг... А другі вораг быў сабака Дунай. Калі сабаку са двара ўпускалі ў хату, Верка ўзнімала страшэнны вэрхал. Не зважаючы на хворую нагу, яна пераскоквала з шафы на печ, з печы — зноў на шафу і гнеўна фыркала. Фыркала, непакоілася, хвалявалася. Бляха на шафе служыла сігналам для трывогі. Лапкамі выстуквала па ёй, нібы балабешкай у бубен. Трывога! У хаце няпрошаныя госці, кот і сабака! Яна бразджала, нібыта на барабане: «Прэч! Кот, Дунай, прэч з хаты!»

— Верачка, не барабань! — прасіў я.

Але яна не сціхала. Сабака — той не пярэчыў выходзіць з хаты. А вось кот наравіў схавацца пад ложак або пад печ. Варта ім было апынуцца за дзвярыма, як Верачка пераставала цокаць, і шэры хвосцік яе супакойваўся.

Аднойчы Верка ўзняла трывогу ўначы.

Усе прачнуліся. Мусілі запаліць лямпу...

Час бег — зіма канчалася.

Нарэшце мы знялі вавёрцы лучынкі. Дзед сказаў:

— Цяпер ёй хоць на елку скачы.

— Ці не пара ўжо? — дадаў Пятро.

Толькі я нічога не сказаў. Мне зусім не хацелася развітвацца з Веркай.

Аднойчы яна, мабыць, захацела са мной пагуляць у хованкі. Вяртаючыся са школы, я заўсёды бачыў яе на шафе. Або яна скакала па крузе: з шафы — на вешалку, з вешалкі — на шасток, дзе вісела цыбуля, ад-

туль — на печ, з печы — на шафу. Гэта я называў «кругавілай».

Яна здзіўлена і радасна страчала мяне на задніх лапках, бо я заўсёды прыносіў што-небудзь у кішэні. Хоць скарыначку хлеба. Яна асцярожненька брала ў роцік мой гасцінец і хавала на шафу.

З усімі ў хаце, апроч Дуная і ката, яна дружыла, а са мною — як ні з кім. Мама казала, што Верка чакала мяне. Сядзіць і чакае прыходу...

Прыходжу. Кніжкі на стол. Распранаюся. Вавёрачка не сустракае. За шафай няма. На печы — няма. Агледзеўся наўкол — нідзе няма.

— Верка! — клічу.— Верачка!

Яна ўжо прывыкла да свайго імя. Як выскачыць з дзедавага кажуха, які вісеў за шафай, і — мне на плячо!.. Умасцілася і паглядае. Я даў скарыначку, яна скок-скок і зноў у кажух. Схавалася. Няма!..

Я падышоў да кажуха і пачаў адхінаць крысо. Ажно ў рукаве дзедавага кажуха яна знайшла сабе схованку. Накшталт ляснога дупла. Унутры рукава цёпла, утульна, быццам у гняздзе. Паклічаш, высуне галоўку з вочкамі-пацеркамі — я тут!

— Дзед, у чым жа ты будзеш хадзіць на вуліцу? — запытаў я, даведаўшыся пра вавёрчына дупло.

— А ўжо вясна скора. На кажух мода праходзіць.

Я вырашыў: дзед жартуе. А ён рукаво сваёй апранахі перавязаў наглуха вяровачкай. Цяпер і дно з'явілася ў «дупле». Верка мігам перанесла ў «дупло» свой набытак. І з кожным днём багацце яе павялічвалася. Яна падыходзіла да кожнага, прасіла, жабравала, дасі ёй арэх, зернетка сланечніку — хоп, аднясе ў «дупло» і зноў падбягае, цыганіць: «Дай яшчэ». Няўжо вавёрцы было мала? Напэўна, да гэтага прывучыла халодная зіма ў лесе...

Я ўжо прывык да яе. Браў на рукі, гладзіў, яна не дзічылася. Лапка ў Верачкі не балела, зраслася.

— Верка, Верка! — клікаў я, трымаючы ў руцэ спадачак з малаком.

О, лясное дзіва! Вавёрка выглянула з «дупла» кажуха і адтуль, на адлегласці паўтара-двух метраў, як скочыць мне на локаць! Ды з такой сілай, што спадачак з малаком выпаў з рук. Ад яго па падлозе разляцеліся ва ўсе бакі чарапкі і расплылася белая лужына малака... Агніста-рыжая гарэзніца перабралася мне на

плячо і сядзела хоць бы што. Вочкі-гузічкі глядзелі бадзёра: «Дай яшчэ!..»

Ах ты, свавольніца! Балазе, што ў хаце няма жанчын. Апроч дзеда, ніхто не быў сведкам гэтага здарэння. Няўжо кепская прыкмета?..

Сястра, вядома, не пахваліць...

Набліжалася вясна. Надыходзіў сакавік. Дарогі раскіснуць, і лесавывазка будзе спынена.

Пятро сказаў:

— На тым тыдні мы вязём апошняе бярвенне ў Цìханавічы. Трэба Верку адвезці ў лес. Ножка загаілася. У пушчы яна знойдзе сабе кампанію.

Развітацца з вавёркай? Ісці са школы і думаць, што Веркі ўжо няма? А яна мяне чакала. Ці прыносіў, ці не прыносіў ёй гасцінец, пакажыся на парог, дык яна, дзе б ні знаходзілася, скакала на галаву. Вушанка валілася на падлогу, а яна лапкамі ашчапервала валасы. Лёгенька, не драпаючыся. Ніколькі не балюча. Ёй было цікава перабіраць пасму за пасмай мае валасы. Я сядзеў на лаве, як заварожаны, з вавёркай на галаве замест шапкі. Мне таксама было прыемна. Я слухаў, як Верка расчэсвае чупрыну сваімі кіпцікамі... І паспрабуй пярэчыць! Будзе піск. Яна дурэе на галаве столькі, колькі захоча... Больш таго. Верка залазіла за пазуху. Мабыць, помніла, як я ў марозны студзень грэў яе каля сэрца. Хочаш не хочаш — залезе. Я не даваўся. Шчыкотна... Залезе пад кашулю, за пазуху — суцішыцца, прытоіцца і маўчыць.

Аднойчы Верка сядзела там, за пазухай, а я апранаў світу, схадзіў у склеп, набраў бульбы, прынёс у сенцы, вярнуўся ў хату, а яна там — не варушыцца. Нібыта заснула ў гняздзе...

Прыручаная, свойская зрабілася вавёрачка за гэтыя зімнія месяцы. І мне як нож у сэрца быў гэты загад Пятра.

— Ну, няхай яшчэ пабудзе,— папрасіў я.

— Дакуль? Я ў лес больш не паеду.

— Я аднясу ў Галянішчава, калі ёй надакучыць.

— Там няма вавёрак. Там няма елак. Там няма шышак,— сказаў брат.

— Ёсць елка. З шышкамі! — запярэчыў я.— І арэхаў многа ў Высокім беразе...

— Ну, як дзед скажа,— развёўшы рукамі, звярнуўся да дзеда Пятро.

Дзед падумаў і сказаў:

— Лясны звярок павінен жыць у лесе.

— Няхай да лета застанецца Верачка,— з жалем прасіў я іх.

Ні брат, ні дзед мне нічога не адказалі. Гаворка была не скончана. А назаўтра раніцай Пятро паехаў у лес без ваверкі. Яна адчувала гэта, позна спала ў «дупле» кажуха.

Уся адказнасць за ваверачку цяпер лягла на мяне. Гэта я разумеў і адчуваў. Ды ці толькі цяпер? Я заўсёды клапаціўся аб ёй як ніхто. Нікога так не даглядаў. Кот і сабака нават сталі мяне абыходзіць. Хоць гэта, вядома, дарэмна.

Калі настала веснавая цяплынь, у хаце аднялі падвойныя рамы. Цяпер ваверачцы можна было ўглядацца ў зелянеючы куст бэзу. А далей стаялі рабіна, бяроза. Я не дазваляў адчыняць акно. Хадзіў у школу, а сам баяўся: выскачыць Верка праз фортку, пачне гуляць па дрэвах, тады злаві свавольніцу! Сабака можа падпільнаваць, узніме брэх, напалохае...

Тое, чаго баяўся, здарылася. Выбегла Верка не праз акно, а праз расчыненыя дзверы. Мама ўбачыла, ды — позна.

Задраўшы галаву, я хадзіў па двары і клікаў:

— Верачка! Верка, Верка!

Можа, на бярозе агністы клубочак гуляе? Можа, на грушы ў садзе цешыцца на волі? Можа, яна па страсе дзе-небудзь скача?

Я пытаўся ва ўсіх, можа, хто бачыў, можа, чуў, як сабакі брахалі? Не, ніхто не чуў і ніхто не бачыў. І Дунай глядзеў у вочы, не разумеючы, чаго я хвалююся... Знікла ваверка. Збегла. Прапала!

Няхай бы я брату аддаў адвезці яе ў пушчу... Мне балюча было ўяўляць, што ваверку злавілі, задушылі або разарвалі азвярэлыя сабакі...

— Ваверкі кладуцца спаць, як толькі зойдзе сонца,— сказаў дзед.

— Ты расчыні вокны,— параіла мама.

Расчыніў тры акны насцеж. І сапраўды, як толькі апошні прамень развітаўся з вяршалінай бярозы, пушыстая Верачка скокнула на падаконнік расчыненага акна. І сабакі яе не ўнюхалі. І Дунай праспаў на ганку.

Я працягнуў руку. Яна вінавата падалася да мяне, дружба была дружбай, а потым скокнула з майго пляча ў дзедаў кажух і схавалася ў «дупле». «Нагулялася»,— падумаў я і рад быў, што яна вярнулася.

І ўсё ж пакідаць расчыненымі вокны я баяўся. Адзін раз падумаў аднесці ў Галянішчава і пусціць у арэшнік. Я надта баяўся нашых злых вясковых сабак.

Але не гэта стала небяспекай для Верачкі.

Да нас на лета ў госці прыехала з горада цётка з Ірынкай. Як прыехалі, дык і завялі гарадскія звычкі. Спачатку Ірынцы вавёрачка вельмі падабалася. Але калі Верка да яе не пайшла, пачала ўцякаць, Ірынка змяніла сваё ўражанне. Яна пачала выхваляцца, што ў звярынцы не такіх бачыла вавёрак, не адну, а некалькі.

— У вас тут мух развялося. Цэлы рой! — сказала цётка маме.— Хіба мухаморы яшчэ не растуць? От не прывезлі мы, Ірынка, ліпкай паперы. Ліпучкі!

На вавёрачку цётка сказала:

— Мілы звярок, пушысты! Каўнер да паліто гадуецца... А чаму не ў клетцы? Трэба заказаць у Мінску клетку, такую, як кола. Кола круціцца, а яна бегае ў коле. І тут будзе бегаць... Ой, гэта вельмі пацешна, як вавёрка круціць кола-бегунок. У горадзе вавёрак трымаюць толькі ў клетках. Гляньце, што яна зрабіла з шафай! Падрапала! Вы толькі падзівіцеся!.. Трэба ў клетку, неадкладна!

А мне вавёрку ў клетку саджаць не хацелася. «Лепш я аднясу яе ў Галянішчава,— думаў я.— Пушчу на волю».

Потым і Ірынка пасябравала з Верачкай. Яна частавала яе цукеркамі. Мяккіх цукерак вавёрка не брала, а карамелькі грызла. Але, насмакаваўшыся ўволю, Верка кулём бегла на паліцу ў качарэжнік. Там на паліцы стаяў гладыш з малаком. Яна ўжо не раз у яго заглядвала.

Цётка, убачыўшы, абуралася:

— Яна інфекцыю занясе! Чаму не паставіш ёй спадачак з вадой? Гэта не гігіенічна. Яна можа ўваліцца ў гладыш.

Верка ўлазіла ў гладыш з галавой. Заднімі лапкамі яна трымалася за край. Толькі пушысты хвосцік тарчаў наверсе. І хлябтала ад смагі доўга, прагна...

— Фэ! — сказала цётка.— Каб гэта было апошні раз.

— Яна не ўваліцца,— сказаў я.— А піць ваду я пастаўлю ёй талерачку на падаконніку...

Не падабалася мне, што вавёрачку хочуць заперці ў клетку. «Я не дазволю!» — думаў я.

Але ў той дзень мне трэба было ісці з пастухом у поле. І я пагнаў каровы за падпаска.

Вярнуўся ўвечары. Верачка мяне не спаткала, не скочыла радасна мне на плячо. Яна, парывіста дыхаючы, ляжала на дзедавым кажуху. Вочкі былі зацягнуты плёнкай.

Што здарылася?

Ірынка сказала, што яна яе карміла цукеркамі. Вядома, пасля салодкага ёй піць хацелася. Хацелася глынуць хоць кропельку расы...

Я паглядзеў на падаконнік, дзе пакінуў талерачку, напоўненую вадою. Яна была высушана сонцам. Чаму я паставіў яе тут, а не на шафе?..

Побач стаяла другая талерачка, напоўненая атрутнай вадкасцю. Цётка загадала паставіць таксама на акне «дзеля гігіены». Там у ёй тапіліся мухі. Яны не маглі выжыць ад тае вады, а хіба магла выжыць вавёрка Верачка?..

## ПЕРУНОВЫ СТРЭЛЫ

Чорная хмара сунецца памаленьку, ахінае ўвесь небакрай на захадзе, за ракою. Лес, што сіняй палоскай віднеўся на даляглядзе, растае ў гэтым заўчасным змроку. Нібыта насоўваецца ноч. Набліжаецца штосьці грознае, таямнічае. Перасталі шапацець бярозы, пацямнела вада ў рэчцы, духата ў паветры зрабілася густая, застылая. І вось гэту анямелую цішыню раз-пораз пачалі калаціць грымоты. Далёкія, цяжкія, яны чуваць мацней і мацней. Часцей бліскае маланка. У яе палахлівым бляску відны контуры хмар, закругленыя і вострыя, як вяршыні гор. Успалыхне бліскавіца, асвеціць залацістыя краі воблакаў — і зноў

мрок... Праз нейкі час паветра і зямлю ўскалыхне выбух.

На вуліцы бляюць авечкі. Гэта пастухі загадзя прыгналі статак з поля. Усё жывое хаваецца пад страху. Птушкі знікаюць невядома куды. Толькі дрэвы насцярожана стаяць пад адкрытым небам.

...Так не раз было над нашым сялом, калі надыходзіла навальніца. Улетку навальніцы бывалі часта. Дзед казаў, што іх прыцягвае лес. Бывалі яны і пад восень. О, гэта самыя страшныя навальніцы! Пад восень яны грымяць беспярастанку і абавязкова што-небудзь падпаляць. Аднойчы маланка ўдарыла ў комін хаты. Пачаўся пажар, і ледзь не згарэла сяло.

Каб не здарылася бяда, юшкі ў коміне і вокны перад навальніцай зачыняюць. Я таксама зачыняў, але без такога страху, як Настуля, мая равесніца, дачка суседа. Яна ў навальніцу хавалася за печ ці пад ложак.

Мы са Сцяпанам, дазнаўшыся аб гэтым, смяяліся з яе.

А самі ў навальніцу прыліпалі да шыбаў, не баяліся ніякіх маланак і грому. Толькі ў грудзях нешта ёкала, калі гром каціўся па небе. Асабліва калі ён коцiцца, коціцца ды як грукне!..

Сцяпан сказаў мне, што гэта пярун і страляе ён стрэламі. А страла мае залаты наканечнік. Ён недзе чуў пра гэта. Мы шмат разважалі і нарэшце звярнуліся да нашага дзеда, што ён скажа.

— Вядома, пярун страляе залатымі стрэламі,— сцвердзіў дзед.— Ты паглядзі на яе, як ляціць на зямлю. Агнём зіхаціць.

— І куды яна дзяецца?

— У зямлю ўваходзіць...

— А ці можна зблізку яе разгледзець?

— Ого, каб гэта знайшоўся хто ды сабраў усе маланкі! — сказаў дзед.— Сіла нетароная была б. Магутная сіла. Свяціла б яна людзям, як сонца.

Мы слухалі дзеда і здзіўляліся. Нарэшце я спытаўся яшчэ:

— А чаму перуновай стралы так баяцца?

— Бо яна вялікую шкоду можа зрабіць,— адказаў дзед.— Будынак можа падпаліць, чалавека забіць... Але вы не бойцеся. Малых яна не чапае.

— А вялікая яна? — спытаў Сцяпан.

— Я-то не бачыў, але кажуць, што бывае нават велічынёю з качаргу...

Мы са Сцяпанам дамовіліся наглядаць, дзе стукне пярун. Нейк нам здалося, што перунова страла ўпала дзесьці недалёчка за сялом. Пасля навальніцы мы пабеглі на зарэчча.

Выбеглі на ўзгорак. Стаім, пазіраем. Выглянула сонца. Зелянеюць умытыя дажджом вербы, алешыны. Нідзе нічога не відно. А навальніца ўжо далёка над лесам грукоча...

Але мы вырашылі не адступаць і калі-небудзь усё ж падпільнаваць перуна, куды ён страляе, і знайсці яго стралу.

Так пачаліся нашы пошукі. Як толькі набліжалася навальніца, мы са Сцяпанам беглі да гумна. Там хаваліся пад страху манежа, у якім не было сцен. Седзячы на дышле малатарні, мы сачылі, як рухаецца хмара...

Эх, і прыгожа ж!.. Маланка была для нас чаканай госцяй, а гром — прыемнай музыкай... Якіх толькі маланак нам не давялося бачыць! То нейкія трапяткія, што загараліся і тухлі ў самой хмары, то чырвона-агністыя, то сляпучыя, як сонца. Бывала і так, што маланка полымем успыхвала і знікала, а грому не было. Мы дзівіліся: чаму гэта? Можа, асечка ці страла паляцела з аднае хмары ў другую? Асабліва мы сачылі за тымі маланкамі, што агнявой лукаткай праціналі неба і ўразаліся ў зямлю.

Неяк мы ўбачылі, што маланка секанула ў грушу на полі. Сцяпан і я заўважылі агністую лукатку, якая дакранулася да вяршаліны грушы. А потым ляснуў страшэнны гром, ад якога наўкол уздрыгнула зямля...

Пасля мы расказалі дзеду, што бачылі, як маланка стукнула ў грушу.

— Груша-дзічка — высокае дрэва. У яе часта б'е... Пад ёй не стойце ў навальніцу,— сказаў нам дзед.

Для нас усё было зразумела. Захапіўшы рыдлёўкі і падкасаўшы штаны, мы пабеглі па лужынах да грушы-дзічкі. Яна стаяла ў полі адна-адзінюткая, камель яе быў пры зямлі ў нашы два абхваты. Бывала, пад грушаю мы ласаваліся кіслымі параседкамі.

Але цяпер нас цікавіла другое: дзе тут упала залатая страла? Яе мы бачылі сваімі вачыма. Падбегшы, заўважылі на дзічцы свежую рану. Сук быў ад-

ламаны і з зялёным лісцем ляжаў доле. Зверху аж да самай зямлі на грушы быццам нехта адшчапаў трэску.

Мы доўга капаліся пад грушай. Адну яму вырылі па калена. Увесь час здавалася, што рыдлёўка вось-вось звякне аб залатую стралу. Мы спрабавалі капаць у розных месцах, хоць перашкаджала карэнне грушы. Але так нічога і не знайшлі. Відаць, глыбока ў зямлю ўвайшла перунова страла.

Потым мы са Сцяпанам яшчэ раз падпільнавалі маланку. Схаваўшыся ў сушні, што стаяла на ўзгорку за сялом, мы глядзелі праз невялічкае акенца ў сцяне, як наплывае страшная цёмная хмара. Сівыя пасмы яе цягнуліся да зямлі. Маланкі мільгалі адна за адной. І раптам агнявая бліскавіца ўдарыла ў стог на лузе. Грукнуў гром.

Не зважаючы на лівень, мы памчаліся да стога. Покуль дабеглі, змоклі, але ўбачылі, што верх у стозе пачаў дымець.

Дым, прыбіты дажджом, нік да зямлі. Чуваць быў пах гарэлага сена.

Мы аж абрадаваліся. Значыць, страла сядзіць у стозе. Яе можна знайсці. Але для гэтага трэба шмат людзей, нам удвух са Сцяпанам не справіцца.

Мы пабеглі ў сяло, паднялі крык:

— У шырокай луцэ пярун запаліў стог сена!

Людзі ўмомант пачалі збірацца. З віламі, з граблямі ўсе рушылі на луг, да стога. Мы — наперадзе.

Навальніца мінула, дождж сціх. Рэдзенькі дым ледзь-ледзь віўся над стогам. Ён бы доўга мог так тлець, і не скора пажар выявілі б. Але людзі своечасова пачалі ратаваць стог, расцягваць сена. Я са Сцяпанам таксама расцягваў. Мы баяліся, каб хто-небудзь раней за нас не знайшоў таямнічай стралы... Разгрэблі ўвесь стог. Расцягнулі на бакі мурожнае сена. Толькі ў самай сярэдзіне стажарышча сена гарэла. Калупаючыся ў гэтай чорнай, дымлівай кучы, мы яшчэ не трацілі надзеі ўгледзець бліскучы наканечнік ці хоць віламі крануць стрыжань стралы. Але дарэмна!

Усе нам дзякавалі, хвалілі, што мы не далі стогу згарэць, і тым не менш настрой наш быў сумны, панылы.

У тую восень мы пайшлі ў школу. Пасябраваўшы з кніжкамі, зразумелі, што памыляліся. Але дзедавых

слоў пра магутныя маланкавыя стрэлы мы не забыліся. Яны былі справядлівыя.

...Цяпер увечары ва ўсіх брыгадах нашага калгаса зіхацяць электрычныя лямпачкі, як іскры маланкавай стралы. Па праекту Сцяпана калгаснікі пабудавалі гідраэлектрастанцыю. Вось і сабраў ён усе маланкі, што стралялі над намі.

А я на ўсё жыццё спадабаў навальніцу. Як загрыміць гром, як пакоціцца па небе, дык нібы чуеш моцную смелую музыку, якая навявае ўспаміны, абуджае сны маленства.

# ФАЦЭЛЯ

Вясной у Лісіных гарах, дзе зямля была неўрадлівая, ляжала дзірваном, нечакана для многіх дзядзька Лаўрэн і дзядзька Антон узаралі лапік поля і штосьці пасеялі. Я не ведаў, што там пасеялі. І ніхто не ведаў. Толькі ведалі Антон з Лаўрэнам, якія ўзорвалі, баранавалі і засявалі там нейкае зелле.

Дзядзька Лаўрэн і дзядзька Антон былі пчаляры. Яны даглядалі пасеку. Навошта ж ім спатрэбіўся палетак-дзірван?

З дзядзькам Лаўрэнам у мяне былі добрыя адносіны. Я яму часам чытаў кніжкі, а ён мяне частаваў мёдам. Таму калі я запытаўся, што гэта будзе расці ў Лісіных гарах, дзядзька Лаўрэн, нібы па сакрэту, сказаў:

— Меданосіца. Меданосіцу мы пасеялі. Пчолкам мёд будзе даваць... Вучоная назва — фацэля. Чытаў пра такую?

— Не, не чытаў.

І з гэтага часу для мяне стала запаветнай гэта мясціна.

Лісіныя горы — не такія ўжо горы. Гэта ўзгоркі, непрыгодныя для пасеву збажыны. Яны густа зараслі бярэзнікам, лазою. Трапляліся рабінкі, каліна...

Сюды мы хадзілі ў арэхі. І, вядома, шукалі, ды ніякіх лісіных гор не знаходзілі. Назву такую насіла гэта месца з даўніх часоў. І дзядзька Антон, і дзядзька Лаўрэн не памяталі, каб тут вяліся лісы.

На маёй памяці Лісіныя горы нагадвалі зялёны астравок на шырокім заліўным лузе каля рэчкі. Тут можна было знайсці суніцы, пад восень — баравік. А больш за ўсё Лісіныя горы славіліся лекавымі травамі. Тут раслі і цвілі такія кветкі, якім і назвы ніхто не ведаў.

Сюды прыходзілі дзяўчаты збіраць ландышы, спявалі, вілі вянкі. Тут расла чараўніца фіялка.

Які тут улетку быў духмяны пах! Спынішся. Перадыхнеш... Галава аж кружыцца ад водару кветак. З вясны, усё лета, пакуль не надыдзе пакос, тут быў чароўны, нібыта райскі, куток.

Спяваюць птушкі.

Гудзьма гудуць пчолы.

А цяпер вось тут прыжылася меданосіца. Яна вырасла вышэй за лубін. Расцвіла ў канцы мая. Цвет яе быў цьмяна-васільковы. На крохкіх сцяблінках лісцікаў амаль не было, яны тарчалі рабінавымі лапікамі. А плецены яе стручок, нібы колас, распускаў кветачкі з пяці пялёсткаў і з доўгімі тычынкамі пасярodку. Пахла яна соладка. Сапраўды як мёд. Гэты пах запаланіў усе Лісіныя горы. Пчолы сюды пачалі злятацца, як на кірмаш. Паветра напоўнілася пчаліным звонам. І гэты звон стаяў такі працяглы і густы, што мне з дзядзькам Лаўрэнам трэба было на ўвесь голас размаўляць, каб пачуць адзін аднаго.

Лаўрэн з Антонам сюды прывезлі дзесяць вуллёў. Наставілі на палетку, як на пасецы. І пільнавалі па чарзе. Калі чарга была Лаўрэна, я таксама наглядаў за пчоламі, лежачы ў траве. Дзівіўся, як яны тут кружацца, гудуць, шчыруюць ад відна да відна.

А Лаўрэн казаў:

— Калі ад кветак да вулля далёка — гэта нядобра. Дарога — яна і ёсць дарога. Пчолка морыцца. У доўгім палёце крыльцы ў яе хутка ператруцца, яна ўпадзе. Без пары загіне... А рабочую пчолку трэба шанаваць, клапаціцца аб ёй, даглядаць.

Мне падабаліся разважанні Лаўрэна.

Тым часам сонца ўзнімалася вышэй. Станавілася на полудзень. Высыхала ў траве раса. Колеры — зялёныя, сінія, жоўтыя, вогненныя — нібыта ў вясёлцы, мяняліся, пераліваліся, пакуль раса не знікала. Пакуль кроплі не выпарваліся ў паветра.

Мы ляжалі, а трава навокал стаяла, як лес. Колькі

тут было розных травінак і красак! Адны цвілі, другія адцвіталі, трэція на цвет закладаліся. Тыя, што адцвіталі, насенне спялілі, а некаторыя і спелі, і зноў цвілі. Канюшынка-дзяцельніца магла цвісці ўсё лета. Яна слалася пры зямлі белым цветам. А чырвоная — буйнымі галоўкамі выглядала са старой травы, якая ад вільгаці і расы была такая цяжкая, аж палягала. Чырвоная канюшына таксама другім цветам магла цвісці, але ён быў не такі пахучы, волкі.

Званец на драцяністым сцябле стаяў строма. Яго насенныя кішэнькі-лапатачкі пачыналі жухнуць. Усе травы, што адцвіталі, жоўклі і сохлі. Толькі рамонкі не баяліся спёкі. Яны хіліліся ад ветру, быццам дзівіліся на ўсю гэтую мураву, шукаючы прамень сонца. Званочкі выглядалі маленькімі сінімі вочкамі. Каторы раз закладваўся на цвет залаты малачай!

Высока над гэтым травяністым лесам стаяла мятлічка. Яна ростам абагнала ўсіх, нават зязюльчыны слёзкі і кмен. Сваімі гонкімі сцяблінкамі мятлічка мне чамусьці нагадвала стромкія, адзінокія сасонкі ў бары — такія рэдкія, стройныя сцябліны калыхаліся ад подыху ветрыку.

А разгалісты кмен стаяў каржакавата. Ён ужо адцвіў. Падбел, такі ж на выгляд, як кмен, яшчэ красаваў. Але ён таксама стаяў спакойны і абыякавы да чмялёў і матылькоў. Усё роўна з іх ніхто не сядзе на яго белае, непахучае сітца. Хоць чаму? Знаходзіліся ахвочыя казюлькі пасядзець і на ім.

Над усёй гэтай зялёнай, квяцістай лугавінай лятаў цэлы вырай казюрак, ад ледзь прыкметных мушак да вялізных шызых стракоз.

Аж пошчакам аддавалася тарахценне конікаў. З гэтага строкату конікаў, пчалінага звону і шапацення траў складалася песня лета. Музыка, якую пачуеш, калі прыпадзеш да зямлі ў Лісіных гарах і сцішышся ў траве.

Палетак меданосіцы быў самы прывабны для ўсёй гэтай казюры. Ціхенька падляталі і садзіліся на бледна-сінюю кветачку стракозы, лупатыя, са шклянымі або залацістымі крыльцамі. Але што стракозам ці матылькам? Мёд ім не патрэбен. Пасядзяць і зноў пырхнуць. Ціхенька, нячутна паляцяць, як і прыляцелі.

Музыку Лісіных гор дапаўнялі сваім зумканнем і злыя, лютыя стварэнні. Калі наставала спёка і трымце-

ла марыва, то над травой і кустамі разам з пчолкамі, чмялямі і матылькамі лятала ненажэрная заедзь: авадні, сляпні і ўсялякія мухі. Ты ляжы, наглядай, як пчолкі працуюць, а сам будзь пільны і чуткі, каб за шчаку ці за лытку не ўкусіў авадзень. Ды што авадзень! Той, падлятаючы да цябе, гудзеннем сябе выдасць. Яго адразу заўважыш і прагоніш. А вось плоскі шэры сляпень — той спадцішка мог падкрасціся і ўцяць балюча нават праз кашулю. Мог і камар, разамлелы ад паўдзённага сонца, не дачакаўшыся змроку, зазвінець над вухам. І ўся гэта заедзь, як саранча, таксама жыла ў траве, як у лесе. Хавалася пад лісцікамі, тулілася да цявінак. Адны разбойнікі, як авадні, днём ляталі смела, другія крывасмокі дрыжалі ў цяньку, чакаючы вечара.

Дружная і спорная праца была толькі ў пчолак. Яны старанна, з песняй, ладзьбавалі каля кожнай кветкі. Пчаліны кірмаш. Гледзячы на яго, можна было цешыцца ў душы. І адначасова смешна было глядзець, як непаваротліва і няспрытна ўпраўляліся над кветкамі чмялі.

Чмялёў таксама было шмат. Шэрыя, рыжыя, чорна-жоўтыя. Лугавыя, лясныя. Адусюль. Некаторыя былі такія велічэзныя, што зблізку нават палохалі. Аж кветка згіналася пад цяжарам. Яны імкнуліся залезці ў сярэдзіну кветкі — гулі, злаваліся, але вяночак пялёсткаў перашкаджаў ім. Нічога не заставалася, як устрапянуць крыльцамі і памчацца далей.

Пчолкі збіралі нектар адмысловым хабаткам...

— Бачыш, якія ўмелыя! — казаў дзядзька Лаўрэн.— Нанясуць мёду нам з розных кветак. З ліпы — ліпай будзе пахнуць. З грэчкі — грэчкай... А з фацэлі — асобы гатунак. Вось пакаштуеш!

Мне так падабалася ў дзядзькі Лаўрэна, што я сам завёў пасеку. Сапраўдную пасеку. Толькі не пчол, а чмялёў.

...Касілі луг. Косамі, касілкамі. А я памагаў сушыць сена. Зграбаў у копы. І на пакошы бачыў разбураныя чмяліныя гнёзды. Незнарок касцы або касілка, косячы, разразалі купіну, у якой было чмялінае гняздо. Ляжалі з вашчыны круглыя соты, якія чмялі напаўнялі мёдам. Тут жа гаспадарыла чмяліная матка, гадаваўся маладняк. Між лугавых кветак ім добра жылося ўсё лета. І вось — на табе!

Мне шкада было бачыць, як разварушаныя чмялі сіратліва кружацца над сваёй разбуранай хатай. Чорныя лясныя чмялі — тыя глыбока хаваліся ў норы. Тым не страшна была каса.

Што я прыдумаў?

У бляшанцы з-пад кансерваў прабіў збоку тры дзіркі. Велічынёю як чмялю пралезці, нібы пчале ў лятку вулля. На лузе сабраў соты чмялёў і разам з мяккай, як мякіна, саломкай паклаў іх у бляшанку. Пакінуў бляшанку адчыненай аж да вечара. Калі сям'я нанач сабралася разам, я зверху накрыў яе дошчачкай. А дошчачку-фанерку — цаглінай. Ну, хіба не домік? Не горш, чым Лаўрэнаў вулей.

Гэты домік я занёс у Лісіныя горы. Паставіў каля дубка вочкамі на палетак меданосіцы. Назаўтра занёс яшчэ адзін домік. І такіх «вулляў» у мяне сабралася некалькі.

Чмялі прыжыліся. Яны лёталі на пошукі, збіралі мёд. Я нават падглядаў іх, як дзядзька Лаўрэн свае вуллі.

У нядзелю, падняўшы цагліну і фанерную дошчачку, саломінкай каштаваў нектар. Было і соладка. Было і горка, калі ўспухала шчака ад чмялінай «ласкі».

І ўсё ж занятак гэты быў вельмі прыемны. Я рабіў усё так, як дзядзька Лаўрэн.

Шкада, што набліжалася восень.

Спачатку адцвіла меданосіца. Яна цвіла доўга, дзён сорак, але ў канцы жніўня на кволых сцяблінках яе, дзе свіціліся бледна-васільковыя кветачкі, з'явіліся бурыя, сухія каласкі з насеннем.

Тады я перанёс сваю пасеку ў садок. Але і тут чмялям не было ратунку. Я пайшоў у школу. Пасыпаліся асеннія дажджы, і насталі халады. Мая пасека заціхла на зіму.

Зімой мы з дзядзькам Лаўрэнам яе ўспаміналі. Калі ён частаваў мяне фацэлевым мёдам, нам пахлі кветкі Лісіных гор, перад вачыма рассцілаўся блакітны палетак і гучала музыка лета.

# ПАД БЯРОЗАМІ

Цёплы ветрык дыхае ў твар, нясе з сабой вясновыя пахі. Пасля ўчарашняга спорнага дожджыку сонца грэе старанна, і гэты ветрык патыхае водарам абмытай зямлі. Далячынь палеткаў дыміцца параю. А ў сінім небе — птушыны спеў.

Лёгка і мякка ступаюць мае босыя ногі па асеннім ворыве. Побач пагойдваюцца, цягнуцца дзве бараны «зігзаг», прымацаваныя да стальвагі звонкімі ланцужкамі.

— Но-о! — падганяю коней і спрытна падскокваю, каб адной нагой ступіць на барану. Не для таго каб пад'ехаць, не, а каб прыціснуць яе і выдраць увесь пырнік, што ўжо ўсхапіўся кусцікамі і зазелянеў. Якое ж гэта прагнае пустазелле! Яно моцна перапляло дзірван, дзе былі межы.

Услед за мною на такой жа парцы коней бaрануе Сцяпан. За Сцяпанам — Васіль. А за Васілём — дзядзька Свігач. Мы — падлеткі. А ён — старэйшы між нас, пасівелы чалавек, вядомы на вёсцы гаспадар.

— Будзеш між іх, баранавалокаў, за брыгадзіра,— сказаў яму раніцай старшыня калгаса.— Заскародзьце пад бярозамі, ад дарогі да балота.

Вось мы і скародзім. Нам трэба пабаранаваць поле ў тры сляды. Два разы — удоўж, адзін раз — упоперак.

Пад бярозамі — назва палетка і ўрочышча. Тут праходзіць гасцінец на захад. Пры гасцінцы абапал стаяць старасвецкія бярозы, пасаджаныя, як кажуць людзі, яшчэ «за царыцай». Калісьці дрэвы абступалі ўвесь шлях, а цяпер яны вельмі парадзелі. Адны пастарэлі, высахлі, другія паламала бура.

Нашы бярозы — гэта цэлая прысада стогадовых дрэў. Пераплёўшыся голлямі, яны высока ўзнімаюцца над праезджай дарогай. Калі, барануючы поле, падыходзіш да іх і заварочваеш коней, чуеш радасны шум і гоман. Шуміць густое лісце. Спяваюць птушкі.

Воддаль, усцяж гасцінца, асобна растуць яшчэ чатыры векавыя бярозы. Яны таксама перашэптваюцца, але цішэй. Зусім наводшыбе стаіць адзінокая старая

бяроза. Яна ледзь шэпча. Белы ствол яе пачарнеў. І ў яе галлі бываюць госці — толькі вароны.

Вось каля гэтай пахілай старасвецкай бярозы здарыўся выпадак, пра які мне хочацца расказаць.

Як вядома, самастойная праца, даручаная старэйшымі, надта ўзвышае падлетка. Ты ганарышся ёю. Чым цяжэйшая работа, якая пад сілу толькі дарослым, тым большы адчуваеш гонар. Я і мае сябры Сцяпан і Васіль не баяліся ніякай работы. Праўда, да гэтага працавалі дома, з бацькамі. Вялікім і пачэсным даручэннем здалося нам вясновае баранаванне поля. Ты не толькі працуеш па-даросламу, але і адказваеш, як дарослы, за коней. Тады якраз пачыналіся першыя крокі супольнай працы, калгаснай працы, і ўсе мы гарэлі вялікім энтузіязмам. Што такое працадзень, мы не ўяўлялі сваім розумам.

Працаваць! Працаваць, як дарослыя, да стомы — вось што было нам прыемна.

Яшчэ ўранні, калі мы цягнулі сюды бароны па гасцінцы, дзядзька Свігач, спыніўшыся, сказаў:

— Наперадзе пойдзеш ты. Потым — Сцяпан, за ім — Васіль. Я — ззаду.

Ён кашлянуў, і мне спадабаўся яго сталы, паважны кашаль. Ісці наперадзе з баронамі не так ужо і проста. Дзядзька Свігач даверыў мне рабіць першы след. Хлопцы будуць ісці за мной. Ён як старэйшы будзе ісці ззаду, сачыць за намі, наглядаць, каб мы не дапускалі агрэхаў.

І вось я іду збоку ля барон. Лейцамі я магу скіраваць сваю парку куды хачу — направа і налева.

Вее ветрык. Варушацца конскія грывы. Я сачу, каб пастронкі ў коней ад хамута да каромысла былі нацягнуты, як струны. Добра, калі парка ступае нага ў нагу і ідзе грыва ў грыву! Прыемна на сэрцы.

Гадзіны праз дзве ў мяне штосьці стала не ладзіцца. Мяне дагнаў Сцяпан. Васіль — Сцяпана. Што гэта? Коні занараваліся? Але я ведаў, што коні мае не нараvістыя. Сам жа па прапанове дзядзькі Свігача выбраў і Сівака, і Ластаўку.

Сівака я добра ведаў. Я раней карміў яго хлебам. Калі я быў у канюшні, дзядзька Свігач сказаў:

— Вазьмі і Ластаўку.

Ластаўка — чырвоная жаробка з чорнай грывай і чорным хвастом — паслухмяна тыцнулася мызай у

грудзі. Мне было вядома, што Ластаўку выгадаваў дзядзька Свігач. Таму яго параду я ўспрыняў з належнай павагай і давер'ем.

Сівак быў стары спакойны конь. Адзін час яго не было чым карміць. Вось чаму ён вясною не меў тае шустрасці, якая была ў Ластаўкі. Жаробка нецярпліва тупала нагамі, а ў пастронках ірвалася наперад, абганяючы Сівака. Стальвага перакошвалася, і Сівак ішоў з абвіслымі пастронкамі. Мне даводзілася ўвесь час правай лейчыной стрымліваць гарачую напарніцу, а павольнага Сівака падганяць:

— Но-о-о!

Коні мяне слухаліся. Яны цягнулі старанна, пільнаваліся следу. Але што з таго? Усё часцей у мяне над вухам чулася, як сапуць Сцяпанавы коні. Сцяпан даганяў. А яго тым часам падганяў Васіль. Дзядзька Свігач скародзіў, адстаўшы далёка ад нас.

Мне сорамна было здаваць вядучае месца, якое даручыў дзядзька Свігач. Ідучы да балота, я па-ранейшаму адчуваў сустрэчны подых ласкавага ветрыку, бадзёрасць, але далоні маіх рук ад лейцаў аж гарэлі.

— Но-о! — ледзь не плачучы, падганяў я.

Асабліва цяжка было на паваротах. Ластаўка, перабіраючы нагамі, шпарка імкнулася наперад, а Сівак клыпаў зусім павольна. Я тузануў, каб прытрымаць жаробку. Яна супуцілася, затанцавала на месцы. Заднім капытом трапіла на стальвагу, пераступіла пастронак. Я спыніўся.

Каб гэта зрабіў Сівак, я ўзяў бы яго за нагу і пераставіў у пастронкі. А праз шалёную жаробку я павінен быў адчапляць каромысел.

Якраз падаспеў дзядзька Свігач.

— Но-о! — пагнаў я Ластаўку і пачуў услед дзядзькаў голас:

— Ты свайго Хіхікса падганяй!

У той момант я не адразу зразумеў яго словы. Ведаў адно — трэба больш падганяць Сівака. Ды яшчэ думалася: чаму ён даў каню такую насмешлівую мянушку? Ці дзядзька Свігач злуецца, ці насміхаецца?

Перад абедам Свігач сапраўды ўзлаваўся. Ён пачаў на ўсіх сварыцца. Яму захацелася пакруціць нас на паваротах. Мне гэта цяжка ўдавалася. Свігач загадаў прайсціся некалькі разоў след у след ад дарогі да балота і якраз насупраць старой пахілай бярозы.

— Прыцісні нагой барану! — загадаў ён.— Прыцісні!

І я прыціскаў. Бароны ўшчэнт растрасалі ўзадраныя карэнні пырніку, разбівалі, ператвараючы ў пульхную глебу, груды падсохлай зямлі, якая к поўдню ледзь-ледзь пачынала пыліцца. Мы скародзілі так старанна толькі насупраць пахілай адзінокай бярозы. «Чаму тут? — думаў я.— Чаму не ўсюды?»

На павароце Ластаўка зноў затанцавала. Я спалохаўся, каб хаця яна не наступіла на барану.

— Ты Хіхікса свайго, Хіхікса падганяй! — зноў крыкнуў дзядзька Свігач.

Змораны, спацелы, я адчапіў бароны, каб ехаць на абед. Дзядзька Свігач выпраг коней і першы выехаў на гасцінец. За ім рушыў Васіль. Потым — Сцяпан. Іх коні пабеглі трушком.

Я ехаў верхам на кані, трымаючы Ластаўку за повад аброці. Яна рвалася наперад, а Сівак бегчы не хацеў. Рукі мае былі вельмі навярэджаны. Да таго ж мне здалося, нібыта дзядзька Свігач свіснуў... І вось насупраць пахілай бярозы я зваліўся з каня. Віной усяму была Ластаўка: яна рванулася, як ашалелая, вырвалася і панеслася па гасцінцы. А я ўпаў у прыдарожны пыл...

З тае пары мінула шмат часу.

Многа прыемных дзён у працы зведалі Сцяпан, Васіль і я тым летам. Працы супольнай, таварыскай! Мы абганялі бульбу, вазілі сена. Іншы раз так намахаешся віламі на стозе, што злазіць уніз не хочацца... Мы вазілі пясок на будаўніцтва дарогі ў дождж і навальніцу. Адзенне, прыліплае да цела, высыхала на нас у дарозе. Здараліся, вядома, розныя выпадкі. Калі ў мяне зламалася ў возе кола, помню, хлопцы мне памаглі даехаць дадому на трох. Адным словам, мы працавалі, як дарослыя. К восені пасталелі, падраслі. І мая Ластаўка стала больш паслухмянай.

А тае вясной здарыўся гэты недарэчны выпадак. Сцяпан з Васілём затрымалі Ластаўку і пачакалі мяне. Я вывіхнуў нагу і ішоў узбоч каня, моцна накульгваючы.

— Пасля абеду я пайду першы,— сказаў Сцяпан і памог мне ўскарабкацца на Сівака. Хлопец быў злосны на дзядзьку Свігача.

Дзядзька Свігач, убачыўшы ўсё, што адбылося са мной, прытрымаў сваіх коней, чакаючы нас.

Калі мы пад'ехалі, ён буркнуў:

— Ну што, актывісцік, паперадзе не можаш ісці?!

Адкуль такія словы: «хіхікс», «актывісцік»? Пазней мне ўсё растлумачыў мой брат-камсамолец:

— Свігач злуецца. Ён не хацеў уступаць у калгас і помсціць табе за маю актыўнасць.

А «хіхікс»? Гэта была злосная іронія. Камсамольцы пасля абагульнення жывёлы сабраліся ў школе і прыдумвалі мянушкі калгасным коням. Тут жа сярод моладзі быў і Свігач. Мой брат выпісваў газету, чытаў усім, што робіцца на свеце. Ён і прапанаваў дзве мянушкі. Чэмберлен і Хікс — два прозвішчы англійскіх міністраў, вядомых па газеце ў тую пару.

Чэмберленам назвалі калгаснага быка. А як з'явілася ў канюшні над праварынай старога худога Сівака дошчачка з другой мянушкай, і цяпер ніхто не ведае. І не проста Хікс, а Хіхікс! Дзеля насмешкі над худзізной нашага Сівака...

Пад бярозамі мы працавалі з ахвотай, бо ведалі, для чаго і для каго працуем.

А дзядзька Свігач думаў аб іншым і кружыў нас доўга на адным месцы насупраць старой пахілай бярозы недарэмна.

Кажуць, перад вайною прыйшоў ён з унукам сюды, пад бярозы, насупраць пня, дзе стаяла адзінокае, тады ўжо зламанае старое дрэва, спыніўся і, паказваючы малому на шырокі палетак калгаснага жыта, прамовіў:

— Вось, унучак, мой шнур! Тут была наша палоска!..

# ЧЫРВОНЫ КОЛЕР

Наколькі мая памяць можа паглыбіцца ва ўспаміны, то першы раз чырвоны сцяг я ўбачыў над нашым пасёлкам, які знаходзіўся за паўкіламетра ад сяла. Каб малому ўгледзець што-небудзь цікавае, я мусіў тэпаць пеша праз агарод, аж на ўзгорак, адкуль відне-ліся сады і хаты, вынесеныя на роўнае поле. І ўбачыў.

Там, на ўскраі пасёлка — выглядала гэта вышэй за сады і стрэхі будынкаў,— на высознай жэрдцы трапяталася нешта чырвонага колеру. Нібы хустка. Вецер яе калыхаў, і чырвань узрывалася полымем. Сцяг!

Я чуў, як аб ім гаварылі ўсе дарослыя, але зразумець сутнасць усяго яшчэ тады не мог. Стаяў і доўга любаваўся рэдкім відовішчам чырвонага колеру. Адчуваў: там нешта незвычайнае, якое ўсіх узрушыла. Яно здалёк, нібыта агонь, палымнее.

— Што гэта? — запытаўся я ў дзеда.

— Землямер,— адказаў дзед.— Прыехаў людзям надзяляць панскую зямлю.

Хто такі землямер, каму надзяляць? — гэта ўжо былі іншыя пытанні. Не помню, можа, я і цікавіўся, прыставаў да дзеда, але ведаю, што вярнуўся ў хату і ўваччу, асабліва ў змрочнай хаце, усё трапятаўся сцяг чырвонага колеру, які зрокава запаў у маю дзіцячую душу.

...І яшчэ. Помніцца восень. Надышло Кастрычніцкае свята.

Я бягу на той самы ўзгорак, адкуль усё бачна наўкол. Усе блізкія і далёкія вёскі. І суседні саўгас за ракой.

У саўгасе на пляцы відаць рабочыя. Раніца. Яны збіраюцца ісці на дэманстрацыю. З нашай вёскі не хадзілі натоўпам на святочны мітынг. Хадзілі паасобку, па два, па тры чалавекі. Асабліва маладыя. А ў саўгасе хадзілі калонай. Сабраўшыся і параўняўшыся ў шарэнгі, рабочыя са сцягам наперадзе выпраўляліся ў дарогу. Яны ішлі тры кіламетры па гасцінцы туды, дзе знаходзіўся сельскі Савет. Там збіраліся ўсе з сёлаў, хутароў і засценкаў.

Якое гэта было цікавае відовішча! Дэманстрацыя! Слова новае, цікавае...

Дэманстранты спачатку выходзілі ў прысады на алею, абсаджаную клёнамі, каб ісці на гасцінец. Лісце на клёнах ужо асыпалася. Між голых дрэў сям-там — залатыя лапінкі. Прыемна малому наглядаць, як са сцягамі рухаюцца людзі.

Як толькі яны скіроўвалі на прамы гасцінец, палотнішчы іх сцягоў разгортваліся на ўсю шырыню. Пачынала гучаць песня. Яна чулася па ўсёй ваколіцы.

Рабочыя рухаліся дарогай, якая пралегла на пагорку, уздоўж рэчышча Пцічы, а наша вёска знаходзілася

ля рэчкі, на гэтым баку, унізе. І я ўяўляў сабе гасцінец вышэй, як на гары. Бо туды, за гару, летнім вечарам хавалася сонца. І вось цяпер, асеннім ранкам, я назіраў на гасцінцы густы натоўп людзей. Са сцягамі, з паходнай песняй. Слоў не разабраць, але яна маршавая. Крочыла людская калона. То знікне ў лагчыне, то зноў пакажацца на грэбені. Над чорным саўгасным ворывам, палымнеючы, плывуць чырвоныя сцягі. Яны не маглі схавацца за гару. Яны рухаліся над полем.

Я доўга чакаў, пакуль дэманстрацыя не знікне за краем вёскі, дзе быў сельсавет... Сцягі! Песні! Пабег бы за імі туды, куды ўсе пайшлі, куды крочылі так урачыста, ды старэйшыя не пускалі — малы.

Дзед сказаў:

— У цябе яшчэ ногі дробненькім крокам бегаюць. Падрасці крыху.

І я марыў пра тую пару, якая калі-небудзь настане. Я чакаў, я спрабаваў шпарчэй бегаць. Можа, не столькі бегаць, колькі шырока ступаць. Крок у крок, як у шарэнзе.

Дачакаўся.

У нашай вёсцы адкрылася школа. Школа прынесла новае жыццё. Навучыўся чытаць. Зразумеў, што такое Кастрычнік і чырвоны сцяг. Я ўжо не толькі ведаў, але мог многае расказаць пра чалавека таго, што на партрэце,— з усмешкай, з вусамі, з бародкай і высокім чалом на вялікай галаве.

— Уладзімір Ільіч Ленін.

Цяпер на Кастрычніцкае свята, на Першамай у доме, дзе арандавала памяшканне школа, мы вывешвалі чырвоныя сцягі — сімвал рэвалюцыі. А вялікі сцяг з залатымі літарамі, назвай нашай пачатковай школы, мы неслі на мітынг, як і рабочыя саўгаса.

Як мне хацелася ўзняць над сабою дрэўка сцяга і пайсці на святочны мітынг. Але заўсёды знаходзіліся вучні, якія лічыліся старэйшымі, яны, бач, дужэйшыя, большыя... Зноў мне трэба было, як казаў дзед, чакаць, расці, даганяць старэйшых па вучобе.

Калі ж даводзілася раўняцца ў вучнёўскай калоне, я прыладжваўся побач са сцяганосцам наперадзе, а нада мной трапятаўся на ветры сцяг. Тады мне было радасна і святочна.

...Ніколі не забудуся, як я дэкламаваў верш на ўро-

ку. Наш настаўнік даў нам заданне: вывучыць на памяць верш Міхася Чарота «Ваш сцяг абаронім».

Я вывучыў. Ці сядзеў над кнігай-чытанкай, ці хадзіў у дрывотнік, куды мяне пасылалі па дровы, я паўтараў яго сам сабе. Кожнае слова гэтага верша было прачула напісана, пранікала да самай душы. Я ўяўляў напісанае паэтам. Прыйшоў у школу. Сеў за парту. Сяджу і дрыжу. Верш узрушваў усё ў маёй душы.

Калі дайшла да мяне чарга — настаўнік выклікаў усіх: ці ведаеш урок,— я ўстаў і ўсхвалявана вымавіў:

— Эм Чарот... «Ваш сцяг абаронім»!

— Міхась Чарот,— паправіў настаўнік.— «Ваш сцяг абаронім».

Я паўтарыў, што сказаў настаўнік, але ад гэтай заўвагі мой запал узрушанасці не патух.

— Памяці пецярбургскіх рабочых,— сказаў я,— расстраляных 9 студзеня 1905 года.

Не, не знікла мая ўзбуджанасць, якая з гневам і злосцю збіралася дома за ўчарашні і сённяшні дзень. Мяне ўсяго калаціла, а словы — я іх адразу запомніў на памяць,— яны гучалі, як крык:

І цяпер нібы енкі чуваць
Бедных матак галодных дзяцей,
Як цар рускі загад даў страляць
Ля палаца рабочых людзей...

Настаўнік падышоў да парты і выслухаў мяне да апошняга радка. Я закончыў:

А мы песню спяём вам свабоды
Гучна так, каб пачулі ў зямлі,
Што ваш сцяг абароняць народы,
За які ў барацьбе вы ляглі.

— Добра,— сказаў настаўнік і паўтарыў: — Добра!

А калі скончыўся ўрок, ён паклікаў да свайго стала і адзін на адзін, быццам па сакрэту, запытаў:

— Ты ведаеш, што на Першамай тут, у нашым памяшканні, будзе вечар вясковай самадзейнасці. Будуць ставіць спектакль... Чуў?

— Чуў,— адказаў я.

— А што, калі на канцэрце ты прадэкламуеш перад бацькамі верш Міхася Чарота? Асмелішся са сцэны? Будзе шмат людзей, не зблытаеш, не спалохаешся перад вялікім натоўпам?

— Не спалохаюся,— адказаў я.

Чаго палохацца? Я не зблытаўся і не спалохаўся ў школе. Але хваляваіца — хваляваўся. Прысутнічалі ўсе з дому. Прыйшлі дарослыя з усяго сяла, некаторыя з суседніх вёсак. Прысутнічаў дзядзька Нарановіч з саўгаса.

Сцэну ў школе зрабілі самі, з дошак. Шырму з посцілак, якія прынеслі дзяўчаты. Я сядзеў за посцілкамі ў куточку, дзе мяне пасадзіў настаўнік, і прыслухоўваўся, як усё гучней і гучней гудзе памяшканне. Назбіралася людзей поўны будынак.

Настаўнік наш пачаў вечар прамовай. Ён гаварыў пра міжнародны дзень працоўных — Першае мая. Мне толькі відаць былі партрэт Леніна і чырвоны сцяг каля партрэта. А больш мяне нічога і не вабіла. Я рыхтаваў свой верш перад выхадам у невядомасць.

Нарэшце настаўнік падышоў і запытаў, ці гатовы я выйсці на сцэну. Я матнуў галавой: «Гатовы».

Мноства людзей, мноства вачэй, святло дзвюх лямпаў крышку збянтэжыла мяне. На момант. Моцна стала біцца сэрца. Але гэта няблага. Бо ў маіх думках якраз былі словы пра сцяг, які вісеў тут жа, на сцэне. Мой голас вырваўся з грудзей і дзесьці знік пад столлю, над галовамі прысутных. Я дэкламаваў, як у класе. І гэта павінны былі адчуць усе ў зале.

Кроў лілася ракою тады
(Бо тырану было яшчэ мала...)
Той крыві засталіся сляды —
Сцяг працоўных яна фарбавала...

Я паказаў рукой на чырвоны сцяг.

Калі скончыў, пачуліся воплескі. Доўгія воплескі. Настаўнік падышоў да мяне ў куток, шапнуў, каб я выйшаў яшчэ раз на сярэдзіну сцэны, але я ўпёрся і зусім збянтэжыўся...

Пасля гэтага вечара я стаў піянерам-ленінцам. А даваў прысягу ў саўгасным клубе, куды я хадзіў ужо самастойна ў вольны час. Там мяне прынялі. У саўгасе была і піянерская і камсамольская арганізацыі.

Помню, калі мне важаты атрада Мікола завязваў на шыю чырвоны гальштук, камуніст-будзёнавец дзядзька Нарановіч сказаў:

— А цяпер, каб весялей было хадзіць на зборы атрада, падбяры сабе таварышаў... Стварыце на сяле

піянерскае звяно. Спадзяюся, што ты здужаеш быць важатым звяна.

Нарановіч — сакратар партыйнай ячэйкі саўгаса. Добры дзядзька. Ён ваяваў за Савецкую ўладу на франтах, узнагароджаны ордэнам баявога Чырвонага Сцяга. Гэта ён параіў мне спачатку запісацца чытачом у саўгасную бібліятэку, а потым уступіць у піянеры.

Якое шчасце напаўняла мяне, калі я з чырвоным гальштукам на грудзях ішоў па вёсцы!

Толькі не ўсім гэта, відаць, падабалася. Яўхім Свігач з густой шырокай барадой, заўважыўшы мяне — ён сядзеў на вуліцы са старымі мужчынамі, яны курылі на лаўцы,— кіўнуў піпкай у мой бок і сказаў:

— Бач ты! Ужо і ў нас на сяле з'явіліся саўхозскія клапы.

Дзядзька Свігач — гэта той вясковец, якому калісьці землямер не прырэзаў панскай зямлі. У яго сваёй — хоць урабі! — хапала. І гэта ж яго пляменнік, Косця, заўсёды са мною задзіраўся, біўся, хаўрусаваў з Грышкам Бародкам і з Астапам Анэцінымі.

Звяно ахвотнікаў у піянеры неўзабаве арганізавалася. Мне настаўнік памог. Запісаліся такія ж падлеткі, як і я, найбольш дзяўчаткі: Насця Антонава, Саша Рыгорава, Антаніна Піліпава, Люба Хведарава і Пеця Піліпаў. Вось і ўсё звяно.

Пасля хатняй работы, пасля таго як падрыхтуем урокі, мы збіраліся на зборы. Месца збораў — у школе. Кожны збор — па загадзя запланаванаму парадку дня. Важаты атрада Мікола яго зацвердзіў. Пытанні былі, напрыклад: «Нашы поспехі і адставанні ў вучобе», «Аб дапамозе па гаспадарцы хворай цётцы Матруне»... Розныя былі павесткі. Калі набліжаліся рэвалюцыйныя святы, зборы адбываліся амаль кожны дзень.

Мы дзяжурылі каля сцяга школы. Спявалі гімн каля яго. Ішлі са сцягам на дэманстрацыю.

Збіралася, вядома, звяно надвячоркам. Калі час дазваляў. І аднойчы заседзеліся ў класе позна. Чагосьці доўга спрачаліся, нешта абмяркоўвалі, а нас падпільнавала кампанія Грышкі Бародкі. Шарая гадзіна — яе пара. Мы і не заўважылі, як сцямнела.

Гаворым так і раптам чуем на вуліцы свіст. Мы здагадаліся, хто гэта. Так умеў свістаць толькі Грышка Бародка.

Дзяўчаты ўсхапіліся і хутчэй уцякаць. Я, як важаты звяна, кажу:

— Спакойна! Не бойцеся, будзем разыходзіцца арганізавана.

Я выходзіў са школы апошні. Мне трэба было замкнуць дзверы і аднесці настаўніку ключ.

Грышкавы хлопцы распрануліся (верасень ужо стаяў на дварэ). Яны тых, хто выходзіў са школы, світамі білі па нагах. З размаху, моўчкі, ціха, не падымаючы шуму. Чаго заседзеліся позна?..

Узняўся піск, крык...

Я, вядома, стараўся быць спакойным. Хоць адчуваў, што на мяне замахваецца Косця, трымаючы ў руках сваю вопратку. Ну, бі! Бі па нагах! Я знарок на ганку шырока расставіў ногі, каб не паваліцца. Я не баяўся ўдару. Нават світкі Астапа Анэцінага. Мне здавалася, што Грышка Бародка не зачэпіць мяне. І ён не зачапіў... Вось Косця?.. Я толькі не разлічыў, што ў Косцевай вопратцы ў кішэню ўкладзены быў камень... Удар потым доўга балеў. І пакінуў знак.

Не ўсім падабаўся чырвоны колер.

Помню, Яўхім Свігач, седзячы на бервяне, з люлькай, калі я праходзіў па вуліцы, паклікаў:

— Ну, падыдзі сюды! Пакажы гальштук!

Мне не хацелася падыходзіць... Але падышоў.

— Чаго ты баішся? — памяркоўна загаварыў ён.— Не ўкушу... Вельмі ўжо трасешся, каб не пакамячыць шматок гэтай тканіны...

Рудымі, закуранымі ад люлькі пальцамі з рыжымі пазногцямі ён узяў пунсовы ражок гальштука. Пацёр яго, нібыта хацеў навобмацак паспрабаваць моц матэрыі або расцерці, як махру для люлькі... Ці што ён хацеў?..

У грудзях Яўхіма нешта сіпела...

А я сабе думаў: ці можна так пачуць матэрыю гальштука? Ну ён, гальштук, вядома, сатканы, як і кожная матэрыя. Як і сцяг, сатканы з такой матэрыі. Але ж не ў тым сэнс. Іх аб'ядноўвае адзін чырвоны колер. А ў ім — думкі і пачуцці ўсіх людзей, асабліва майго сэрца.

# КАЖАНЫ

Сонца хавалася за гару. Разліваўся ля рэчкі туман. Усё заціхала. Сяло збіралася да сну перад заўтрашняй будняй працай.

Пара і нам, дзетвары, разыходзіцца з вуліцы па хатах.

— Косця, ідзі вячэраць!

— Сцяпан, дамоў!

Чуліся галасы з ганка на ўсю вуліцу. Сярод іх былі розныя — ласкавыя і сярдзітыя. Яны гучалі ў залежнасці ад настрою тых, хто клікаў — бацька, маці.

Дзяўчаткі, тыя, як напалоханыя вераб'і, усе разляталіся пасля строгага поклічу дарослых.

А мы — хлопчыкі?

Вось тут і ўспамінаецца, як між нас паяўляліся сумненні. Якраз у такую вячэрнюю часіну — «шарую гадзіну», як казалі старэйшыя. Ісці ці не ісці? Можа, яшчэ пазабаўляцца? Ну, хоць на хвіліначку. Не хацелася дамоў.

Большасць, вядома, ішлі на свой двор, па аднаму, па двое, стомленыя, знямоглыя. Хто — ад гульняў і бегатні, хто — ад працы, а пераважна — ад таго і другога. Ішлі некаторыя задаволеныя, некаторыя — невясёлыя. Хто выканаў наказ дарослых, споўніў сваё абяцанне, тэпаў хуценька, не баяўся, што, вячэраючы, за сталом пачуе дакоры. Бо вячэра ў сельскай хаце — не толькі яда, трэцяя на дзень ежа, але нібыта падвядзенне вынікаў у сям'і, што зроблена за суткі... І хто хоць малы, але не зрабіў тое, што яму даручалася, забыўся ці насваволіў, учыніў якую-небудзь бяду, моўчкі, няўпэўнена дыбаў на свой двор. Ён нясмела пераступаў цераз парог і не чакаў ад бацькі пахвалы. Часамі такому і лыжка не лезла ў рот, не знаходзілася месца за сталом...

Эх, далёкая пара свавольнага маленства! Тая, дзе ёсць імкненне напракудзіць, нагарэзіць і дзе ёсць немінучая адплата бацькавай папружкі... Матчын трапкач на цвічку ў парозе...

Дык вось — наставала гэта пераломная «шарая гадзіна». Сярод нас былі такія, якія не ішлі дадому. Не слухаліся. Здаецца, яны былі смелыя, не баяліся ніяка-

га ўшчування. Яны не падпарадкоўваліся старэйшым. Нібыта яны самі ўжо дарослыя і паказвалі сваю ганарыстасць перад імі.

Быў між нас такі Грышка. У яго на барадзе круглай манетай чарнела барадаўка. Так яго і празвалі: Бародка. Нічым такім ужо асаблівым, апрача свайго росту — ён быў большы за іншых,— Грышка, здаецца, не вызначаўся. Твар канапаты. Але ён мог цябе тузануць за віхор або стукнуць кулаком у каршэнь. Вось узбрыдзе яму ў галаў: прыгнуць каго-небудзь да зямлі. І сагне. Цябе ці любога. Ён дужэйшы. Не ўздумай супраціўляцца або агрызацца. Мы для яго былі «малеча», «маляўкі».

Другі быў Косця Юстынаў, таксама норавам адметны. Забіяка.

— Косця, дзе ты? Каму кажу, ідзі дамоў! — каторы раз на ўсё сяло крычала, клікала яго сястра Гэлька.

— Ну, іду-у! — бурчэў ён, стоячы на месцы.

І не ішоў. Глядзеў на Грышку Бародку.

Ва ўсім пераймаў Грышку яшчэ Астап Анэцін. Косця і Астап падладжваліся да Грышкі. І калі яны збіраліся ўтрох, гэта ўжо была, сапраўды, сіла.

Я і мой сябра Сцяпан не папаўнялі гэтую сілу. Калі нас клікалі вячэраць, мы адлучаліся і па аднаму ішлі дамоў.

Дарэчы, Грышку ніхто не клікаў. Ён гадаваўся без догляду. Маці адна не ўпраўлялася і даглядаць дзяцей, і сачыць за гаспадаркай. Малыя цэлы дзень бадзяліся. Грышка сярод іх быў і не самы меншы, і не самы старэйшы, аднак ніводнага з братоў у свае «гульні» чамусьці не запрашаў. Не браў, праганяў. А нас, суседскіх хлапчукоў, падахвочваў ісці на рэчку купацца, лавіць рыбу, схадзіць у парэчкі, у маліны...

Гэта ўдзень, а ўвечары? Увечары, калі надыходзіў змрок, Грышка ўвесь мяняўся. Вочы рабіліся вялізныя, сам — рухавы. Ён падскокваў, куляўся на траве. Астап Анэцін і Косця Юстынаў ва ўсім яго паўтаралі. Яны капіравалі яго. І мне, гледзячы на іх, хацелася пераймаць іх манеры.

У той памятны летні вечар, калі ўжо ўсіх паклікалі вячэраць, мой сябар Сцяпан пайшоў спаць. Грышка, Косця, Астап і я засталіся. Бародка раптам прапанаваў:

— Давайце згуляем у вайну!

— Давайце! — згадзіўся Косця.

Косця Юстынаў быў непаваротлівы. Нездарма пра яго хадзіла такая дрындушка:

Рот шырокі, як паркан,—
Косця разяван.
Нос, як той капец,—
Юстынаў хлапец.

Але сцеражыся ўголас прадэкламаваць яе, Косця мог каменем ударыць. Знявечыць.

Астап Анэцін — гэты быў ціхі звадыяш. Умеў навыдумляць на каго-небудзь, хітра нахлусіць, умеў спрытна папіхнуць каго-небудзь і непрыкметна схавацца. Гуляючы ў вайну, ён падносіў «камандзіру» Грышку баявыя запасы — гладкія каменьчыкі і піку...

— А ў якую вайну будзем гуляць? — запытаўся Астап.

— Будзем ваяваць з кажанамі! — па-змоўніцку аб'явіў Грышка.— Будзем біць кажаноў... Ты будзеш? — звярнуўся ён да мяне.

Для мяне гульня ў «вайну» была не новая, але такая, якую аб'явіў Грышка Бародка, зусім нечаканая. Змрочным вечарам, у смелай кампаніі, хоць я быў за ўсіх меншы, мне таксама захацелася чагосьці такога адважнага, дзёрзкага.

— Ну, і я з вамі,— згадзіўся я, нібы даючы прысягу.

Я, вядома, прадчуваў, што за гэта на мяне насварацца. Дзе забавіўся? Дзе гойсаў? Адпачываць пара!.. Аднак чаму мне не пагуляць у «вайну»?

— Пайшлі?

— Пайшлі.

Мы пабралі доўгія тонкія паплецыны, складзеныя пад страхою ў дзядзькі Антона, і вярнуліся на вуліцу, як воіны, з пікамі. Мне выпала сапраўды баявое заданне: збіць кажана!

Кажан — вельмі шустрая начная лятучая мыш, як птушка. Яе цяжка на ляту згледзець, не тое што ўлавіць. Ледзь заўважыш, мітуслівую, як чорную маланку. Кажан то нізка, то высока фыркне над вухам, а потым узвіецца ўгору, вышэй хаты. Кажаны лётаюць над вячэрняй вуліцай. Днём яны дзесьці спяць, а ўначы палююць на жучкоў, камароў і начных матылькоў. Гэта іх харч.

— Бі, чарцяку! — загадаў Бародка, паказаўшы на кажана.

Але не так проста яго збіць. Размахваючы ў паветры паплецінай, я ніяк не мог патрапіць кажану па крыле. Спрытная птушка заўсёды нібы выслізгвала з-пад маёй пікі. Сам жа тым часам я аб камень збіў да крыві палец на назе. Параніўся, спацеў, замарыўся...

«Шарая гадзіна» гусцела. Стала зусім цёмна.

— Хто яшчэ ўкакошыў? — раптам запытаў Грышка.

Косця Юстынаў збіў другога кажана.

— Я не... не пацэліў,— задыхаўшыся, прызнаўся я.

— Эх ты, мазіла! — перадражніў Бародка і, паказваючы сваю здабычу, пахваліўся: — Во як трэба цаляць!

Грышка нёс, трымаючы адной рукой за крыло забітага кажана, а другой — цягнуў паплеціну, шоргаючы канцом па зямлі. Мне вельмі хацелася зблізку разгледзець птушку. Але было цёмна. Грышка не дазваляў браць яе ў рукі. Я толькі навобмацак адчуў тоненькія, нібы гумавыя, халодныя крылцы, а сама — яшчэ цёпленькая. Неяк зрабілася шкада. Ды некалі было расчульвацца, бо Грышка з Косцем, несучы трафеі, гаварліва між сабой перамаўляліся. Яны рашуча і смела крочылі. Кульгаючы на балючую нагу, я ледзь паспяваў за імі. Куды яны іх нясуць?

Насупраць куста каліны, што рос ля хаты цёткі Матруны, спыніліся. Увечары куст выглядаў больш змрочным, чым днём. Пад ім добра было ўсім схавацца і прытаіцца.

— ...Каб падчапіць ці стрыножыць,— штосьці пазмоўніцку разважаў Грышка,— каб спутаць...

— Вяровачкай ці хаця б ніткамі,— дадаў Астап Анэцін.

«Дзеля чаго вяровачка? Дзеля чаго ніткі?»

— Ваш Пятро звязаў сетку? — перабіў мае думкі Косця.

— Не, яшчэ не скончыў,— адказаў я.

Мой старэйшы брат вязаў сетку. Ён вязаў ужо даўно ў вольныя часіны з нітак, што напрала маці. Такія незацейлівыя рыбалоўныя снасці меліся амаль ва ўсіх. Ужо добрая палова сеткі была гатова. Куль, як бабіна спадніца, вісеў на круку пад паветкай, а клубок нітак ляжаў на калодцы. Брат абяцаў, што як звяжа ды

будзе ісці ў рыбу, то абавязкова мяне возьме з сабою. Я буду насіць торбу і першага злоўленага шчупака. Як пра гэта не пахваліцца Косцю Юстынаваму, свайму суседу? Як не паказаць яму клубок нітак? Я паказаў — і вось...

— Прынясі клубок! — падказаў Косця.

— Дай нітак! — загадаў Грышка.— Я адматаю і вярну.

— Мы адматаем, мы адматаем! — залепятаў Астап Анэцін.— Як адсюль і да плота.

— Бяжы! — загадаў Бародка.— Толькі дома пра гэта не ляпні... Мы чакаем. Лічу да ста... Раз!.. Два!..

Я і пабег.

Наспявала штосьці сакрэтнае. Гэтую тайну давяралі мне. Не каму-небудзь даручалі, а мне — адважныя таварышы. Як роўны роўнаму Грышка загадваў і папярэджваў... Чаго толькі «вайна» не вымагала?! Я мусіў хавацца, таіць загад сяброў... Ля хаты каля акон сваіх, дзе яшчэ блішчаў агеньчык ад лямпы — на стале, мабыць, астываў мой фасолевы суп у місцы, вячэра! — я пракрадваўся, як злодзей, да паветкі.

— Восемдзесят чатыры!.. Восемдзесят пяць!.. Малайчына! — пахваліў мяне Бародка, калі я прымчаўся з клубком.

Тут жа хлопцы ад яго адматалі нітак, як на шырыню вуліцы. Астап адышоўся да плота на тым баку, зачапіў там нітку за штыкеціну, і назад. Косця яму памагаў. У Грышкі былі канцы, ён адарваў нітку і працягнуў мне клубок:

— Аднясеш, пакладзеш на месца!

Але ж мне цікава, што будзе далей. І я паклаў яго пад куст каліны. Назіраў, як Грышка з Косцем далонямі звілі ніткі ў адну столку. Астап пабег, на тым баку прывязаў канец за плот унізе. Вярнуўся да нас. Звітая, пакручастая вяровачка выглядала амаль непрыкметнай на шэрай вуліцы.

«Дзеля чаго яна?»

— Панеслі чарцякаў! — загадаў Грышка, беручы ў руку свайго кажана, Косця — свайго.— А ты, на! — звярнуўся ён да мяне.— Трымай за гэту шпагаціну. Прысядзь пад кустом і чакай нас. Як назад пабяжым, нацягні! Моцна нацягні! Ля самай зямлі... Як свіснем, кідай шпагаціну і даганяй!.. Мы цябе пачакаем ля Лукашовай вяндлярні.

Я гатовы быў да выканання любога загаду. Зухаватасць і даверліва-змоўніцкі тон у голасе Грышкі мяне падбадзёрвалі.

Трымаючыся за шпагаціну, якая раскруцілася цераз усю вуліцу, ад плота да плота, я прысеў. За цёмнай калінай я не бачыў, што там у хаце цёткі Матруны, адзінокай жанчыны. Толькі праз расчыненае акно чуваць быў бразгат посуду ў мыцельніку. Грышка з хлопцамі якраз і падкраліся туды.

Прайшло нямала часу. Па вуліцы праехаў дзядзька паіць каня ў рэчцы. Напаіў. Вяртаючыся назад, праехаў каля мяне. Конскія капыты працопалі па маёй вяровачцы. Не заблыталася. Я паспрабаваў пацягнуць яе — яна паддавалася... Потым пачало святлець. З-за вялікай, як хмара, Матрунінай грушы выплыў круглы месяц. Ды такі палымяны, што мне аж стала страшна. Нібы за садам палыхнула чырвонае зарыва пажару...

Далей я разгубіўся — мяне аглушыў пранізлівы жаночы лямант. Шлёпаючы басанож, ад Матрунінага ганка па двары, а потым па вуліцы беглі хлопцы! Астап, за ім Косця і, нарэшце, Грышка. Яны выскачылі праз Матруніны вароты, збочылі да мяне, дзе я, прытаіўшыся ў зацішку, сядзеў. Параўняўшыся з калінай, Грышка грозна зашыпеў:

— Нацягні з усёй сілы, моцна!

Калі хлопцы перабеглі, я так і зрабіў, як было загадана. Шпагаціна наструнілася цераз усю вуліцу, ледзь асветленую месяцам. Не, прыкмеціць яе на шэрай зямлі было цяжка.

...Праз колькі год пазней я даведаўся, што ў цёткі Матруны існавалі прыкметы і забабоны, за якія часам дарослыя над ёй пакеплівалі. Яна верыла ў праклён, верыла ў залом каласоў на палосцы. Верыла ў нарок няшчасця, у знак бяды... Кажан — жудасны крывасмок — без пары немінучая смерць...

Але ж, малы, ці мог я тады ведаць пра гэта? Мне ніхто не растлумачыў. Мне нават хлопцы не сказалі, што кінуць на стол цётцы Матруне забітых кажаноў...

Вядома, услед за крыўдзіцелямі будзе пагоня. І праз момант раз'юшаная кабета з крыкам і лаянкай бегла помсціць, размахваючы качаргой. Толькі пагоня яе была нядоўгай. Зачапіўшыся за маю загародку, цётка тут жа потырч пavалілася. Яна так знячэўку спатыкнулася, аж качарга адляцела ўбок, бразнуўшы аб

штыкетнік. Немы крык і плач разлёгся па вуліцы. Стогнучы ад болю, Матруна не магла ўстаць.

Я адразу пусціў сваю шпагаціну. Устаў, але не пабег следам за хлопцамі, хоць і чуў іх свіст каля Лукаша. Яны мяне клікалі.

Як жа так выйшла? Некалькі разоў у дзень пасуседску сустракаўся з ёю. Бацюхны! Як жа гэта здарылася? Я ніколі б не пасмеў яе пакрыўдзіць. За што прычыняць такі боль чалавеку?

— Божачка, вы самі кажаны,— галасіла Матруна.— Будзьце вы праклятыя, ведзьмакі! За што ж вы мне іх падкінулі? Няхай вас саміх чакае доля такая... Каб вы апруцянелі, як тыя крывасмокі!..

Зноў пачуўся Грышкаў свіст: «Даганяй!» Але не, я не мог даганяць таварышаў. Мне было боязна заставацца, але адначасова і шкада было цётку Матруну. Я вінаваты, што паддаўся і прынёс ёй такія пакуты. Я мусіў падысці да ляжачай жанчыны, каб дапамагчы ёй устаць.

Толькі наблізіўся, як яна сама ўсхапілася і ўвесь гнеў — хочаш не хочаш — абрушыла на мяне. Хто ты? Чый ты? Дык і ты тут? Дык і ты з імі, паганец? На, вось табе!.. А цяпер хадзем да бацькі! Хадзем да маткі!..

Пасля, калі я і дома атрымаў кухталёў яшчэ больш, чым ад цёткі Матруны, то ўжо каяўся: чаму не ўцёк, чаму не пабег даганяць сваіх хаўруснікаў?

Яны ж таксама не злітаваліся нада мной і нават не паспачувалі. Косця Юстынаў, усміхаючыся ад вуха да вуха, як даў кулаком, дык аж пад грудзьмі заняло і зялёныя кругі паплылі ў вачах.

Я разумеў прычыну: за што і чаму... Хоць я і словам нікому не выдаў сакрэту нашай змовы, хто быў, хто прыдумаў гэтае злачынства, але не ўцёк, як было між намі дамоўлена. Пайшоў паднімаць Матруну, якая павалілася... Дома таксама не прызнаўся: з кім быў, з кім нашкодзіў. Аднак нейкім чынам усё ім стала вядома.

Мне было строга загадана пакінуць «кампанію» і не вадзіцца з ёю, з «бальшунамі». Мне было забаронена сябраваць з Грышкам Бародкам, з Косцем Юстынавым і Астапам Анэціным. А цётцы Матруне даваць «дзень добры» столькі разоў, колькі на дзень спаткаешся. Як

надыходзіла «шарая гадзіна», я абавязкова павінен быў быць дома.

Канешне, у забавах і гульнях «кампаніі» я потым удзельнічаў не раз, але пазніцца ў хату — не пазніўся.

Ды і пасля таго, што здарылася, мяне не прываблівала ўжо кампанія смелых хлопцаў. У душы ўзнікла якаясьці насцярожанасць да іх гульняў. Сапраўды, незразумела было, чаму, як толькі цямнела, Грышка Бародка рабіўся апантана-зухаватым, нібыта кажан? Ён смялеў і нікога не слухаўся. Калісьці, да здарэння з Матрунай, я памятаю, і мне хацелася пераняць такія фартэлі і фокусы. І калі раней зайздросціў, цяпер дапытліва наглядаў. І думаў: чаму Бародку так хочацца свістаць, бурчаць, кугакаць, як сава ў лесе? Яму і Касцю карцела ў чый-небудзь садок улезці, налаташыць з чужога агарода агуркоў ці нарваць моркаўкі... Мы, «маляўкі», павінны былі стаяць на пільнай варце пры гэтым. А лепш за ўсё — браць з іх прыклад. Не, цяпер такі прыклад мяне не захапляў...

Праўда, яны прыціхлі, калі ў вёску прыехала школа — першая пасля рэвалюцыі пачатковая школа. Мы ўсе — і малыя і «бальшуны» — селі за парты.

Дзядзька Каржаневіч, наш настаўнік, працаваў у сяле без памяшкання. Ён перабіраўся з урокамі па хатах, нібыта хадзіў па чарзе пастух. Колькі вучняў — столькі дзён заняткаў у хаце.

І Грышка, і Косця, і Астап, займаючыся ў школе дзядзькі Каржаневіча, прыкметна выправіліся. На жаль, Каржаневіч працаваў адну зіму.

Аднойчы за гузак на галаве ад Грышкі Бародкі я паскардзіўся дзядзьку Каржаневічу. Мой першы настаўнік нахмурыўся, а потым сказаў:

— Усе вы роўныя, ваўчаняты!.. Што, не? Чалавек паходзіць ад жывёліны. Ад малпы, ад звера... Вас, дзікуны, трэба выхоўваць і выхоўваць, каб вы сталі сапраўднымі людзьмі. І школа вам усё дае. Ад выхавання ўсё на свеце залежыць. І жыццё, і ўвесь свет. І ты ад гэтага залежыш: кім ты будзеш і які ты станеш...

Я не разумеў тады слоў свайго першага строгага настаўніка.

Грышка, Косця, Астап не давучыліся. Яны кінулі школу. А я і Сцяпан скончылі пачатковую, а потым — сямігодку.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны мы са Сця-

панам прызываліся ў Армію. Перад тым як апрануць чырвонаармейскую форму, я наведаў роднае сяло. Спаткаўся са Сцяпанам, ужо інжынерам. Мы ўспамянулі школьныя сцежкі, сваіх школьных сяброў...

# ПАРА Ў ВЫРАЙ

Гэтыя словы мне, падлетку, трэба было зразумець у такім сэнсе: як адлёт птушак на зімоўку ў цёплыя краіны, як асенняе развітанне старых птушак з родным краем і як першы самастойны ўзлёт маладога вывадка, смелы, рашучы, калі крылы імкнуцца ў прывабныя, нязведаныя прасторы...

Я тады ўжо хадзіў у чацвёрты клас. Дома трэба было рабіць урокі ды яшчэ — маляваць каляндар. Наш настаўнік, дзядзька Барысевіч, даручыў мне весці каляндар надвор'я. Кожны вучань кожны год атрымліваў якое-небудзь даручэнне. Мне выпала такое. Я акуратна фарбамі маляваў каляндар і старанна вёў у ім запісы. Падрабязныя. Беражліва яго захоўваў.

У мяне нават захаваліся календары за папярэднія гады. Даючы мне сшытак з тоўстай паперай для малявання, дзядзька Барысевіч наказаў:

— Кожны такі ліст — класны каляндар надвор'я на цэлы месяц. Разлінег яго, вось так, на квадраты. Падлічы, колькі ў месяцы дзён, столькі павінна быць і квадрацікаў або клетак. Трыццаць адзін дзень у месяцы — трыццаць адна клетка... Квадрат або клетачка — дзень! Клетачку дня яшчэ разлінег па дыяганалі. Трэба ж чакаць, якое надвор'е будзе да абеду, а якое пад вечар. Зразумеў?.. Надвор'е будзеш абазначаць умоўнымі знакамі. Фарбамі будзе прыгажэй, праўда?.. Сонца цэлы дзень свеціць... на небе ясна — чырвоны колер! Пахмурна — шэры колер. Дождж — рыскі, як дажджынкі. Снег — дзве-тры сняжынкі. Навальніца — чорны колер... А то сам прыдумай умоўныя знакі і абазначай. Вядзі каляндар, каб ён на школьную выстаўку трапіў. Малюй прыгожа. Гэта цікавы занятак і прывучае наглядаць за прыродай... Тым больш ты ў гуртку аховы прыроды. Вось і дзейнічай! Гэта та-

бе даручэнне. Не палянуешся, дык у час канікул будзеш весці каляндар. Як метэаролаг. Цікавая спецыяльнасць! Запомні! У цябе наш школьны дакумент. Мы будзем захоўваць іх, календары, у геаграфічным кабінеце. Назаўсёды. Скажам, для даследавання стану сёлетняй пагоды. Дзе можна зверыць ці параўнаць з папярэднімі гадамі? Толькі ў нас. У нашым календары.

Дзядзька Барысевіч яшчэ быў аграном і садоўнік, сам любіў саджаць дрэвы, трымаў вулей пчол, наогул, наглядаў за прыродай. Ён, крышку задумаўшыся, гаварыў:

— Хто любіць весці каляндар надвор'я, каляндар нашай матухны-прыроды, багатыя запісвае назіранні. Можна дакладна запісаць дзень прылёту птушак. І адлёт... Напрыклад, буслоў, ластавак... Або калі і што зацвітае ў садзе, у полі... Запісваюць самыя нечаканыя здарэнні і з'явы ў прыродзе. Добра, калі б і ты паспрабаваў. Хоць бы пра птушак.

На мяне ён, наш настаўнік, калі я тады ўпершыню згадзіўся весці запісы, усклаў надта цяжкае заданне. Я толькі потым гэта адчуў.

...Дні мінаюць шпарка. Часам іх не адрозніш адзін ад другога. А ты мусіш быць летапісцам, назіраць за надвор'ем, усё прыкмеціць, усё заўважыць. І адзначыць, не забыцца, у сшытку. Дождж — працяглы ці кароткі? Сонца глядзіць ласкава ці хмурна? Спявалі птушкі або пахаваліся пад страху? Сярдзіты быў вецер ці хмары высока і ціха плылі па небе? Усё гэта я занатоўваў у свой каляндар надвор'я.

Сачыць за птушкамі было лягчэй. Мяне дзед прывучыў да гэтага. Наогул, ён шмат мне дапамагаў. Я з ім дзяліўся сваімі назіраннямі.

— Ваш настаўнік з розумам і правільна настаўляе вас,— казаў дзед, кашляючы на лаўцы.— А як жа? Трэба ж ведаць, куды свет рухаецца, як мяняецца за год. Год на год, кажуць, не падобны... І цікава, калі ластаўкі нашы прылятаюць і калі адлятаюць. І што паметкі робіш — добра. Чалавечая памяць не ўсё захавае... У нас от чамусь хутка пачалі забывацца на тое, што было ўчора. Памёр чалавек, і, глядзіш, ужо забыліся пра яго.

За апошні час дзед часта гаварыў пра могілкі, пра сваіх сяброў, якіх даўно не стала.

Я расказаў дзеду, што ўжо запісаў пра тую асен-

нюю навальніцу, якая маланкаю расшчапіла грушу ў полі, дзе Лісіныя горы. Пра той дождж, што як хлынуў, дык на рэчцы знёс кладку...

— Малайчына! — хваліў дзед, хутаючыся ў футрак, які яму кравец пашыў без рукавоў з ягнячых аўчынак. Верх яго быў пацягнуты сінім кортам.— Усё трэба наглядаць, помніць і не забывацца.

Другі раз, калі я рабіў урокі, ён казаў, нібы дыктаваў мне:

— Заўтра будзе ясна. Бач, сонца за гару весела закацілася.

Або:

— Ломіць сярэдзіна. Пайду лягу. Ці не на дождж збіраецца?

І сапраўды, назаўтра ішоў дождж.

Але вось аднойчы, праглядаючы свае леташнія запісы і параўноўваючы іх, я заўважыў недакладнасць адлёту птушак у вырай. Звычайна ластаўкі прылятаюць і адлятаюць у адну пару. У мінулым годзе запісана: «Ластаўкі прыляцелі 14 мая». Сёлета з'явіліся на дзень раней. А адлятаюць? Летась маёй рукой было напісана: «Ластаўкі паляцелі ў вырай 28 жніўня». Гэта яшчэ да таго, як я пайшоў у школу. А сёлета? Ужо верасень. Два тыдні ідуць заняткі ў школе...

— Ці трэба так? Дзед, што гэта будзе? — пытаўся я.— Можа, нашы ластаўкі надумаліся зазімаваць?

Мы выйшлі на двор. Ластаўкі вяліся ў нас пад страхой. Гнёзды зляпілі ў закоце хаты. Два. Адно ў самым вугалочку, а другое — збоку, ніжэй.

Сінія шчабятухі, рассякаючы крыламі паветра, кружыліся над намі. Ім не было стомы. Яны сапраўды нікуды не збіраліся, спяваючы, плавалі ў небе. Праносіліся імгненна над вуліцай, над нашым садам. Вострымі, нібыта ножніцы, хвосцікамі рулявалі ў палёце направа, налева, дадолу, угору, вышэй бярозы. Касакрылыя, яны не толькі стрымгалоў узнімаліся ў вышыню, але і спявалі сваю ласкавую песню. Другія, трапечучыся, падляталі да закота, прыносілі ежу дзецям. Бо там, у гэтым круглым гняздзечку, чуцен быў пяшчотны лепет. Аддаўшы яду, ластаўка звальвалася ўніз, імчалася зноў на здабычу корму.

— Напэўна, запознены вывадак,— сказаў дзед.— Пачакай, запішаш тады, як паляцяць. Не дзівіся, бывае. Паляцяць, тут не застануцца. Прыйдзе пара.

Дзед, зябка хутаючыся ў футрак, ішоў у хату, а я стаяў, наглядаў. Мне было пацешна і прыемна, нібы я разгадваў ластаўчыны сакрэты.

Калі ўжо вечарэла, яны збіраліся ўсе разам. Спачатку садзіліся на вільчыку страхі. А то адразу з лёту шмыгалі ў гняздо. Начавалі ■ дзецьмі. У ніжняе прыляталі нанач усёй сям'ёй. І, вядома, хоць было не прасторна, а змяшчаліся. У верхнім, дзе было трое малых, пра якіх дзед сказаў «напэўна, запознены вывадак», таксама ўладкоўваліся пяцёра. Гэта дакладна. Я яшчэ завідна сам падлічыў, бачыў, як вытыркаліся тры галоўкі з чырвонымі роцікамі...

Хіба не пацешна і не цікаўна было чуць, як ластаўкі разам начуюць? Усё навокал цямнее, заціхае. Агні гаснуць у хатах. Усе кладуцца спаць... А я стаю ў гародчыку, прытуліўшыся да сцяны, і чую, як дарослыя ластаўкі і іх дзеці ў гняздзе таксама засынаюць, толькі нешта гамоняць спрасонку. Розныя чуюцца галасы. Днём дык яны ветліва шчабечуць, а цяпер — не такім, змораным тонам. Пішчаць, вядома, малыя... Можа, дарослыя ■ імі не ўгнездзяцца?.. Мне дык здаецца, што ў гэтым змрочна-шэрым, з прыгаршчы, камячку ідзе такая сямейная сварка.

«Пасунься!» — кажа адно. «Асцярожна, ты мне крыло балюча прыціснула»,— адказвае другое. «Ты наступіла мне на нагу». «Ціха ўжо, супакойцеся!» — чуцен старэйшы голас. Усё заціхае... А то раптам хтосьці сасніць жахлівы сон... Па-рознаму хто-небудзь спрасонку гукне. Чаго не бывае ў вялікай сям'і, якая расце, дужэе. Рыхтуецца ў палёт, у вырай. Можа, ім сняцца ўжо цёплыя воды?..

Назаўтра бягу ў школу, а ластаўкі прачнуліся раней. Яны крыляюць над вуліцай, над вадой каля рэчкі. Вунь са здабычай у дзюбе белагрудая спаднізу шмыгнула да гнязда, дзе тры галоўкі. Туды дарослыя падлятаюць па чарзе.

Мне смешна, як успомню іх учарашнія спрэчкі-гамонкі...

Неяк, вярнуўшыся з заняткаў у школе, я прыкмеціў, што з гнязда праз шчылінку не выглядаюць сінія галоўкі з белымі валлячкамі.

Я паклікаў дзеда. Ён выйшаў у футраку і цяжка сеў на лаўку. Я з ім побач.

Мы разам наглядалі, як птушкі ўтварылі нібы ка-

русель вакол сваіх гнёздаў. Да нашых ластавак далучыліся сяброўкі амаль з усяго канца сяла. І ўсе наладзілі якуюсьці цырымонію. Яны падляталі да закота хаты і лапкамі прыліпалі да яго дошак. Паблізу ад гнёздаў. Сядзелі і штосьці ўдзячнае вышчабечвалі. Мабыць, гэтаму кутку. Гэтаму дому. Адрываючыся ад закота, яны кідаліся ўніз, каб зноў узняцца ўгору і падляцець, прытуліцца шыйкай, усімі пер'ямі да месца вакол гнязда. Нібыта абняць, пацалаваць яго. Сапраўды, быццам ім хацелася падараваць пацалунак свайму доміку.

Адрозніць маладых птушак ад старэйшых было цяжка. Здаецца, усе лямалі аднолькава роўна. Усё мітусілася перад вачыма. У паветры над нашай хатай стаяў суцэльны шчэбет. Нейкі гімн радасці роднаму кутку. Аж сэрца заходзілася, калі мы глядзелі на гэта вясёлае птушынае відовішча. А якія вытваралі ластаўкі спрытныя адзіночныя падлёты! Кожная пікіравала знізу ўгору, у самы куточак зашчытка, каб там вільнуць і павольна, нячутна, нібы пакланіўшыся, упасці ўніз і знікнуць, растаць у паветры. Вільне і падае да зямлі. Мне крылатая белагрудка нагадвала серабрыстую плотку, што, выплыўшы з вады і на паверхні вільнуўшы хвастом, нырцавала на дно.

— Настала пара,— сказаў дзед.— Пара ў палёт. Пара адлятаць. А ты здзіўляўся. Усяму свая пара. Бачыш, ластаўкі ўжо не кормяць дзяцей, а толькі ўгаворваюць іх пакінуць гняздо. Развітваюцца са сваім домам. Глядзі, як вучаць іх плаваць у небе!.. Кожная птушка ведае, колькі сваё дзіцянё трэба карміць у гняздзе. Роўна столькі, колькі трэба — ні больш ні менш... Салавей перастае спяваць пасля сярэдзіны лета. Галубы спыняюць апеку над сваімі птушанятамі пасля шасці тыдняў. І так усё, усё на свеце. І птушкі, і жывёлы... І мы, браце, з табою ведаем, калі нам настае пара...

Я не разумеў сумны тон размовы дзеда.

Гняздо назаўтра апусцела. Нашы ластаўкі паляцелі. У каляндар я мог занесці чарговую занатоўку. Са шчыліны з-пад страхі больш не выглядалі тры шустрыя, прагна разяўленыя дзюбкі.

— Паляцелі нашы шчабятухі. Няма. Усё ўжо! — хваравіта сказаў дзед.— Адляцелі. Скора і мне ў вырай.

Ён цяжка ўздыхнуў.

— Куды? — не зразумеўшы, запытаўся я.— Ты пра што гэта, дзед?

Я неяк не прыкмячаў, што дзед па-свойму таксама сочыць за птушыным адлётам.

— Пра птушак,— сказаў ён.— Пра малады вывадак, які я табе заўсёды паказваў. От пра такі, як ты. Табе — у палёт!.. І пра стары, як я. І мне пара. Усяму настае пара.

Позняй восенню дзед злёг у пасцель.

Я яго клікаў у садок — ён не ўставаў. Я не хацеў верыць таму, што ён не можа хадзіць, і быў незадаволены. Нават абураўся, крыўдзіўся на яго. Мне не хацелася думаць, што дзед ужо не хадок да крыніц, у Галянішчава, дзе мы бывалі. Я пагражаў яму, што сам лягу з ім побач.

А дзеля чаго? Каб падбадзёрыць? Блазнота!

— Усяму ёсць свая пара,— сцвярджаў ён адно.

Вось тады дзед і расказаў мне казку пра палёт буслоў у вырай.

...Стаяла бяроза са зламаным бурай верхам. Верхавіна хоць зламана, але спадабалася буслам. Прыляцяць яны, двое, сядуць і сумуюць.

Тады людзі падумалі, як ім памагчы? Усцягнулі старую барану без зубоў і прыладзілі на бярозе.

Буслы звілі сабе буслянку на баране — вялікае гняздо. Кожны год яны прылятаралі гняздзіцца. І кожны год бусліха выводзіла буслянят.

Бацькі дзяцей кармілі. Дзеці падрасталі, выраставалі і з бацькамі адляталі ў вырай.

Аднаго разу яны прыляцелі вясной, як заўсёды, вывелі трое буслянят і кормяць іх. Малыя растуць, падрастаюць. Пачалі на ногі ўставаць і крыламі ўзмахваць. Хочуць лятаць. Бацька і маці радуюцца: хутка дзецям — на крылы! У палёт!

Неяк першае бусляня ўзмахнула крылом і паляцела. Бацька і маці, клякочучы, радасна яго праводзілі.

На другі дзень другое бусляня растапырыла крылы і паляцела. Кружаць у паветры бацька з маткай і двума буслянятамі, а трэці сядзіць на буслянцы. Не асмеліцца ўстрапянуцца.

Тут бусел-бацька сеў на гняздо і кажа:

— Пара. Пара і табе.

— Куды? — запыталася бусляня.
— На балота.
— Чаго?
— Жаб самому збіраць. Харчавацца будзеш. А будзеш есці — будзеш жыць.
— Я не палезу ў балота. Я не палезу ў ваду. Мне ў ногі холадна.
— А мне, старому, хадзіць па балоце не холадна? І мае ногі босыя, бачыш, чырвоныя ад холаду.
— Я не буду лазіць у сцюдзёную ваду. Ой, як гэта па ёй ходзяць?!
— Усе ходзяць, і ты прывыкнеш хадзіць.
— Там глыбокая твань. Бяздонная вада. Я плаваць не ўмею, яшчэ ўтаплюся.
— І я плаваць не ўмею.
— Ты дарослы,— кажа малое на старога.
— І ты станеш дарослым, як я. Збірайся ў дарогу.
— Я не ўмею лятаць.
— Вучыся. Паглядзі на сваіх братоў!
— Мне страшна, мне боязна...
— Чаго баяцца? У цябе ўжо сіла ёсць. Бачыш, дзе глыбока, узмахні крыламі і пераляці. Павінен сам шукаць ежу.
— Ат, я тут буду сядзець, каля цябе. Ты прынось мне ежу.
— Скіну! — раззлаваўся бацька.
І спіхнуў бусляня з гнязда.
Бусляня спачатку кумільгом ляцела з бярозы. А потым, ці то ад сполаху, ці то ад жаху, шукаючы ратунку — невядома ад якога парыву,— але ўзмахнула ўласнымі крыламі. Як узмахнула, дык і паплыло. Узмахнула раз, другі, трэці... І ўся зямля пад ім, што доўгі час унізе была невядомай, ляжала нерухомай, толькі засцілалася туманам, ажыла! Маладое бусляня падумала: «Як хораша!..»
— Дык што? — скончыўшы казку, запытаўся дзед.— Ты не станеш палахлівым бусляном?
— Не.
...Гэта казка дзеда была апошняй.
Я быў у школе, калі яго не стала.
Нібыта за ластаўкамі, ён паляцеў у вырай, адкуль, на жаль, няма звароту...
Застаўся вісець яго футрак на цвіку...
Мне так было цяжка і балюча, што я спачатку па-

прасіў настаўніка даручыць той год весці каляндар надвор'я каму-небудзь другому. А потым адумаўся. То ж і дзедаў наказ!

## ЯК ВЯСНУ РАБІЛІ...

Размытай каляіністай дарогай я і Люба ідзём дадому. Мы вяртаемся са школы, дзе абое вучымся ў сёмым класе. Сямігодку пабудавалі пры сельсавеце, кіламетры за чатыры ад нашага сяла, і таму вучні штодня ходзяць туды і назад гэтай дарогай, палова якой бяжыць праз лес.

Мы ідзём па лесе. Позняя восень. Ужо канец лістапада. Шэрыя, ірваныя хмары нізка імчацца над лесам, амаль чапляючыся за вяршаліны дрэў. Цярушыць дробны дожджык.

Абыходзім лужыны, гразь. Абапал дарогі стаяць, злёгку ківаючыся, мокрыя, хмурыя сосны, асыпаюць на галаву буйныя дажджавыя кроплі. Непрыветліва пазірае голы бярэзнік, асіннік. Вунь толькі зімні дубок трымае на сабе рыжае, сырое адзенне.

І ўсё ж тут цяплей, чым у полі. Мы з Любай зайшлі ў лес, нібыта ў хату, дзе можна абагрэцца ад халоднага, золкага ветру. Тут дарога зацішней. Яе мы, як кажуць, ведаем на памяць і, сапраўды, прыйшлі б да свайго сяла з заплюшчанымі вачыма.

У Любы ў руках партфелік з кніжкамі, а ў мяне — на папрузе цераз плячо скураная паштовая сумка. Апроч заняткаў у школе, я маю яшчэ абавязак зайсці ў сельсавет, на пошту: забраць газеты, пісьмы — усю карэспандэнцыю для нашага сяла. За гэта мне ў праўленні калгаса налічваюць як пісьманосцу дзесяць працадзён — першы сціплы заробак у маёй працоўнай дзейнасці. А што я — зломак?.. У гэтай сумцы і кніжкі-падручнікі, і сшыткі, і вялікая кіпа газет і часопісаў, так што папруга яе часамі добра-такі ўразаецца ў плячо. Але нічога, не цяжка!

З Любай мы заўсёды разам: дзелімся падручнікамі, разам збіраемся ў школу, разам робім хатнія заданні. Часам вось так ідзём, гаворым, спрачаемся, які

настаўнік лепш выкладае, каму якая дысцыпліна найбольш падабаецца, як хто зразумеў заданне па ўроку. І здараецца, што пасварымся,— тады яна ўжо не чакае мяне на мосце ля млына, калі я вяртаюся з пошты... Або пачакае, але ўсю дарогу маўчым, аж да самых агародаў нашага сяла. Ідзём адно за адным: я — наперадзе, яна — за мной. Нават словам не перакінемся. Толькі такое бывае рэдка. Часцей за ўсё нам весела — ідзём, жартуем. Аднойчы летась, узімку, усю дарогу каціла перад сабою лядзяш, то я носам дзеравянікa падштурхну, то яна валёнкам падфутболіць...

Сёлета, кажуць, зіма будзе раптоўная. Пералётныя птушкі ўсе адляцелі, засталіся сарокі ды вераб'і. Лісце, што апала на зямлю, пачарнела. Цэлымі тыднямі дажджы і дажджы. Столькі вільгаці выпадае, што зямля не здольна паглынуць усю ваду, і яна стаіць лужынамі на паверхні.

Холадна. Надакучыла такое надвор'е... Але мы ўжо не маленькія, каб на яго скардзіцца ці баяцца.

Вось, бывае, бліснe сонца, і ў гэтых лужынах на лясной дарозе адаб'ецца крыштальна-сіняе неба. І гэта чыста-сіняе неба, і яркая празрыстасць у паветры чымсьці нагадваюць іншую пару. Такую пару, калі ўжо сышоў снег, дарогі яшчэ не высахлі, зямля яшчэ не зацвярдзела пасля разводдзя, яшчэ ў лесе сыра, яшчэ не надышло цяпло, але ўжо наўкол адчуваецца вясна. Сапраўдная вясна!

От гэтую хвіліну той радаснай цёплай пары, якая чакала нас у будучым, раптам адчулі мы цяпер, ідучы па асенняй лясной дарозе.

...Дождж перастаў. Хмары над лесам падняліся ўгору. Павесялела. А потым выглянула сонца. Сосны дружна загаманілі, зашумелі...

Мы якраз былі на лясным узгорку. Далей дарога дзвюма каляінамі бегла ўніз, на палянку. Спускалася яна па глiністых прыпеках і парогах, перад якімі колы павыбівалі глыбокія калдобіны. У адной такой калдобіне стаяла вялікая лужына. Ад самага ранку сюды, відаць, яшчэ ніхто не ехаў, яшчэ не замуціў ваду, і яна ў лужыне была светлая, нібы крынічная. Люба і я зірнулі ў яе, як у люстэрка. Угледзелі адзін аднаго. Убачылі блакітнае неба, круглыя галіны зялёнай сасны над намі.

— Хочаш, я зараз зраблю вясну,— сказала Люба.

Прызнацца, я спачатку не ўгадаў яе намер. Спыніўся.

Люба паклала партфелік на ўзбочыну, знайшла ёмкую ламачыну і пачала вострым канцом капаць раўчук у белым гліністым прыпеку. Тады і я скеміў, нагнуўся, пачаў ёй памагаць.

Лужына адлюстроўвала неба, сонца, дрэвы. Яна застыла, чакаючы блізкіх замаразкаў, той сцюдзёнай раніцы, калі дыхне першы мароз і вада ў ёй сатнецца тоненькім, празрыстым, як шкло, лёдам. Шырокая, нерухомая, яна сабралася чакаць гэтае хвіліны.

І раптам — рухнула перад ёй плаціна: Люба пракапала раўчук... А я дапамог...

Вада шуганула ўніз, па каляіне, забулькала, заструменіла. У ёй заіскрылася сонца, зазіхацела неба, як вясной. Здаецца, толькі гэтага і не хапала на глухой асенняй дарозе.

Нам стала цёпла, як вясной. Ва ўсякім выпадку, такое адчуванне было на сэрцы ў абодвух. Люба глянула і засмяялася. Вочы яе былі сінія, як неба, і пераможна іскрыліся, як сонца ў вадзе, якое таксама ўмее рабіць вясну.

Калі лужына ўся сышла і на дне засталіся толькі шышальнік ды пачарнелае лісце, мы заўважылі, як прыток нашага ручая напоўніў другое такое вадазборышча. Вада там вось-вось магла пераліцца цераз гліністы парог. Люба пабегла і памагла ёй шугануць далей, уніз, да палянкі...

Так мы і ішлі ўслед за вадой узбоч дарогі: я нёс Любін партфель, а яна ламачынай прапускала, падганяла шумлівы ручай. Між намі струменіла веснавая плынь. Ну, чым не вясна!

Раптам Люба сказала:

— Вясной, як скончым сем класаў, паедзем у Мінск вучыцца?

— Не ведаю,— адказаў я.— А ты?

— І я не ведаю.

Гледзячы на бруістую, каламутную ваду, мы прайшлі колькі крокаў, і Люба зноў запыталася:

— А як мы калі-небудзь разлучымся, ты будзеш пісаць пісьмы?

Я не ведаў, што адказаць. Безумоўна, у сямігодцы — толькі сем класаў. Калі хочаш далей вучыцца, трэба нешта думаць. Мы ўжо не малыя. Але я так пры-

вык хадзіць разам, што разлука між намі, здаецца, не магла здарыцца.

— Усім ты носіш пісьмы,— сказала Люба,— а мне дык ніхто не напіша...

Яна зноў засмяялася, выхапіўшы з маіх рук свой партфелік, пераскочыла на ўзбочыну.

На палянцы Люба ўспомніла, як хадзіла вясной глядзець паводку. На рэчку. Яна з захапленнем расказвала, а я, мабыць, не слухаў. Думаў нешта такое, ад чаго на сэрцы было горача і радасна. У галаве кружылася думка: «А што, калі мне ёй напісаць?.. Можна напісаць?.. Можна ці няможна?..»

І я напісаў. Каб ніхто не бачыў і не ўведаў. Напісаў: «Люба!..» І яшчэ тры словы. (Самі ведаеце якія!) Унізе — сваё імя...

На гэта пайшло шмат часу. Цэлы вечар. Заклеіў у канверт і рашыў заўтра аддаць Любе, вяртаючыся дадому, там, пад круглай сасной.

...Не аддаў. Маўчаў усю дарогу. Дома расклеіў канверт, перачытаў і дамаляваў сасну. Намаляваў такую, якая адлюстроўвалася ў нашай лужыне...

Я насіў у паштовай сумцы сваё пісьмо, аж пакуль не прыйшла сапраўды вясна...

І аддаў яго Любе на тым самым месцы, на дарозе, пад сасной, дзе летась, увосень, было так золка, халадна і дзе, як выглянула сонца, нашы юнацкія сэрцы ўжо адчулі вясну.

ЗМЕСТ

**Иван Иванович Громович**

**КАК ВЕСНУ ДЕЛАЛИ**

*Рассказы и новеллы*

*Для младшего школьного возраста*

Минск, издательство «Юнацтва»
На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі *С. С. Панізнік*
Рэдактар *Л. М. Цяляк*
Малодшы рэдактар *В. В. Аколава*
Мастацкі рэдактар *В. І. Кліменка*
Тэхнічны рэдактар *Г. М. Шашко*
Карэктар *Л. І. Сайчанка*

ІБ № 575

Здадзена ў набор 14.06.84. Падп. да друку 23.11.84. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 8,40. Ум. фарб.-адб. 8,40. Ул.-выд. арк. 8,60. Тыраж 12 000 экз. Зак. 503. Цана 65 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.